Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 19 чэрвеня 1987 г. № 25 (3383) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

*21 чэрвеня — выбары ў мясцовыя Саветы*

## ЗА ДЭМАКРАТЫЮ, ЗА САЦЫЯЛІЗМ, ЗА ПЕРАБУДОВУ

Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў у адным з інтэрв'ю сказаў: у жыцці кожнага народа ёсць асаблівыя, «судьбоносные» гады. Такія, напрыклад, як гады Вялікай Айчыннай... Нам не дадзена ўсё прадбачыць, нашы сённяшнія справы ацэньваць нашчадкам, ім вырашаць, як назваць час, у які мы з вамі жывём. Але ўсім нам ясна: другая палавіна 80-х — гэта рубеж у жыцці, вялікі гістарычны шанс для лёсу міру, для лёсу сацыялізму. І ўпусціць яго мы не маем права.

Вось чаму напярэдадні выбараў у мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, ацэньваючы пройдзены шлях, мы не ў праве ўжо абмяжоўвацца звыклымі, бадзёрымі рапартамі: колькі пабудавана жылля, школ, дзіцячых садоў і бальніц, магазінаў і камбінатаў бытавога абслугоўвання. Вядома, гэта вельмі важна. Важна! Але ці можам мы маўчаць пра тое, што ў сацыяльнай сферы, дзе так многа залежыць менавіта ад мясцовых Саветаў, назапасілася шмат упушчэнняў, нявырашаных пытанняў? Вось вам прыклад: у сталіцы нашай рэспублікі бальніц, палiклінік, цырульняў і г. д. значна менш, чым прадугледжана нарматывамі.

Безумоўна важнае значэнне для нашай рэспублікі будзе мець нядаўна прынятая Вярхоўным Саветам БССР пастанова «Аб рабоце Саветаў народных дэпутатаў, дзяржаўных і партыйных органаў рэспублікі па выкананні пастановы ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшым павышэнні ролі і ўзмацненні адказнасці Саветаў народных дэпутатаў за паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця ў святле рашэнняў XXVII з'езда КПСС».

Мы павінны думаць не толькі пра дзень учарашні, ад якога шмат чаго атрымалі ў спадчыну — і добрага, і благога, не толькі пра дзень сённяшні, з яго супярэчнасцямі і няпростымі пытаннямі. Напярэдадні выбараў думаем, не можам не думаць — пра дзень заўтрашні. Умовай нашага руху ў будучыню, гарантам яго ўжо сёння становіцца дэмакратызацыя усіх сфер сацыялістычнага грамадства. І адным з праяўленняў гэтага працэсу сёлета сталі выбары па шматмандатных выбарчых акругах. У нашай рэспубліцы такія выбары праводзяцца ў Бялыніцкім, Глыбоцкім, Драгічынскім, Ельскім, Клецкім і Карэліцкім раёнах. Тое, што сёння толькі эксперымент, заўтра, мы ўпэўнены, стане звычайнай і паўсюднай практыкай. На гэта нацэльваюць рашэнні студзеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС.

Зразумела, гэта не адбудзецца само па сабе. Яшчэ дзейнічаюць у грамадстве сілы інерцыі, яшчэ цягне назад груз мінулага — усялякага роду казёншчына, фармалізм, бюракратычнае мысленне, звычка адміністраваць, усё, што супрацьстаіць сапраўднай дэмакратыі. Мы ведаем, што ў ходзе і цяперашняй перадвыбарнай кампаніі былі выпадкі вылучэння кандыдатаў па анкетных даных, па «разнарадцы», часам пад «націскам» вышэйстаячых інстанцый. Абмеркаванне кандыдатур нярэдка было фармальным. Не хапала разнастайнасці, удумлівай працы, наступальнасці ў рабоце агітацыйных цэнтраў. У людзей накапілася шмат пытанняў. І не на ўсе сёння мы даём адказы.

Мы павінны ўсвядоміць, ідучы на выбары, за што мы галасуем. Не толькі — за каго. Хоць зразумела і наша права выкрасліць з выбарчага бюлетэня таго, каго мы не лічым дастойным кандыдатам. Але і — за што.

Выбары, якія прайшлі нядаўна ў некаторых краінах Заходняй Еўропы, яшчэ раз паказалі ўсяму свету, што свабода гэтых выбараў — уяўная. Іх вынікі адлюстроўваюць сённяшні, імгненны настрой выбаршчыка, прыватны інтарэс кожнага з іх паасобку. Але яны не далі, не маглі даць адказу на галоўнае пытанне — што чакае мільёны людзей наперадзе? Ці пазбавяцца народы нават самых высокаразвітых капіталістычных краін беспрацоўя, дыктату манаполій, злачыннасці, глабальнага прэсінгу сродкаў масавай інфармацыі і рэкламы, сацыяльнай апатыі? Ці збавяцца народы ад пагрозы ядзернай вайны? Буржуазная дэмакратыя адказаць на гэтыя пытанні не ў стане.

Толькі сацыялістычная дэмакратыя дае народам правы і абавязак самім вырашаць свой лёс. У нас гэтае права замацавана ў Канстытуцыі СССР, Канстытуцыях саюзных рэспублік. Гэта ўсеагульнае, роўнае і прамое выбарчае права.

Дык за што ж мы галасуем напярэдадні 70-годдзя Савецкай улады? Мы галасуем за высокія ідэалы Вялікага Кастрычніка, за блок камуністаў і беспартыйных, за права выбіраць найбольш дастойных, за ліквідацыю чыноўніцка-наменклатурных прывілеяў, за абарону правоў асобы, за адмаўленне ад камандавання ў культуры, эканоміцы, палітыцы. «Сацыялізм — гэта дэмакратыя», — сказана з высокай трыбуны. І мы галасуем за дэмакратыю, за сацыялізм.

## ШЭСЦЬ СПЕКТАКЛЯЎ НА СЛАВУТАЙ СЦЭНЕ

**У Маскве гастралюе Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**

*Той, хто глядзеў у мінулы панядзелак інфармацыйную праграму «Час», не мог не звярнуць увагі на дзіўныя кадры, якімі суправаджаўся прагноз сіноптыкаў: пасля надзвычай моцнай залевы па маскоўскіх вуліцах хвалістым патокам бегла вада, запаволена ці то ехалі, ці то плылі аўтамабілі... Што і казаць, нетэатральнае надарылася надвор'е, ва ўсякім разе, не такое, якое хацелася б «папрасіць», бо менавіта ў панядзелак, 15 чэрвеня, адкрывалі свае сталічныя гастролі купалаўцы. І хіба не натуральна, што на наступны дзень, ухапіўшыся тэлефонным званком з рэдакцыі ў напружаны гастрольны расклад дырэктара тэатра І. ВАШКЕВІЧА, размову мы пачалі... вядома ж, з надвор'я...*

— Магчыма, дождж і перашкодзіў прыйсці на сустрэчу з намі ўсім жадаючым, тым не менш, спектаклю «Радавыя», паказанаму ў першы вечар, маскоўскі глядач наладзіў надзвычай гарачы і ўсхваляваны прыём, не зважаючы на тое, што п'есу А. Дударава добра ведаюць тут у пастаноўках Малога тэатра СССР і ЦАТСА... Чытачы «ЛіМа», напэўна, ужо ведаюць — сёлета на сцэне славутага Дома Астроўскага мы выступаем з шасцю творамі: апроч дудараўскіх «Радавых», гэта «Бура» У. Шэкспіра, «Дзеці сонца» М. Горкага, «Ажаніцца — не журыцца» братоў Далецкіх і М. Чарота, «Апошні журавель» А. Дударава і А. Жука і «Мудрамер» М. Матукоўскага. Наўрад ці трэба лішні раз паўтараць, наколькі сур'ёзна ставіцца наш калектыў да адказнай творчай справаздачы ў Маскве...

*— Іван Іванавіч, ці праўда, што ўсе білеты прададзены?*

— Сказаць так—будзе перабольшаннем. У першыя дні, як звычайна, да нас «прыглядаюцца» (дарэчы, у аднача́ссе з трыумфам праходзяць гастролі японскага тэатра «Кабукі»). Але ўжо цяпер магу засведчыць вялікі «попыт» на «Буру», беларускія вадзвілі і «Мудрамера». Жыва цікавяцца мастацтвам купалаўцаў спецыялісты, крытыкі і тэатразнаўцы, прэса — неўзабаве ў Саюзе тэатральных дзеячаў СССР будзе наладжана абмеркаванне нашага гастрольнага рэпертуару. Адбудзецца і шэраг творчых сустрэч з масквічамі, адна з іх пройдзе ў Цэнтральным Доме літаратараў імя А. Фадзеева, дзе мы пакажам спектакль «Вечар».

*— Што ж, зычым купалаўцам сапраўднага поспеху і... добрага надвор'я!*

— Вялікі дзякуй.

Гутарыў
А. ГАНЧАРОЎ.

## УНУМАРЫ:

## НАВІНЫ ТЫДНЯ

### ЮБІЛЕЮ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Семдзесят назваў кніг, брашур і альбомаў, аб'яднаных кастрычніцкай тэматыкай, — такі падарунак выдавецтваў рэспублікі юбілею рэвалюцыі.

Нядаўна, напрыклад, паступіла ў продаж выпушчаная «Навукай і тэхнікай» манаграфія доктара гістарычных навук А. Хацкевіча «Салдат вялікіх баёў». Гэта кніга расказвае аб жыцці і дзейнасці Ф. Дзяржынскага. Шырокая панарама сацыялістычных пераўтварэнняў у рэспубліцы паўстае ў гістарычным нарысе акадэміка АН БССР І. Ігнаценкі «Вялікі Кастрычнік у лёсе беларускага народа». Аб станаўленні Савецкай улады ў рэспубліцы, яе эканамічным, сацыяльным і культурным росквіце расказвае фотаальбом «Дарогай светлай Кастрычніка». Вялікую цікавасць маюць і такія кнігі, як «Палымнеў заранак новай эпохі», «У агні грамадзянскай вайны», «Ветэраны ленінскай партыі» і многія іншыя выданні.

### ТВОРЫ У. І. ЛЕНІНА—НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Выйшаў з друку падрыхтаваны Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ і выдавецтвам «Беларусь» трэці том выбраных твораў У. І. Леніна, выпуск якіх ажыццяўляецца ў дзесяці тамах на беларускай мове.

Змест кнігі склалі працы, напісаныя У. І. Леніным з мая 1901 па май 1904 года «З чаго пачаць?», «Што рабіць? Набалелыя пытанні нашага руху», «Праект праграмы Расійскай сацыял - дэмакратычнай рабочай партыі», «Да вясковай беднаты. Тлумачэнне для сялян, чаго хочуць сацыял-дэмакраты», «Праект статута РСДРП», прамовы і выступленні на II з'ездзе РСДРП, «Крок наперад, два крокі назад (Крызіс у нашай партыі)» і іншыя.

Цяпер чытаецца карэктура чацвёртага тома, у які ўвойдуць работы, што характарызуюць пачатак першай рэвалюцыі ў Расіі і расстаноўку класавых сіл — «Пралетарыят і сялянства», «Сацыял-дэмакратыя і часовы рэвалюцыйны ўрад», «Рэвалюцыйная дэмакратычная дыктатура пралетарыята і сялянства» і іншыя матэрыялы. У томе будзе змешчана таксама вядомая ленінская работа «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура».

### ВЯРТАННЕ Ў СОРАК ПЕРШЫ

Кожны год аддаляе нас ад таго трывожнага дня, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, і кожны раз 22 чэрвеня па-асабліваму трывожыць сэрца. Сёлета спаўняецца 46 гадоў, як фашысцкая Германія вераломна напала на Савецкі Саюз. Вяртанне ў сорак першы—вяртанне да болю і смутку, але ж гэта і вяртанне да вытокаў мужнасці і гераізму.

Пра гэта нагадаюць і два выданні, выпушчаныя выдавецтвам «Беларусь». Альбом каляровых здымкаў «Авеяная славай» (аўтар — складальнік Г. Ліхтаровіч) знаёміць з мемарыяльным комплексам «Брэсцкая крэпасць-герой», абаронцы якой першымі прынялі на сябе ўдар нямецка - фашысцкіх захопнікаў. Камплект з 9 паштовак «Брэсцкая крэпасць-герой» (аўтар-складальнік Т. Гарчанюк, фота Г. Ліхтаровіча) таксама расказвае пра мемарыял, пра музей абароны геraічнай цытадэлі.

Выданні гэтыя адрасуюцца і турыстам — тэксты пададзены, акрамя беларускай і рускай, яшчэ на англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай мовах.

### ЛІК ПЕРАКЛАДАЎ РАСЦЕ...

Плоўдзіўскае выдавецтва «Хрыста Г. Данаў»... У 1965 г. тут выйшла кніга аповесцей Васіля Быкава («Альпійская балада. Франтавая старонка. Пастка»). У 1980 г. пабачыла свет кніга аповесцей Віктара Казько «Высакосны год. Цвіце на Палессі груша», у 1982-м годзе — раман Івана Шамякіна «Вазьму твой боль», у 1984-м — аповесць Віктара Казько «Суд у Слабадзе», у 1986-м — кніга аповесцей Алеся Жука «Не забывай мяне. Паляванне на апошняга жураўля».

Трэба адзначыць ўвагу выдавецтва не толькі да выпуску нашых аўтараў, але і наогул да беларускай тэматыкі. Так, у 1982 годзе тут выйшла паэма даўняга сябра нашай літаратуры Стэфана Паптонева «Беларуская восень».

Новы імпульс узаемным кантактам дало творчае супрацоўніцтва паміж плоўдзіўскім часопісам «Тракія» і нашым «Нёманам», якое пачалося з абмену публікацыямі ў 1985 годзе.

Нядаўна па запрашэнні УААП Мінск наведаў галоўны рэдактар плоўдзіўскага выдавецтва «Хрыста Г. Данаў» А. Масенгаў. Ён меў гутарку ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, у якой удзельнічалі старшыня праўлення Максім Танк, першы сакратар Ніл Гілевіч, сакратары праўлення А. Жук, В. Зуёнак, В. Казько, сакратар партыйнай арганізацыі Васіль Гігевіч, галоўны рэдактар часопіса «Нёман» А. Кудравец, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» А. Вярцінскі, літкансультант СП Аляксей Гардзіцкі, перакладчыца В. Куляшова, прадстаўнікі УААП.

Адбылася таксама сустрэча ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». У гутарцы прынялі ўдзел дырэктар выдавецтва В. Грышановіч, галоўны рэдактар С. Андраюк, загадчык рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры Б. Сачанка. У час сустрэч размова ішла аб навінах братніх літаратур, пашырэнні выдавецкіх і творчых кантактаў, аб узаемаперакладах.

Л. ЧАРЭШНЯ.

### ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ ТАВАРЫСТВА КНІГАЛЮБАЎ

У чацвер адбыўся IV пленум рэспубліканскага праўлення Добраахвотнага таварыства кнігалюбаў БССР. З дакладам «Аб рабоце арганізацый ДТК БССР па прапагандзе грамадска - палітычнай літаратуры ў святле рашэнняў XXVII з'езда КПСС і ў сувязі з падрыхтоўкай да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка» выступіў першы намеснік старшыні рэспубліканскага праўлення М. Стукалаў.

Быў заслуханы даклад адказнага сакратара Мінскага абласнога таварыства кнігалюбаў Н. Балуковай «Аб развіцці грамадскіх пачаткаў і творчай ініцыятывы ў рабоце арганізацый кнігалюбаў». Садаклад зрабіў намеснік старшыні рэспубліканскага праўлення П. Вераб'еў.

Дакладчык і выступаўшыя ў спрэчках адзначалі плённасць работы па прапагандзе грамадска-палітычнай літаратуры, колькаснаму і якаснаму росту радоў кнігалюбаў, актывізацыі дзейнасці пярвічных арганізацый і іншых фарміраванняў таварыства ў сувязі з падрыхтоўкай да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Разам з тым указвалася, што шмат яшчэ неабходна зрабіць, каб кожная кніга знаходзіла свайго чытача, а ў рабоце пазбавіцца фармальнасці.

Старшыня Мінскага гарадскога таварыства кнігалюбаў пісьменнік В. Казько, у прыватнасці, гаварыў аб паляпшэнні работы па прапагандзе беларускай кнігі.

### КОЛАСАЎЦЫ—У ДОМЕ КОЛАСА

Кожны раз, праводзячы гастролі ў Мінску, артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа з прыемнасцю наведваюць сядзібу песняра. Як заўсёды, іх гасцінна сустракае сын народнага паэта, заслужаны работнік культуры БССР Д. Міцкевіч. Не парушылі гэтай добрай завядзёнкі коласаўцы і сёлета.

Адбылася задушэўная гаворка. Галоўны рэжысёр тэатра В. Мазынскі расказаў пра надзённыя клопаты калектыву, пра далучэнне тэатра да Коласавай тэматыкі. Цікава было паслухаць старэйшую коласаўку, народную артыстку БССР З. Канапельку. Яна прыгадала той незабыўны час, калі ёй, 16-гадовай дзяўчыне, пашчасціла ўвасабляць на сцэне адну з гераінь п'есы «Вайна вайне», сустракацца з аўтарам твора. Прымала ўдзел артыстка і ў спектаклі «Навальніца будзе» па трылогіі «На ростанях».

Само сабою зразумела — гучалі на сустрэчы словы песняра. Былі прачытаны ўрыўкі з «Новай зямлі» (артысты А. Лабанок і Р. Грыбовіч), паказана сцэна са спектакля «Сымон-музыка» (народны артыст БССР Я. Шыпіла і М. Краснабаеў). Узрушыла слухачоў апавяданне «Дзяліцьба» ў майстэрскай інтэрпрэтацыі заслужанага артыста БССР Б. Сяўко. Народныя песні задушэўна выканала заслужаная артыстка БССР Т. Мархель.

І. КУРБЕКА.

# «МЫ ПАВІННЫ ЛЕПШ ВЕДАЦЬ АДЗІН АДНАГО»

У Савецкім Саюзе праходзяць Дні Іспаніі з удзелам аўтаномнай вобласці Валенсія.

На гэтым тыдні дэлегацыю ўрада і грамадскасці Валенсіі гасцінна сустракала сталіца нашай рэспублікі. Сярод гасцей — члены таварыства іспана-савецкай дружбы, прадстаўнікі ўрада Валенсійскай вобласці, актывісты вядучых прафсаюзаў Іспаніі — прафканферэнцыі «Рабочыя камісіі» і Усеагульнага саюза працоўных, рэктары вышэйшых навучальных устаноў, артысты і музыканты. Разам з афіцыйнай дэлегацыяй у Мінск прыбыла вялікая група іспанскіх турыстаў.

Валенсійская вобласць — край старажытнай і арыгінальнай культуры. Гісторыя яго ідзе сваімі карэннямі ў глыб стагоддзяў. Яшчэ ў XIII ст. каралеўства Валенсія на роўных правах з іншымі каралеўствамі — «федэрацыямі» ўвайшло ў склад Арагонскай кароны. Валенсія — радзіма пісьменнікаў-класіцыстаў А. Марча, Р. дэ Карэлы, Дж. Мартарэля. У XVIII стагоддзі тут працавалі пісьменнікі-асветнікі Майанс, Каванільес, Х. Хуан, П. Байер і многія іншыя.

З Валенсіяй звязаны гераічныя старонкі гісторыі Іспанскай Рэспублікі. У 30-я гады, у час асады Мадрыда, антыфашысцкі ўрад Рэспублікі пераехаў у Валенсію. У ліпені 1937 года тут адбыўся Другі Міжнародны Кангрэс пісьменнікаў у абарону культуры, у якім прымалі ўдзел і савецкія літаратары.

Валенсійская вобласць атрымала канстытуцыйную аўтаномію дзесяць гадоў назад. Сёння Валенсія — адна з 17-ці аўтаномных абласцей Іспаніі, на тэрыторыі якой, у правінцыях Касцільён, Валенсія і Алікантэ, жыве больш як 3,5 мільёна чалавек.

Сучасная Валенсія — гэта буйны прамысловы і сельскагаспадарчы цэнтр Іспаніі. Прадпрыемствы вобласці экспартуюць у многія краіны свету аўтамабілі, камп'ютэрную тэхніку, абутак, адзенне, дываны, цацкі і многае іншае.

Пра гісторыю і сённяшні дзень вобласці Валенсія ішла, у прыватнасці, размова на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 16 чэрвеня ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

З прывітальным словам да прысутных звярнуўся старшыня прэзідыума таварыства дружбы А. Ваніцкі.

Намеснік сакратара кабінета ўрада Валенсійскай аўтаномнай вобласці М. Прыета гаварыў аб важнасці ўмацавання дружалюбных сувязей паміж народамі Іспаніі і Савецкага Саюза для стварэння клімату даверу, узаемаразумення і супрацоўніцтва. Віцэ-прэзідэнт таварыства «Іспанія—СССР» і прэзідэнт яго Валенсійскага аддзялення Х. Л. Сантас падкрэсліў важнасць пашырэння кантактаў паміж дзвюма краінамі на ўсіх узроўнях. Такія кантакты, гаварыў госць, не проста прыносяць карысць і ўзаемнае задавальненне, яны з'яўляюцца жыццёвай неабходнасцю. Яшчэ не так даўно ў Іспаніі было зусім мала, ды і цяпер яшчэ, на жаль, не хапае аб'ектыўнай інфармацыі аб Савецкім Саюзе. Мы адчуваем, што кепска ведаем адзін аднаго, — сказаў Х. Л. Сантас. Культурная і ўсякая іншая ізаляцыя зусім не спрыяе паляпшэнню абстаноўкі ў нашым супярэчлівым свеце. У Іспаніі, падкрэсліў Сантас, з агромністай цікавасцю і сімпатыяй сочаць за пераўтварэннямі, якія адбываюцца цяпер у СССР. З новымі савецкімі ініцыятывамі ў галіне раззбраення ўсё больш людзей звязваюць спадзяванні

### ВЕЧАР ДРУЖБЫ

16 чэрвеня адбыўся сход прадстаўнікоў грамадскасці Мінска, прысвечаны Дням Іспаніі ў СССР.

На вечары прысутнічалі намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай, сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. М. Сыраегіна, кіраўнікі раду міністэрстваў і ведамстваў, дзеячы навукі і культуры, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, члены дэлегацыі ўрада і грамадскасці аўтаномнай вобласці Валенсія.

На сходзе выступілі старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі А. М. Ваніцкі і віцэ-прэзідэнт таварыства «Іспанія — СССР» Хасэ Луіс Сантас.

Прывітанне ад жыхароў Валенсіі грамадскасці Мінска і ўсяму беларускаму народу перадаў намеснік сакратара кабінета ўрада аўтаномнай вобласці Валенсія Мануэль Прыета.

У заключэнне вечара адбылася канцэрт народнага фальклорнага ансамбля з Валенсіі «Алімара».

## ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

# ГАЛАСЫ Ў ПАДТРЫМКУ...

## «ЗАТАПЛЕННЕ»
## («ЛіМ» № 1 за 2 студзеня 1987 г.)

«У многіх з нас выклікае сур'ёзны непакой, нават страх, цяперашняя экалагічная сітуацыя ў краіне. Газеты шмат гавораць пра яе, але мала чаго дамагаюцца. Асобныя часовыя поспехі не могуць нас задаволіць, таму што гэта ўсё ж такі не перамога».

Гэта цытата з артыкула Валянціна Распуціна «Калі ж, як не цяпер?», змешчанага ў «Правде» за 5 мая г. г. Звярніце ўвагу, дарагі чытач, на фразу: «Газеты шмат гавораць... але мала чаго дамагаюцца». Чаму ж так адбываецца? Ці не таму, што вельмі часта крытычнае, неабвержанае выступленне газеты натыкаецца на браню ведамасных інтарэсаў?

Усё гэта даводзіцца канстатаваць і ў сувязі з апублікаваным у пачатку гэтага года ў «ЛіМе» артыкулам «Затапленне», дзе гаварылася пра шкоду, якую нанясе прыроднаму асяроддзю і эканоміцы дзвюх суседніх рэспублік — Латвіі і Беларусі — узвядзенне Даўгаўпілскай ГЭС.

Як паказвае пошта «ЛіМа», пазіцыя газеты знайшла падтрымку ў чытачоў. Гэта засведчылі дзесяткі лістоў у рэдакцыю, аўтары якіх — літаратары, вучоныя, інжынеры, краязнаўцы, рабочыя, студэнты — палічылі сваім грамадзянскім абавязкам узвысіць голас у абарону аднаго з прыгажэйшых куткоў Беларусі. Некалькі падборак гэтых лістоў былі надрукаваны ў нумарах «ЛіМа» за 20 лютага, 13 сакавіка, 10 красавіка г. г.

Разам з тым, рэдакцыя адчувае перад чытачамі і пэўную віну — на сённяшні дзень мы не можам ім адказаць канкрэтна, пагроза затаплення поўначы Віцебскай вобласці знята ці па-ранейшаму існуе?

Дыпламатычна абышлі гэтае пытанне ў сваіх адказах рэдакцыі кіраўнікі Дзяржплана рэспублікі і Дзяржкампрыроды БССР. Адмаўчаліся, хоць мы і звярталіся да іх, кіраўнікі Акадэміі навук БССР і Віцебскага абкома партыі.

Працягваюць ісці ў рэдакцыю лісты пра «затапленне». Вось пісьмо жыхароў гарадскога пасёлка Дзісна, які, згодна з праектам будаўніцтва вадасховішча пры Даўгаўпілскай ГЭС, амаль увесь апынецца ў зоне затаплення. Аўтары ліста з трывогай пытаюцца, куды і калі іх будуць эвакуіраваць, чаму мясцовыя ўлады не растлумачваюць людзям, якую яны атрымаюць матэрыяльную кампенсацыю, як будзе з уладкаваннем на працу і г. д. Гэтыя пытанні ўзнімаліся і ў артыкуле «Затапленне», але, як бачыце, «туман» невядомасці па-ранейшаму вісіць над вёскамі і пасёлкамі ў зоне вадасховішча.

Многіх чытачоў трывожыць лёс археалагічных і архітэктурных помнікаў, якія апынуліся ў зоне затаплення. «Нам, гісторыкам, археолагам і краязнаўцам, мо больш за іншых бачны згубныя вынікі знішчэння вялікай колькасці каштоўнейшых для беларускай і ўсёй айчыннай гісторыі помнікаў,— пішуць у рэдакцыю супрацоўнікі Гомельскага абласнога краязнаўчага музея Т. Літвінава, І. Літвінаў, А. Макушнікаў, Т. Шода і студэнты Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Н. Сяргеенка і А. Драбашэўскі.— Усе мы даўно чакаем адказу на трывожнае пытанне: да якога часу «Закон аб ахове помнікаў гісторыі і культуры Беларускай ССР» — важнейшы дзяржаўны дакумент—будзе існаваць толькі на паперы? Мы пастаянна сустракаемся з фактамі разбурэння помнікаў культуры, архітэктуры, археалогіі, прыроды, некаторыя кіраўнікі на месцах без усякага вагання аддаюць

на больш трывалы і бяспечны мір.

Пра цікавасць да жыцця савецкіх людзей гаварыў і рэктар універсітэта горада Алікантэ М. Матэа. Іспанская інтэлігенцыя з непадробным захапленнем цікавіцца працэсамі, якія адбываюцца ў культурным жыцці ў СССР. Я ўпершыню ў Савецкім Саюзе, сказаў Матэа, і вельмі рады магчымасці бліжэй пазнаёміцца з жыццём вашай рэспублікі, з савецкімі людзьмі.

Прарэктар політэхнічнага інстытута Валенсіі П. Ронг выказала надзею, што абмен студэнтамі, які практыкуецца паміж Іспаніяй і СССР, будзе пашырацца і надалей, што сустрэчы моладзі Валенсіі са студэнтамі Мінска паслужаць умацаванню культурных сувязей паміж Валенсіяй і сталіцай Беларусі.

На прэс-канферэнцыі былі дадзены адказы на пытанні журналістаў.

●

Культурная праграма Дзён Іспаніі ў Савецкім Саюзе з удзелам аўтаномнай вобласці Валенсія — надзвычай насычаная і разнастайная. Яркія летнія фарбы як нельга лепш адпавядалі атмасферы свята, якім стала знаёмства з творчасцю валенсійскіх артыстаў, мастакоў, музыкантаў.

Надзвычай цёпла сустрэлі мінскія гледачы выступленні фальклорнага танцавальнага ансамбля «Алімара». Ансамбль узнік у 1976 годзе па ініцыятыве ўдзельнікаў семінара народнага мастацтва, які дзейнічае пры кафедры гісторыі мастацтва на факультэце філасофіі і філалогіі Валенсійскага універсітэта. Па ініцыятыве гэтай жа групы штогод у Валенсіі праводзіцца фестываль народнага танца —Дзень «Ла Данса». Кожны танцавальны нумар у выкананні ансамбля «Алімара»—гэта вынік карпатлівай работы. Артысты з любоўю і ашчаднасцю аднаўляюць фальклорныя традыцыі музычнай творчасці жыхароў Валенсіі.

Выступленне «Алімары» — гэта сапраўдны музычны спектакль, тэма якога — Работа і Свята («Фаэна» і «Фіеста»). Хота фанданга Садоса, Біярская чычара, сегідылья мястэчка Ла Фойя-дэ-Касцілья, танец Ветлаторы, балеро «Зорка» і іншыя танцы ў выкананні «Алімары» перадаюць лепшыя рысы іспанскага народа — працавітасць, пачуццё ўласнай годнасці, гумар і аптымізм, любоў да жыцця.

Надзвычайную цікавасць усіх аматараў музыкі выклікалі выступленні ў Мінску валенсійскага арганіста Вісентэ Роса. Роса выкладае па класе аргана і клавесіна ў Валенсійскай кансерваторыі, дырэктарам якой ён з'яўляецца. Ён кіруе таксама часопісам «Кабанільес», матэрыялы якога цалкам прысвечаны класічнай музыцы.

У праграме выступленняў музыканта -- творы кампазітараў Іспанскай арганнай школы (П. А. Віла, Ф. Пераса, П. Насарэ, А. Салер) і Валенсійскай арганнай школы (Х. Б. Кабанільес, Ф. Х. дэ Сан-Аўгусцін, В. Эрвас, А. Бланкер і іншыя), напісаныя ў XVI—XVIII стагоддзях. Большасць з гэтых твораў выконвалася ў Мінску ўпершыню.

У мінскім Палацы мастацтваў працуе комплексная выстаўка сучаснага жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, фатаграфіі і кніг, якая знаёміць гледачоў з рознымі бакамі жыцця і традыцыямі Валенсійскай вобласці.

Кінаэкраны Мінска былі аддадзены фільмам іспанскіх кінарэжысёраў — «Кармэн» К. Сауры, «Мінулае было памылкай» П. Олеа, «Загадка старадаўняй кнігі» Р. Р. Марчэнта, «Гняздо» Х. дэ Арміньяна, «Сем дзён у студзені» Х. А. Бардэма. Акрамя таго, маленькія гледачы пазнаёміліся з поўнаметражным мультыплікацыйным фільмам «Гулівер у краіне волатаў» рэжысёра К. Дэльгада.

У рамках Дзён Іспаніі ў Мінску адбыліся таксама лекцыі па гісторыі, літаратуры і архітэктуры Валенсійскай вобласці.

**НАШ КАР.**

---

**загады накшталт такога: «Знесці гэты, нікому не патрэбны, курган».**

**Каму-каму, а папрокі гэтыя не ў брыво, а ў вока нашаму Рэспубліканскаму таварыству аховы помнікаў гісторыі і культуры, якое назву сваю пакуль што апраўдвае слаба. Праяўляе поўную інертнасць таварыства *і па пытанні*, звязаным з будаўніцтвам Даўгаўпілскай ГЭС і стварэннем 200-кіламетровага вадасховішча на тэрыторыі Беларусі. «Які лёс наканаваны гістарычным і археалагічным помнікам, народнай і культавай драўлянай архітэктуры ў раёне затаплення?» — законна пытаюцца гомельскія аўтары.**

***Мы таксама чакаем ад Таварыства пэўнага адказу на гэтае пытанне.***

**Вельмі радуе высокая грамадзянская актыўнасць многіх нашых чытачоў. У мінулае адыходзіць час, калі людзі лічылі за лепшае не лезці «не ў сваю справу», калі жыццёвым крэда многіх станавілася прымаўка — «мая хата з краю». Здавалася б, што ўрачу з Віцебска М. Паўлаву *тая* Даўгаўпілская гідраэлектрастанцыя, яго ж справа — лячыць хворых. Ды ў сваім лісце ў рэдакцыю ён абураецца тым, што не было яшчэ ў прэсе ніводнага выступлення вучоных з разглядам гэтай сур'ёзнай праблемы. Папрок сур'ёзны і слушны. Сапраўды, узнікае пытанне: як ставіцца да гэтай праблемы Акадэмія навук БССР? Ці супадае яе пазіцыя з пазіцыяй латышскіх вучоных, якія рашуча выступілі супраць будаўніцтва станцыі?**

***Думаецца, не выпадкова, што сярод аўтараў газеты, якія адгукнуліся на артыкул «Затапленне», пераважае моладзь. Моладзь — яна заўсёды вельмі чуйна рэагуе на любы «сейсмічны» сігнал у грамадскім жыцці. Рэагуе з уласцівым маладосці максімалізмам, з пафасам, горача. Слушна ж кажуць: «Эмацыянальнасць — катэгорыя маральная». Пра гэта думаеш, чытаючы лісты ў рэдакцыю студэнтаў факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна — 63 подпісы, і членаў добраахвотнай народнай дружыны па ахове прыроды Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага інстытута імя Кірава — 10 подпісаў. «Усё можна вымераць рублём — і будаўніцтва гідраэлектрастанцыі, і страту дзесяткаў населеных пунктаў, эвакуацыю людзей, нельга толькі вымераць грашамі прыгажосць гэтых мясцін, прыгажосць, якую намерыліся вынішчыць»,— пішуць студэнты-тэхнолагі.***

***На заканчэнне хочацца далей працытаваць змешчаны ў «Праўдзе» артыкул: «У нас скампраметаванае непрадуманымі дзеяннямі міністэрства і вухам не варухне, ведаючы, што грамадскай думцы дазволена гаварыць, але мала што дазволена пакуль рашаць. А крытыка што ж... Да яе можна прызвычаіцца. Яна, пераконваюць, здольна нават прыносіць задавальненне».***

***Мудра сказана. Ды хацелася б, каб памыліўся масціты пісьменнік.***

**Міхась ЗАМСКІ.**

---

**ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ**

**Уладзімір МЕХАЎ**

# ПРАЎДА ГІСТОРЫІ І ГІСТОРЫЯ ПРАЎДЫ

**1.**

Як гаворыцца, з белай зайздрасцю глядзеў я нядаўнюю прэм'еру тэлевізійнага серыяла драматурга М. Шатрова і рэжысёра Л. Пчолкіна «Штрыхі да партрэта У. І. Леніна». Не ўсё, далёка не ўсё ім удалося. Але асобныя пралікі — што яны ў параўнанні з высокім зарадам, які адметную работу вызначае! Зарадам непадробнага рэвалюцыйнага запалу. Зарадам праўды. Няцяжка зразумець, чаму дарога гэтых фільмаў да гледача была такой няпростай. Задужа вытыркаліся яны тады, калі нарадзіліся, з пракруставага ложа мілай чыноўнікам ад мастацтва схемы.

І сярод таго, што ўзрадавала, што ўразіла ўжо ў першай, лічу, самай яркай карціне серыяла «Пайменнае галасаванне», што адразу засведчыла смеласць і нестандартнае мысленне яе стваральнікаў, — адхіленне ад стэрэатыпу, ад звычнага шаржу пры паказе людзей, што, займаючы ў маладой Савецкай дзяржаве высокае становішча, выступілі супроць, не прынялі пазіцыі У. І. Леніна ў адносінах да Брэсцкага міру.

Калі, напрыклад, на экране паўстаў у выкананні Алега Яфрэмава Мартаў, я не мог не ўспомніць сваё, не так і даўняе. Група, якой зрабілі мы потым цыкл дакументальных гісторыка-рэвалюцыйных фільмаў, адзначаны зараз Дзяржаўнай прэміяй БССР, заканчвала на студыі «Беларусьфільм» работу над стужкай, што фактычна гэты цыкл пачала, — фільмам «Хутка і ў што б гэта ні стала...» Пра эпізод з часу падрыхтоўкі Пражскай канферэнцыі бальшавікоў. Пра тое, як неабходнасць згуртавання партыі запатрабавала ад ленінцаў адмежавання ад былых аднадумцаў, што аднадумцамі быць перасталі. У сувязі з гэтым у фільме згадваўся Мартаў. На экране з'яўляўся здымак, усім нам вядомы са школьных гадоў, дзе разам з іншымі членамі кіраўніцтва пецярбургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» з Леніным сфатаграфаваны і Мартаў. І калі толькі што зманціраваную карціну паказвалі мы мастацкаму савету аб'яднання «Летапіс», адзін шматмудры ўсявед-рэдактар шапнуў мне:

— Мартава выкіньце. У тэксце назавіце, як адступніка, і хопіць. Фатаграфіі не трэба.

Я прыкінуўся прасцячком:

— Чаму? Гэтая фатаграфія ўсюды ў музеях, у падручніках...

Рэдактар меў у аб'яднанні аўтарытэт знаўцы вышэйшай кінематаграфічнай палітыкі.

— Захацеў непрыемнасцей? Не пройдзе Мартаў, нізавошта не пройдзе!..

Прадказанне не збылося, да фатаграфіі з Мартавым прэтэнзій нідзе не выказвалася. Але рэдактарава перасцярога была, тым не менш, паказальная. Са шматгадовай практыкі ён цвёрда засвоіў: гістарычныя фігуры накшталт Мартава могуць падавацца гледачу і чытачу адназначна — і чым чарней, тым *лепш*.

А тут раптам стаўленне да вобраза іншае. Аўтар, рэжысёр, акцёр не кпяць з апанента Уладзіміра Ільіча, а імкнуцца зразумець і яго, сочаць за логікай і ягонай думкі. І ў газеце ЦК КПСС «Советская культура» ў рэцэнзіі на серыял чытаю: «Так, Мартаў трымаўся сваёй палітычнай канцэпцыі, якая не супадала з ленінскай. Але гэта быў чысты чалавек і перакананы палітычны дзеяч».

Згадзіцеся, *ні* чытаць такое, ні чуць пра лідэра меншавікоў мы не прывучаны.

**2.**

Думаецца, у нас замнога такіх рэдактараў, як мною прыгаданы. На ўзроўнях вышэйшых і ніжэйшых. На кінастудыях, у выдавецтвах, у рэдакцыях часопісаў і газет, у навуковых установах. І асвятленне нашага мінулага, у тым ліку рэвалюцыйных яго падзей, ад гэтага нямала церпіць. Уяўленне аб ім даецца мастацтвам, літаратурай, ды і навукай збедненае, схематычнае, пазбаўленае аб'ёмнасці, пульсавання жыцця. Цэлым пакаленням — і ўжо не аднаму — нічога не гавораць некаторыя імёны, дальбог жа, вартыя людской памяці і, безумоўна, больш зычлівай увагі гістарыяграфіі.

Не сумняваюся, напрыклад, што юнымі чытачамі з удзячнасцю сустрэта была б прыгодніцкая аповесць пра Аляксандра Савіцкага — гістарычную асобу, сёння абсалютна ім невядомую. На пачатку стагоддзя пагудка пра гэтага беларускага Робіна Гуда хадзіла па ўсёй краіне. На Гомельшчыне, на сумежных з ёю Браншчыне і Чарнігаўшчыне ён быў увасабленнем немінучасці расплаты за прыніжэнне знядоленых, на чале вялікага атрада лясных мсціўцаў трымаў у страху крывасмокаў-абшарнікаў, ліхадзеяў-спраўнікаў, несправядлівых суддзяў. Мяркуючы па легендах, у яго натуры хапала авантурнага, бунт гэты быў стыхійны, без яснай мэты ўперадзе. І ўсё-такі постаць Савіцкага вельмі ж прывабная, рамантычная, характэрная на вогненным небасхіле Беларусі часу першай расійскай рэвалюцыі.

Гадоў з дваццаць назад я з цікавасцю пачуў, здаецца, на пасяджэнні прэзідыума праўлення нашага пісьменніцкага саюза, што ў літаратурнай спадчыне Рыгора Мурашкі захаваўся неапублікаваны твор пра Аляксандра Савіцкага. Не ведаю, якога жанру, памеру, не ведаю, удалы ці не вельмі. Ды падкупляе, наводзіць на прыхільны роздум сам факт, што аўтар папулярнага ў перадваеннае дзесяцігоддзе рамана «Сын» — пра бурлівы 1905 год у нашым краі — жыў гэтай тэмай і яшчэ хацеў асэнсаваць і па-мастацку паказаць тагачасны выбух народнага гневу ў самых розных яго выявах.

Толькі ж з вуснаў члена камісіі па спадчыне Мурашкі, які з тым рукапісам знаёміўся, на пасяджэнні прагучала катэгарычнае:

— Аб публікацыі гаворкі быць не можа: Савіцкі — эсэр.

Пытанне было, што называецца, закрыта.

Паколькі звяртаюся час ад часу да гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыкі і я, то ў архівах, у старых часопісах сутыкаўся з тым-сім пра Савіцкага. І з матэрыялаў, якія траплялiся, прыналежнасці яго да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў з пэўнасцю не вынікае. Ёсць і меркаванні, што ён быў беспартыйны, ніякай акрэсленай палітычнай платформы не трымаўся, хоць шлях барацьбы абраў, вядома, эсэраўскай афарбоўкі. Але калі нават быў ён эсэр, ці да месца тут пурысцкае адмаўленне напісанага Мурашкам, адмаўленне ў праве гістарычным асобам, накшталт Савіцкага, на літаратурнае, сцэнічнае, экраннае існаванне? Не забудземся, што маецца на ўвазе расказ пра перыяд першай расійскай рэвалюцыі, калі, згодна Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, «...бальшавікі, з прычыны таго, што эсэры ўдзельнічалі ў агульнанароднай барацьбе супроць царызму, ішлі, пры пэўных умовах, на часовыя пагадненні з імі». Поўнае разыходжанне паміж бальшавіцкай і эсэраўскай партыямі, аж да таго, што апынуліся яны па розныя бакі барыкад, — з'ява далейшай хады гісторыі. То ў коле юнацкага чытання хіба не прыдалася б рэч, якая прасачыла б вытокі гэтага пазнейшага палярнага разыходжання, памагла б зразумець памылку, нават трагедыю многіх мужных, суб'ектыўна сумленных змагароў, што адгукнуліся сэрцамі на позву вонкава эфектнай эсэраўскай тактыкі «актыўнага дзеяння», не разгледзелі яе бясплённасці, асуджанасці?

Няма пра Савіцкага не тое што кнігі — нататкі ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Пятру Карповічу БелСЭ трынаццаць радкоў адвяла. Імя яго носіць і вуліца ў Гомелі. Але хіба справядліва, хіба, урэшце, па-гаспадарску гэтым абмежавацца і адмахнуцца ад лёсу, асэнсаванне якога таксама магло б прынесці літаратуры і мастацтву здабытак? Тут жа столькі для сюжэта высокага трагедыйнага напалу! Здзяйсненне тэрарыстычнага акта, рэха якога скаланула Расію, — акта помсты рэакцыйнаму царскаму міністру за спробу любымі захадамі спыніць пранікненне ў студэнцкае асяроддзе рэвалюцыйных настрояў. Сяброўства і супольніцтва з кумірам тэрарыстаў, тады яшчэ не выкрытым Азефам, — і горыч расчаравання, адыход ад палітычнай дзейнасці пасля ганебнага і страшнага, што стала вядома пра Азефа. Сімвалічная ў нечым гібель у 1917 годзе па дарозе з эміграцыі на свабодную ад самаўладства радзіму— карабель у моры патануў, прабіты тарпедай з германскай падводнай лодкі...

Ды што фігуры, як Савіцкі і Карповіч,—нават на Зміцеру Жылуновічу, якому выпала ў снежні васемнаццатага года пачэсная місія скласці тэкст Маніфеста аб нараджэнні Беларускай сацыялістычнай дзяржаўнасці і першаму той Маніфест падпісаць, нават на ім, кіраўніку першага ўрада нованароджанай Савецкай Беларусі, усё яшчэ нейкі цень! Да пісьменніка Цішкі Гартнага палітычных прэтэнзій як быццам няма, яго творы выдаюцца, вывучаюцца, даследуюцца. А вось да грамадскага дзеяча Жылуновіча — нібыта ёсць. Нібы іх можна процінаставіць, Гартнага і Жылуновіча. Нібы гэта не тое самае, што процінастаўляць Янку Купалу — Івану Луцэвічу, Якуба Коласа — Канстанціну Міцкевічу, Змітрака Бядулю — Самуілу Плаўніку... Тым не менш некаторыя гісторыкі і сёння бездапаможна ўздыхаюць, пачуўшы імя Жылуновіча.

Прыклады перасцярожлівага стаўлення часопісаў, газет, выдавецтваў да гістарычных асоб, якія складанасцю пражытага жыцця, неадназначнасцю здзейсненага якраз убагачаюць панараму руху Беларусі да Кастрычніка, можна прыводзіць яшчэ.

У выдавецтве «Юнацтва» каторы год выходзіць серыя «Слава твая, Радзіма» — кнігі пра людзей, знаёмства з жыццёвым подзвігам якіх павінна абуджаць у чытачоў гонар за родны край. Справа вартая, зразумела, ухвалы і падтрымкі. Але зноў жа — у гэтую партрэтную галерэю дапускаюцца толькі тыя героі, пра якіх ужо шмат

*(Заканчэнне на стар. 15).*

## КНІГАПІС




В. ЗУЁНАК. Маўчанне травы. Паэма. Пераклад з беларускай. М., «Советский писатель», 1987.

**«Маўчанне травы», як вядома, адзін з самых значных твораў не толькі ў Васіля Зуёнка, але і ва ўсёй беларускай паэзіі апошніх гадоў. У паэме прасочваецца лёс чалавека на самых розных скрыжаваннях часу.**

**На рускую мову «Маўчанне травы» пераклаў Іван Бурсаў.**




А. ЛОЙКА. Пралескі ў акопе. Вершы. Серыя «Бібліятэка беларускай паэзіі». Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**Алег Лойка асэнсоўвае ў лепшых сваіх творах дзень сённяшні і звяртаецца да гераічнага мінулага беларускага народа, услаўляе радасць мірных працоўных будняў і раскрывае гераізм у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, дзеліцца ўражаннямі ад паездак па замежных краінах. Са старонак зборніка гучыць голас лірычнага героя, улюбёнага ў бацькоўскую зямлю.**




У. НЯКЛЯЕЎ. Дрэва болю. Вершы і паэмы. Пераклад з беларускай. М., «Советский писатель», 1986.

**Чуйны водгалас часу гучыць у вершах Уладзіміра Някляева, якія склалі змест двух першых раздзелаў кнігі «Дрэва болю» — «Паром» і «Кола агляду». Паэт з узрушанасцю раскрывае ўнутраны свет нашага сучасніка і звяртаецца да падзей Вялікай Айчыннай вайны.**

**У раздзел «Наскрозь» увайшлі паэма «Маланка» і аднайменны твор. Дарэчы, паэма «Наскрозь» упершыню была апублікавана на старонках «ЛіМа».**

**Творы У. Някляева на рускую мову пераклалі Л. Гембіцкая, П. Кошаль, В. Кузняцоў.**




П. ПАНЧАНКА. Прылучэнне. Вершы і паэма. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**Лепшыя вершы Пімена Панчанкі, напісаныя ў розныя гады, а таксама паэма «Патрыятычная песня» склалі змест аднатомніка «Прылучэнне». Палымяная публіцыстычнасць, сацыяльная выразнасць, грамадзянская смеласць — вызначальныя рысы твораў паэта. Услаўляючы прыгажосць камуністычных ідэалаў, П. Панчанка асуджае тое, што чужое нашай рэчаіснасці — беспрынцыпнасць, агляднкавасць, крывадушша... Яго вершы, напісаныя і шмат гадоў назад, сугучны дню сённяшняму, калі ўзяты курс на рэвалюцыйнае абнаўленне савецкага грамадства.**

## ЛІТАРАТУРНЫ ПРАЦЭС: НАЗІРАННІ, ЗАЎВАГІ, ДУМКІ

# АЧЫШЧЭННЕ ПРАЎДАЙ

**Раман В. Быкава «КАР'ЕР» і яго ацэнка ў крытыцы**

**Міхась МУШЫНСКІ**

Выхад рамана «Кар'ер» асобнай кніжкай дае магчымасць яшчэ раз звярнуцца да гэтага выключна багатага на змест твора, паразважаць над драматычным лёсам яго герояў, задумацца над складанымі праблемамі, якія тут узняты, суаднесці іх з сённяшняй рэчаіснасцю. Разам з тым асобнае выданне дазваляе ўзважыць меркаванні, ацэнкі, вывады, зробленыя беларускай і ўсесаюзнай крытыкай па гарачых слядах — пасля публікацыі твора ў часопісах «Полымя» і «Дружба народов» (1986, №№ 4—5), пэўным чынам удакладніць, дапоўніць гэтыя ацэнкі, сказаць пра тое, што адразу, можа, і не магло быць заўважана пры знаёмстве з творам, жанр якога першапачаткова вызначаўся як аповесць. Новае жанравае азначэнне абавязвае перачытаць твор з пункту гледжання яго прыналежнасці да раманнай структуры. Пры гэтым важна ўлічыць і чытацкія ацэнкі — адзін з яскравых паказчыкаў грамадскага рэзанансу, выкліканага творам. Ацэнкі ж, як сведчаць шматлікія канферэнцыі і абмеркаванні твора, неадназначныя: у поглядах на «Кар'ер» няма таго адзінства, якое мела месца, скажам, у дачыненні да аповесцей «Сотнікаў», «Абеліск», «Дажыць да світання», «Пайсці і не вярнуцца» і інш. Калі меркаваць па выказваннях чытачоў, адны з іх цалкам прымаюць новы твор як выдатную з'яву сучаснай літаратуры, другіх многае не задавальняе ў рамане. Так, напрыклад, рашэнне Агеева толькі праз сорак гадоў пасля заканчэння вайны паехаць на раскопкі кар'ера ўспрымаецца імі як недастаткова абгрунтаванае, надуманае.

Зрэшты, меркаванні накшталт прыгаданых выказваюць не толькі ўдзельнікі чытацкіх канферэнцый, але і літаратурныя крытыкі. Так, на думку Н. Патапава, В. Быкаў быццам бы «не дасягнуў той ступені мастацкай рэльефнасці, арганічнасці ўвасаблення задумы, канцэнтрацыі святла, вобразнай энергіі на галоўным у творы— калі можна было б гаварыць аб творчым адкрыцці» («Правда», 20.04.1987). Як «псіхалагічную нацяжку» кваліфікуе крытык раскопку Агеевым закінутага кар'ера. Шэраг крытычных заўваг зроблены ў артыкулах Л. Лазарава («Новый мир», 1986, № 11), Н. Івановай («Знамя», 1986, № 11), у рэцэнзіі А. Траццякова («Нёман», 1987, № 1), хоць у цэлым адносіны крытыкаў да рамана станоўчыя.

Тое, што чытач і крытык кожны па-свойму ацэньваюць твор, — з'ява ўцешная. Яна адпавядае духу нашага часу. Але пры гэтым важна, каб ацэнкі грунтаваліся на аб'ектыўным аналізе мастацкага твора, а сам твор разглядаўся ў кантэксце не толькі літаратурнага, але і сучаснага грамадскага жыцця.

Калі браць вусныя і друкаваныя заўвагі ў іх сукупнасці, то можна знайсці і тое агульнае, што іх спарадзіла. Гэта перш за ўсё недастаткова глыбокае ўспрыманне таго новага, наватарскага, што нясе ў сабе раман В. Быкава. Тут мы сустракаемся з выпадкам, калі вартасці твора вымяраюцца старымі эстэтычнымі меркамі, якія выпрацаваліся на ранейшых, шырока вядомых аповесцях пісьменніка, што сталі часткай нашага духоўнага жыцця. Чытач зжыўся з героем В. Быкава, палюбіў яго, а зараз пісьменнік падае шмат у чым новага героя, да якога і сам мастак ставіцца крыху інакш.

У адпаведнасці з традыцыйнымі ўяўленнямі чытач схільны атаясамліваць «Кар'ер» з творамі, прысвечанымі тэме вайны, чалавека на вайне, у той час як ён цалкам арыентаваны на сучасную рэчаіснасць, у ім даследуюцца праблемы сённяшняга жыцця. Вось гэта ідэйна-тэматычная арыентаванасць рамана, як і яго філасофскі змест, на наш погляд, цалкам не ўсведамляецца пэўнай часткай чытачоў і некаторымі крытыкамі.

**Змест рамана «Кар'ер» сведчыць аб тым, што ў творчасці В. Быкава апошніх гадоў адбываюцца істотныя змены, якасныя зрухі, мае месца далейшае ўмацаванне прынцыпаў гістарызму, народнасці, гуманізму, іх прыкметнае ўзбагачэнне як вынік паглыбленага даследавання мастаком жыцця і духоўнай практыкі чалавека на сучасным этапе яго гістарычнай дзейнасці. Сацыяльны аналіз і псіхалагізм, чалавеказнаўчы пачатак набылі ў творы новую якасць, яны існуюць тут у арганічнай зрошчанасці.**

Пераканаўчасць мастацкай канцэпцыі рамана «Кар'ер» забяспечана ў першую чаргу глыбінёй псіхалагічнай распрацоўкі вобразаў галоўных дзеючых асоб — Агеева, Сямёнава, зладжанасцю кампазіцыі як формы выяўлення аўтарскай задумы. **«Кар'ер» — раман вострапраблемны, прасякнуты шчырай мастакоўскай заклапочанасцю, роздумам над складанасцямі нашага жыцця, трывогай за будучыню чалавека і чалавецтва. Гэта твор глыбокай філасофскай думкі: героі Быкава вырашаюць нялёгкія пытанні, звязаныя з пошукамі сэнсу быцця, прызначэння чалавека на зямлі. Трагічныя выпрабаванні, якія выпалі на долю Паўла Агеева, у рэшце рэшт прыводзяць яго да разумення сапраўдных каштоўнасцей, сярод якіх на першым месцы аказваюцца чалавек, самацэннасць жыцця. Але якім пакутліва доўгім і цяжкім быў шлях героя да ўсведамлення гэтых ісцін!**

Раман «Кар'ер» уражвае згушчанасцю самой мастацкай матэрыі, скандэнсаванасцю матэрыялу, апрацаванага ў адпаведнасці з аўтарскай задумай і канкрэтнымі ідэйна-эстэтычнымі задачамі. Гэта твор, багаты на падтэкст. Многія вобразы, пачынаючы з вобраза, вынесенага ў назву рамана, многія канкрэтныя, рэчавыя дэталі набываюць тут сімвалічнае значэнне, уздымаюцца да паэтычнага сімвалу. На жаль, пра гэта недастаткова выразна гаварылася ў крытыцы. Разам з тым сімволіка не ўступае ў супярэчнасць з рэальна-бытавым планам, з паэтыкай суровага рэалізму, у традыцыях якой і напісаны твор.

Не будзем пераказваць змест рамана. Спадзяёмся, што ён добра вядомы чытачу. Заўважым, аднак, што хаця фабула твора нескладаная, яго кампазіцыя зусім не простая. Яна скіравана на тое, каб падкрэсліць значнасць асобы чалавека, яго сумлення, ролю духоўнага пачатку, асабістай адказнасці чалавека. Падзеі, пра якія аўтар расказвае ў творы, узнаўляюцца не толькі ў іх непасрэдным адлюстраванні, але і як успаміны галоўнага героя. А гэта вядзе да таго, што **герой адначасова ацэньвае падзеі, каменціруе, тлумачыць іх.**

Аднак і сказанае не вычэрпвае ўсёй навізны твора, своеасаблівасці яго сюжэтна-кампазіцыйнай і апавядальнай формы: Агееў, ацэньваючы падзеі, сведкам якіх ён быў, адначасова **ацэньвае і самога сябе, выносіць прысуд сваім даўнім учынкам і паводзінам.** Адмовіўшыся ад строга хаваналагічнага разгортвання сюжэта, **пісьменнік паставіў сябе як аўтара ў нявыгаднае становішча.** Але ён, думаецца, свядома пайшоў на гэта, свядома абраў больш складаны і цяжкі шлях, калі герой менавіта сам расказвае пра сябе. Крытычны пафас рамана пры гэтым, натуральна, паслабіўся, затое ўзмацніўся пафас аналітычны, чалавеказнаўчы, гуманістычны, узрос унутраны драматызм, псіхалагічная напружанасць дзеяння.

У такім выбары формы і сродкаў раскрыцця ўнутранага свету героя ёсць свая заканамернасць: **твор, у якім сцвярджаецца ідэя непрымання атмасферы падазронасці, у якім выяўлена грамадская небяспека гэтай з'явы, якраз і павінен быў будавацца на глыбокім даверы да асобы героя, а не на яго выкрыцці. У дадзеным выпадку сама структура твора з'яўляецца выразнікам агульнай ідэйнай канцэпцыі аўтара. І ў гэтым нельга не бачыць адзнакі высокага майстэрства В. Быкава. Пісьменнік-гуманіст верыць у духоўныя магчымасці чалавека, у яго здольнасць абараніць чалавечы пачатак у самім сабе.**

Зусім відавочна, что абраная аўтарам форма падачы матэрыялу стварае пэўныя цяжкасці як пры ўспрыманні твора, так і пры яго аналізе. На гэты момант наша крытыка таксама не звярнула ўвагу. Аўтарская думка, выяўленая не адкрыта, а праз сутыкненні герояў, праз барацьбу, якая адбывалася ў іх душах, не заўсёды ўлоўліваецца чытачамі. Асноўны акцэнт пісьменнік перанёс на даследаванне ўнутранага свету героя, які перажывае глыбокае маральнае ўзрушэнне, духоўны крызіс, выкліканы ўсведамленнем факта, які зараз кваліфікуецца ім як недаравальная памылка, дапушчаная сорак гадоў назад. У 1941 годзе Агееў зрабіў тое, што паводле сённяшніх уяўленняў не меў права рабіць: ён паслаў на небяспечнае заданне — перадаць на станцыю падпольшчыкам тол — нявопытную дзяўчыну. Вядома, параненаму Агееву было цяжка самому справіцца з даручэннем. Але, апрача неспрыяльных акалічнасцей, адсутнасці вопыту падпольнай барацьбы, на трагічны зыход аперацыі паўплывалі і суб'ектыўныя фактары, звязаныя з характарам Агеева, з яго тагачаснай жыццёвай філасофіяй, адносінамі да людзей, яго разуменнем сэнсу жыцця і сутнасці маральных каштоўнасцей. І калі праз сорак гадоў Агееў не толькі розумам, але і сэрцам, усёй сваёй істотай, усім тым, што закладзена ў чалавеку прыродай, яго генетычнай памяццю, сацыяльным укладам жыцця, выхаваннем, культурай і г. д., — калі Агееў зразумеў, усвядоміў трагічны сэнс ім учыненага, ён асудзіў сябе як цяжка вінаватага. **Раскопваючы кар'ер, каб пераканацца, што, магчыма, Марыя і не расстраляна, Агееў па сутнасці рэвізуе ўсю сваю жыццёвую філасофію. І гэта рэвізія мае вялікі грамадскі, маральна-этычны сэнс.**

**Роздум героя над уласным жыццём, над сваімі асабістымі ўчынкамі і іх бліжэйшымі і далёкімі вынікамі, маральная ацэнка ўчынкаў якраз і складае аснову ідэйна-мастацкай канцэпцыі твора.** Фінальная сцэна аповесці, калі ноччу, у нумары малазнаёмай гасцініцы, Агееў абліваецца слязамі, аплакваючы сваю горкую маладосць, «даўно нежывых, расстраляных, забітых, закатаваных у фашысцкіх засценках таварышаў», — гэта сапраўдны катарсіс героя, яго маральнае ачышчэнне і — няхай сабе і вельмі запозненае — духоўнае адраджэнне. Праз пакуты і боль, праз вялікія страты Агееў адраджаецца да іншага, духоўна прасветленага жыцця. Можа, пенсіянер Агееў і не паспее ўжо многага зрабіць, але маральныя набыткі яго не акажуцца дарэмнымі. Тым болей, у Агеева ёсць сын, з якім у яго як у бацькі няма душэўнай блізкасці, але барацьбу за сына ён будзе весці.

Крытыкі, якія, накшталт Л. Лазарава, сцвярджаюць, што «апісанні рэальных раскопак здаюцца месцамі зацягнутымі, апавядальная тканіна тут менш шчыльная, чым у сцэнах ваенных», што «некаторыя разважанні Агеева пра мінулае залішнія» і што «там-сям з карысцю для аповесці можна было б апусціць сённяшні каментарый» («Новый мир», 1986, № 11, с. 235), — **крытыкі гэтыя, як мне здаецца, не маюць рацыі.** Тут не прынята пад увагу вельмі істотная акалічнасць: **Агееў прыязджае на раскопкі кар'ера не з гатовай думкай-ідэяй. Яго прыезд — толькі пачатак пошукаў ісціны, пачатак цяжкага, пакутлівага ўзыходжання да вяршынь сапраўднай духоўнасці. Новая жыццёвая філасофія выпрацоўвалася, даспявала ў душы і свядомасці Агеева іменна ў працэсе раскопкі кар'ера. І як выспяванне гэта адбывалася пастпова, так і раскопкі не маглі закончыцца хутка.**

Болей таго! Папрокі ў пэўнай зацягнутасці апісанняў беспадстаўныя яшчэ і таму, што Агееў не толькі ўспамінае, не толькі сам сябе асуджае як вінаватага, але і спрабуе вытлумачыць прычыны, якія прывялі яго да трагічнай памылкі. **Гэта значыць, герой В. Быкава праз ацэнку ўласных дзеянняў і памылак дапамагае нам, чытачам, глыбей спасцігнуць той час, у які ён жыў, эпоху, якая яго сфарміравала і сынам якой ён з'яўляўся.**

Чаму ўсведамленне віны прыйшло да Агеева так позна? Адказ на пытанне дае магчымасць раскрыць не толькі арыгінальнасць аўтарскай задумы, якая часта ва ўсёй паўнаце не ўсведамляецца, але і змястоўнасць усёй канцэпцыі рамана. **Гаворка якраз і ідзе пра больш глыбокі погляд на чалавека, на яго псіхалогію, унутраны свет. У новым творы В. Быкава ўзаемаадносіны чалавека і грамадства становяцца болей шматграннымі і складанымі.**

Трэба сказаць, што намаляваная ў творы сітуацыя міжвольна штурхае да пэўных аналогій з аповесцю «Сотнікаў», а канкрэтней — з вобразам Ры-

(Заканчэнне на стар. 6—7).

# ЖАДАНЫМ ПОЧЫРКАМ ЖЫЦЦЯ

На пачатку гэтага чыста чытацкага водгуку дазволю сабе невялікае адступленне, як думаецца, у неадвольным творчым накірунку. Справа ў тым, што ў апошні час, дзякуючы нашай актыўнай прэсе і нераўнадушным прыхільнікам паэзіі, мы начыталіся шмат якіх артыкулаў, у тым ліку — і дыскусійнага, вострага характару «на прадмет» паэзіі. Як і раней, узнікае патрэба разабрацца, ці дакладней — уNікнуць як у традыцыйнае рэчышча рыфмаванага слова, так і ў нетрадыцыйны падыход да з'яў рэчаіснасці. Але гаворачы часта пра традыцыю, папракаючы «традыцыйных» паэтаў у многіх грахах, ці не звужаем мы часта само паняцце — «традыцыя»? Бо да традыцыі некаторымі даследчыкамі па незразумелай інерцыі адносіцца, як ні дзіўна, сам памер верша!

Традыцыя, як вядома, выпрацоўвалася лепшымі майстрамі слова (і не без дапамогі моўных магчымасцей) на працягу многіх стагоддзяў як гарманічнае, эмацыянальна-філасофскае стаўленне да жыцця, да існасці, шліфуючы ўвесь гэты неабходны сплаў да філігранных узораў мастацкага ўвасаблення. Калі ж прыядаліся гурманам адвечна-«звыклыя» стравы — вынаходзілі іншыя. Калі «прыядалася» рыфма — узнікаў іншы строй паэзіі. Але, відаць, не ў гэтым сэнс, не ў гэтым галоўны падыход да творчага імпульсу, бо метад кухоннага нажа не заўсёды бывае дакладным нават на той жа звычайнай, «нятворчай» кухні! Урэшце, бог з ёй, з традыцыяй! — было б толькі ўзрушлівае і глыбокае слова, было б **тое**, што спрадвечна прыцягвае наш розум і сэрца. Дзіўная рэч—паэзія. І як тут не ўспомніць словы Маякоўскага пра яе: «...существует — и ни в зуб ногой!»

Так, існуе, нягледзячы на быццам бы зафіксаваны яе спад. Усё гэта неяк асабліва востра адчулася, калі перагортвала старонкі сучасных часопісаў, дзе непадатліва модзе і часу, балюча і па-сучаснаму праблемна ўпісалася паэзія з літаратурнай спадчыны А. Твардоўскага, А. Ахматавай, В. Бергольц.

Тут, відочна, самі па сабе ўжо адпалі спрэчкі наконт «традыцыі». І ці трэба яшчэ нейкія філасофскія разважанні — калі так хораша дакрануцца да сапраўднай паэзіі, да нязмушанай і ўсхваляванай размовы субяседніка-паэта, да той незамутнёнай крыніцы, якая ніколі не забываецца на сваё крынічнае прызначэнне. Гэтак, прынамсі, пачулася, калі разгарнула часопіс «Полымя» (№ 3, 1987) з вершамі Анатоля Вялюгіна.

Успомнілася, як некалі шчодра раздорваючы сваім падмайстрам метафары і рыфмы, сам паэт як бы ўжо крыху іранічна глядзеў на самую Паэзію, чакаючы ад маладзейшых калег па пяру гранічна-дакладнага і абумоўленага самім жыццём Слова. Па-настаўніцку клапатлівы і не раз па-харошаму абураны якой бы там ні было недакладнасцю ці фальшывую нотаю, ён з хірургічным вопытам «адсякаў» лішнія строфы, радкі, падсвечваючы канву верша нязбітым жывым россыпам адзіна-вернага мастацкага азначэння.

І вось — вершы старэйшага майстра і дарадцы: невялікая падборка ў часопісе. Але якое высокае паэтычнае дыханне, які напал душэўнай трывогі (усё ў тым жа, спракаветна-традыцыйным рэчышчы!) раскрываюцца з самага першага верша «Нявыкрыканы крык»:

**Шумі, свяці, мой ясны ясень.**
**Жыццё люляла і ламала.**
**Я паўтару цяпер, як вязень:**
**Жыцця ў жыцці мне мала.**
**Мала!**

«Жыцця ў жыцці мне мала. Мала!» — паўтару і я гэты аптымістычны радок у век атаму і радыяцыі, у век яшчэ даверлівай і такой зажуранай матухны-прыроды. Прыгадаем ранейшую паэзію Анатоля Вялюгіна, дзе перш за ўсё ў самым эпіцэнтры чалавечага поля жылі і радаваліся, жылі і захапляліся дзве ўзаемнароўныя велічыні: Чалавек і Прырода. Бо адкуль жа, як не з самой прыроды, вынікае і сама чалавечая сутнасць!

Радкі, яшчэ радкі, ад якіх хораша крынічыць-пераліваецца святло прыроды, вечна-неспатоленае захапленне ёю: «І пад зялёнай засняй лямпы на белаце марозна-строгай, як лёд, ламае панцыр ямба яшчэ не злоўленая стронга», альбо: «За трыснягом маторкі лопат... Дажджом налі-

# АЧЫШЧЭННЕ ПРАЎДАЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

бака. Безумоўна, Агееў — не Рыбак, дакладней, ён апынуўся ў становішчы Рыбака: начальнік паліцыі Драздзенка і агент СД Кавешка даюць яму заданне, вядуць працяглыя гутаркі з мэтай ідэйна апрацаваць, зрабіць сваім. «Непанятлівы» (такая мянушка была дадзена Агееву), нічога не ўтойваючы, папярэдзіў таварышаў па падполлі пра ўсё, што з ім здарылася. Нельга думаць, нібыта пісьменнік апраўдвае ўсе ўчынкі героя, маральна амніціруе яго, звальваючы віну на абставіны ваеннага часу. Бяда Агеева ў тым, што ён, як і камандзіры, што ўзначальвалі прарыў з акружэння (вось дзеля чаго спатрэбіліся аўтару батальныя сцэны, сцэны прарыву!), у тыя гады не спалучаў у сабе здольнасць камандаваць людзьмі і адначасова адказваць за людзей, па-сапраўднаму клапаціцца пра іх жыццё. Агееў больш дэкларуе, чым на справе думае пра тых, з кім яму давялося сутыкнуцца ў падполлі. Яго ўвага скіравана галоўным чынам на самога сябе.

Варта прыгадаць тут перш за ўсё адносіны Агеева да Варвары Бараноўскай, якая падзяляе гуманістычныя нормы народнай маралі, этыкі, і, не задумваючыся, прыходзіць яму на дапамогу. Былая пападдзя, а па сутнасці народная настаўніца, робіць усё, што магчыма, каб ўратаваць параненага чалавека, камандзіра, — рызыкуючы, хавае яго ў сваёй хаце, даглядае, лечыць, выдае за ўласнага сына. Бараноўская клапоціцца пра Агеева не па прымусу, не па загаду таго ж сакратара райкома Волкава, а па загаду ўласнага сэрца, як добры, спагадлівы чалавек. «Вы ж загінеце, калі вам не памагчы. Хіба ж не так?», — гаворыць Варвара Мікалаеўна.

Узаемнага клопату пра Бараноўскую ў Агеева, на жаль, не было. Ён нават не патурбаваўся як след схаваць сваю камандзірскую гімнасцёрку з трыма кубарамі, картку кандыдата ў партыю, не праявіў — у супрацьлегласць хоць бы Малаковічу — аніякіх намаганняў памяняць дыяганалевыя брыджы з чырвонымі кантамі на цывільнае адзенне. Нават не вельмі дасведчаная ў тонкасцях воінскай амуніцыі Марыя адразу вызначыла, што Агееў — чырвоны камандзір. А што ўжо казаць пра паліцэйскага начальніка Драздзенку, былога кадравага ваеннага, які з першага позірку ўстанавіў, хто такі Агееў. А гэта шмат у чым прадвызначыла яго далейшы лёс і лёс падполля.

Вось гэтая глыбокая ўнутраная ўзаемасувязь паміж характарам Агеева як асобы, сфарміраванай у канкрэтных грамадскіх умовах, паміж паводзінамі, уяўленнямі і яго адносінамі да людзей вельмі тонка, на высокім узроўні псіхалагічнага майстэрства раскрываецца ў рамане. Мы бачым, што Агееў, асабліва ў першыя дні знаходжання ў хаце Бараноўскай, не можа самастойна разабрацца, што сабой уяўляе гэта жанчына. Чытач бачыць, што ў сваіх меркаваннях і вывадах ён ідзе не ад асабістага пачуцця, а ад гатовых, трафарэтных уяўленняў: паколькі Бараноўская калісьці была пападдзёй, дык нібыта яна абавязкова павінна варожа ставіцца да Савецкай улады.

Сваё класавае чуццё, класавую пільнасць Агееў у той час вельмі ўжо абсалютызаваў, перабольшваў. Разуменне класавасці ў яго аказвалася спрошчаным, вузка дагматычным, яно фактычна было зведзена да падазрэння, да недаверу да такіх людзей, як Бараноўская.

**Увёўшы ў сюжэт рамана вобраз Варвары Бараноўскай, паказаўшы актыўны ўдзел у змаганні з акупантамі прадстаўнікоў розных сацыяльных саслоўяў, Быкаў значна пашырыў сацыяльна-гістарычныя рамкі твора, надаў яму больш высокае ідэйнае гучанне, узбагаціў нашы ранейшыя ўяўленні пра партызанскую, падпольную барацьбу як барацьбу ўсенародную, глыбей раскрыў маральную сілу савецкага грамадства, вытокі непераможнасці сацыялізму.**

У Агеева не вельмі развіта схільнасць да глыбокага і шчырага суперажывання, яму не стае пачуцця спагадлівасці, міласэрнасці. Мы бачым, што нават у турме, у час жорсткіх катаванняў, Агееў лічыць дзядзьку Кіслякова, чыгуначнага сцэпшчыка Зыля, за правакатара. Раз ён не збіты на горкі яблык, як іншыя падпольшчыкі, значыць — здраднік. Тут зноў, як і ў выпадку з Бараноўскай, — трафарэтны, павярхоўны падыход да чалавека — хутчэй па знешніх адзнаках, чыста вонкавых прыкметах. Гэтыя рысы не з'яўляліся індывідуальнымі рысамі толькі яго натуры, бо выхоўваўся Агееў у канкрэтных сацыяльных умовах, у пэўнай грамадскай, псіхалагічнай атмасферы часу. Душэўная глухата вяла Агеева і да сацыяльнай блізарукасці, вельмі небяспечнай рысы ў актыўным чалавеку, асабліва, калі ад яго паводзін залежыць лёс людзей. І толькі ў апошнюю хвіліну перад расстрэлам Агееў са здзіўленнем даведваецца, што гэты «здраднік» паспеў спаліць нават не дванаццаць вагонаў, як лічылі акупанты, а ўсе семнаццаць. Агееў жа, хоць ён і лічыць сябе смелым чалавекам, гатовым біць ворага, за час знаходжання ў мястэчку толькі і паспеў зрабіць, што падставіў пад удар Марыю і праваліўся як падпольшчык. І яго баявая вінтоўка, закапаная на калгасным жытнёвым полі, і пісталет, схаваны на падворку Бараноўскай, так і засталіся ляжаць нявыкарыстанымі. Атрыбуты яго актыўнасці — маўчаць.

Праўда, калі ўдзельнікі падполля — Малаковіч, Кіслякоў — выявілі насцярожанасць, недавер да Агеева пасля яго падпіскі аб згодзе тайна супрацоўнічаць з паліцыяй, ён адчуў сябе пакрыўджаным і нават абражаным. «Застаўшыся адзін, ён пачаў думаць, чаму так заведзена ў людзей, што вось паявілася маленькае непаразуменне — і ўжо гатовы ўсумніцца, гатовы паверыць некальнім невыразным фактам і не верыць доўгім гадам сяброўства, знаёмства, сумеснай работы, нарэшце выпрабаванням пагібеллю, якія яны нядаўна стрывалі». Як бачым, калі ў ролі чалавека, на якога легла падазрэнне, аказаўся Агееў, ён слушна апеліруе да справядлівасці, яго абураюць чалавечая чэрствасць, абыякавасць, нежаданне ўнікнуць у сутнасць справы. На жаль, гэтаму гуманістычнаму прынцыпу, скіраванаму на сцвярджэнне самацэннасці чалавечай асобы, у той час — у дні вайны — Агееў не здолеў надаць універсальнага значэння, г. зн. не здолеў перанесці яго на іншых людзей. Так, калі прыйшлося рабіць выбар, каго пасланць з толам на станцыю, Агееў разважаў так: «Была б дома Бараноўская, паслаў бы яе. А так трэба самому». Вельмі ж лёгка, як бачым, распараджаецца малады падпольшчык лёсам іншых людзей. Хоць і была ў Агеева магчымасць спачатку паведаміць Малаковічу пра дастаўлены з лесу тол, каб потым падпольшчыкі ці ягоныя памочнікі забралі яго, такая магчымасць засталася нявыкарыстанай. Вельмі ўжо спяшаўся Агееў апраўдацца ў вачах таварышаў, зняць з сябе падазрэнне ў здрадзе, і таму «трэба ісці самому» засталося пустой фразай. На станцыю пайшла Марыя. Дарэчы, у пэўныя моманты Агееў нават Марыю падазраваў, да канца не верыў ёй. І таму меў права Малаковіч у прысутнасці арыштаваных адкрыта абвінаваціць іменна Агеева ў правале падполля. «— Што? Вы яшчэ пытаецеся — што? Да вы ўсё завалілі! — не стрымліваючыся, амаль у шаленстве крычаў Малаковіч». Абвінавачванні былі шмат у чым справядлівыя, бо не толькі выпадковасць прывяла да арышту, але і тое, што аперацыя не была падрыхтавана, усё рабілася паспешліва, неабдумана. Ахвярай паспешлівасці Агеева аказалася і Марыя.

Самаахвярны парыў Марыі псіхалагічна абгрунтаваны ў рамане: дзяўчына палюбіла прыгожага маладога вайскоўца, пакахала шчыра, даверылася яму, убачыла ў яго асобе мужнага чалавека, абаронцу, які часова аказаўся ў цяжкім становішчы. Вытокі яе гераічнага ўчынку, яе подзвігу таксама і ў патрыятычным выхаванні, у здаровай нацыянальна-патрыятычнай атмасферы дзён яе дзяцінства і юнацтва, якія звязаны з паездкамі разам з бацькам у экспедыцыі на Палессе. Вялікую ролю ў духоўным фарміраванні дзяўчыны адыграў бацька, у характары якога ўвасоблены лепшыя рысы народнага інтэлігента, грамадзяніна, патрыёта. «Бацька заўжды жыў у народнай стыхіі — фальклоры, гісторыі Беларусі. Заўжды даследаванні, летапісы, старая літаратура, пасля пайшлі экспедыцыі. Размаўляў дома ці там на вуліцы, у трамваі, у магазіне толькі па-беларуску». Сапраўдная народнасць, непадробны патрыятызм складаюць аснову жыццёвай філасофіі Марыі.

Высокае майстэрства В. Быкава пры стварэнні гэтага вобраза выявілася ў тым, што ўзаемаадносіны Марыі і Агеева ў рамане разгортваюцца вельмі натуральна, праўдзіва, жыццёва верагодна. Тут няма аўтарскай зададзенасці, няма момантаў, вузкафункцыянальных па свайму прызначэнню. **І ў той жа час вобраз Марыі нясе вялікі абагульняльны сэнс.** Не дабраўшы ў дзяцінстве мацярынскага клопату, мацярынскай ласкі і дабрыні, дзяўчына ў час усенародных выпрабаванняў становіцца жывым увасабленнем гэтай дабрыні, спагадлівасці, увасабленнем мацярынства, носьбітам жыццядзейных, жыццеўтваральных пачаткаў. І тое, што Агееў, раскопваючы кар'ер, усё ж не знайшоў пацвярджэння смерці Марыі — Марыі, якая чакала дзіця, — у кантэксце пошукаў Агеевым сэнсу чалавечага існавання, набывае шматзначнае сімвалічнае значэнне, а іменна: у Агеева, магчыма, яшчэ застаецца надзея на будучае, ім не ўсё яшчэ страчана ў жыцці. Праўда, сэнс гэтай сітуацыі можна разумець і так: праз свой амаральны ўчынак Агееў самім жыццём пазбаўлены магчымасці пазнаць сапраўдную бацькоўскую радасць, ён не варты таго, каб у яго быў сын ад Марыі, якую ён не задумваючыся паслаў на немінучую смерць.

Павярхоўнае ўспрыманне зместу рамана, няўважлівасць да яго філасофскага аспекту, да элементаў сімволікі якраз і прыводзяць да надуманых вывадаў. Так, нельга пагадзіцца з Л. Лазаравым, які сцвярджае, што каханне Агеева і Марыі нібыта магло быць абмалявана «яскравей, болей пранікнёна». «На жаль,—піша ён, — гэта не лепшыя старонкі аповесці, відаць, паказ кахання не вельмі даецца Быкаву...» (с. 232). Меркаванні крытыка гучаць неперакана́ўча, бо тут ён адрываецца ад зместу твора, ад характару герояў. Ім не ўлічана, што Агееву, выхаванаму ў атмасферы суровага армейскага жыцця, у той трагічны час, як кажуць, было не да любошчаў. Галоўным для яго заставаўся воінскі доўг. Мы не гаворым зараз пра тое, як ён гэты доўг спаўняў. Але бясспрэчна адно: думаць пра каханне, ставіць інтымныя пачуцці на першы план учарашні камандзір не мог. Гэта пярэчыла сутнасці ягонага характару. Калі б малады Агееў быў здольны на вялікае каханне, ён напэўна не паслаў бы Марыю на станцыю. Болей таго! Сэнс чалавечай, асабістай драмы Агеева якраз у тым і заключаецца, што ён своечасова не зразумеў, кім была для яго Марыя. Гэта разуменне, унутранае адкрыццё прыйшло да яго са спазненнем — толькі праз сорак гадоў пасля вайны. Вось чаму папрокі ў недастаткова выяўленых інтымных пачуццях героя б'юць міма цэлі.

Што ж датычыць Марыі, дык яе добраахвотная згода пайсці на станцыю якраз і была вышэйшым праяўленнем кахання да Агеева, выяўленнем яе чалавечай, жаночай існасці.

Калі ў «ваенных» раздзелах рамана сэнс аўтарскай маральна-этычнай канцэпцыі найбольш поўна выяўляецца праз ўзаемаадносіны Агеева і Марыі, Агеева і Бараноўскай, і гэтыя адносіны вельмі яскрава высвечваюць вобраз галоўнага героя на першым этапе яго духоўнага развіцця, дык у «пасляваенных» частках такую ж дзейсную ролю выконваюць сюжэтныя лініі Агеева і яго сына Аркадзя, а таксама Сямёнава. Гэтыя вобразы паспяхова звязваюць як «ваенныя», так і «пасляваенныя» раздзелы ў адзінае сюжэтнае, ідэйна-мастацкае цэлае. На жаль, вобразам Сямёнава, Аркадзя з боку крытыкі не надаецца належнай увагі. Напрыклад, А. Траццякоў лічыць, што ў рамане ёсць «пабочныя сюжэтныя лініі», адны з якіх «даволі самастойныя», як лінія Ся-

ты след ласіны...», ці — «За вартай арабінавай для рыфмача-гарэзніка пярына ястрабіная і чыставік бярэзніку»; мясціны — «дзе ў прыгаршчы бяруць з Лучосы крынічны востры халадок». А то, як не з абмялелай яшчэ паўнаводнай рэчкі вынырнуць на свет белы і з лёгкім задушэўным гумарком будуць цешыць сэрца «Замастоцкія прыпеўкі»:

**— Будзем пець і танцаваць**
**рознымі манерамі,**
**ну, а бульбу выбіраць**
**толькі з інжынерамі...**

А за чатырма радкамі гэтай прыпеўкі — дакладны малюнак часу з яго горкімі «землянымі праблемамі»! І трэба мець жаданую вандроўку, каб паслухаць «сучасны народ». Не скарасныя лайнеры і гэткая ж скарасная змена чамаданаў, а як гэта бывае часта ў сапраўдных паэтаў — ходжаныя і няходжаныя сцежкі свайго краю давалі жаданы імпульс для душы і слова. Ці не такім чынам з'явіўся ў паэта верш «Вёрсты», бо пагукаў яго той беларускі тракт, якім аднойчы ехаў Пушкін. А можа, гэта проста зварот да генія ў юбілейны год? Але так ці інакш — гэта ўсё-такі зварот да вечна жывой і адухоўленай паэзіі Пушкіна, заканамерна выверaны любоўю ўдзячнага сэрца «народа, издревле нам родного»:

**Дарогу, стрэхі і парканы**
**стрыгуць маланкамі стрыжы.**
**Скажы, ямшчык, чаму так рана**
**рабіна выспела, скажы?**
**. . . . . . . . .**
**Званіцы Віцебска за пушчай,—**
**а там, дай божа, перадых, —**
**вазак бубніць, змяістай пужкай**
**перахрысціўшы паштавых.**

**Раса на ціхі вечар легла,**
**страсаем вёрсты мы з плячэй**
**«И дремля едем до ночлега,**
**А время гонит лошадей».**

Вершы «Вёрсты» густа перасыпаны радкамі з пушкінскай знакамітай «Телеги жизни». І гэтая інтэрпрэтацыя таксама абумоўлена ў Вялюгіна хуткаплыннасцю чалавечага жыцця. Тая балючая хуткаплыннасць, пра якую думаў А. Твардоўскі, радкі якога часта цытуе Анатоль Вялюгін, звяртаючыся да сябе і не толькі да сябе: «Некогда. Времени нет для мороки, — в самый обрез для работы оно. Жесткие сроки—отличные сроки, если иных нам уже не дано».

«Жесткие сроки» не толькі ўласнага быцця рухаюць паэтам, калі ён не можа абысці балючыя з'явы нашай ядзернай эпохі. Як вядома (і дзякуй паэту за гэта!), паэзія не мае права асэнсоўваць бягучыя падзеі на ўзроўні газетнай інфармацыі. Вастрыня ў рэшце рэшт не ў гэтым, а перш за ўсё — у дачыненні самога сэрца да болю і трывог цэлага свету, а не толькі нейкага лапіка зямлі. Хіба, скажам, радкі: «лізне зялёны ствол ракеты даверлівае ласянятка» — зафіксаваная з'ява толькі аднаго рэгіёна? І ці не адсюль узмацняецца і нарастае «нявыкрыканы крык» сумлення і памяці:

**Крычу я ў свет, ад звад аслеплы:**
**крыжовыя спусціце флагі,**
**каб мегатоннай смерці пекла**
**замураваць у саркафагі!**

І ці не вырастае «франтавая памяць» да агульначалавечай трывогі за чыстае дыханне зямлі: «Што ў вясняным частазвоне кропель — ёд ці стронцый?.. Цэзій ці палоній?...»

Душа паэта, якая пасля падзей Вялікай Айчыннай вайны гэтак ізноў абнадзеена зраслася, здружылася з прыродай, павінна сёння вымавіць і вось такое, немагчыма-горкае: «Хоць ты патомны лесавік, ідзі, ўздыхнуўшы, міма. Эх, часе, часе... Баравік, і той сядзіць, як міна».

Боль за сягонняшні свет нездарма ў Анатоля Вялюгіна цесна павязаны з неаціхлай ранай — памяццю «саракавых-ракавых» у вершах «Сустрэча» і «Песня на развітанне».

Той, хто прачытаў ужо вершы паэта ў сакавіцкай кнізе «Полымя», адчуў і зразумеў, што ніякай асаблівай «звышзадачы», ніякай асаблівай «стаўкі» на вастрыню ў Вялюгіна не было. Ёсць і жыве ў сэрцы паэта святая любоў да зямлі, да чалавека, а разам з імі — на самым высокім узроўні сэрца! — непрыхаваны і непрыдуманы неспакой за жыццё.

**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ.**

---

мёна, а другія «слаба распрацаваны (паводзіны сына)». Прыблізна такога ж погляду прытрымліваецца і Л. Лазараў. Вось як ацэньвае ён вобраз Сямёна і яго месца ў агульнай вобразнай сістэме рамана: «Навэлы, прысвечаныя лёсу Бараноўскіх і Сямёнава, не ўспрымаюцца як устаўныя, хоць у кожным выпадку гэта самастойны сюжэт...» На нашу думку, беспадстаўна называць лінію прыгаданых герояў «навэлай», тым больш — «самастойным сюжэтам». Якраз наадварот, глыбокая арганічнасць, унутраная мэтазгоднасць гэтых вобразаў і надаюць раману В. Быкава навізну, істотна паглыбляюць яго ідэйны сэнс.

Раман пабудаваны так, што франтавыя шляхі-дарогі Агеева і Сямёнава сапраўды не перакрыжоўваюцца, але пазней — і гэта прынцыпова важна— выявілася, што ў лёсе герояў шмат агульнага. Абодва яны былі ўдзельнікамі найбольш трагічных месяцаў вайны, абодва вымушана засталіся на акупіраванай тэрыторыі, ім давялося змагацца з ворагам у партызанах, потым зноў — ваяваць на фронце. Абодва цяжка параненыя, не раз глядзелі смерці ў вочы. **Аднак пры гэтым малады Павел Агееў і малады Сямён Сямёнаў шмат у чым з'яўляліся антыподамі, носьбітамі супрацьлеглых маральна-этычных канцэпцый.** Вось гэтай супрацьлегласці якраз і не адчулі тыя крытыкі, хто схільны гаварыць пра нібыта самастойную ролю вобраза Сямёнава. Яна, супрацьлегласць, выявілася ў час сустрэчы Агеева і Сямёнава і іх размоў каля кар'ера. Глыбока памыляецца А. Траццякоў, лічачы, што гэтыя сустрэчы — «толькі абмен успамінамі, не звязанымі з жыццём Агеева...» Наадварот! Кожнае слова Сямёнава пра сваю ваенную адысею мае непасрэдныя адносіны да жыцця і філасофіі Агеева, можна сказаць, напавал б'е Агеева. **Апавяданні Сямёнава пра сваё мінулае — гэта люстра, у якое глядзіцца Агееў, але бачыць там уласнае жыццё, ды пражытае не так, як гэта хацелася б Агееву сёння.** Дастаткова, калі мы спашлёмся на тое, што Сямёнаў, як і Агееў, меў дачыненне да паліцыі, аднак з гонарам выйшаў з гэтай драматычнай сітуацыі, не падставіўшы нікога пад удар і не запляміўшы свайго добрага імя.

У рамане яскрава выяўлена крэда Сямёнава. Сутнасць яго ў глыбокай павазе да жыцця, да тых спрадвечных законаў, якімі заўжды кіраваўся народ. Законы чалавечага сумлення, праўда, справядлівасць арганічна ўвайшлі ў свядомасць Сямёнава, яго паўсядзённыя паводзіны, сталі нормай. Нідзе і ніколі ён не прамаўляў гучных, высокіх слоў, не лічыў сябе героем, хоць якраз і быў ім.

Паколькі сумленнасць і справядлівасць былі вызначальным прынцыпам жыццёвай філасофіі Сямёна, дык зразумела, чаму былы партызан і франтавік смела расказваў і пра такія моманты ўласнай біяграфіі, пра якія многія на яго месцы, у тым ліку і Агееў, лічылі за лепшае нават не ўспамінаць. І эпізоды службы Сямёна ў паліцыі, і шматлікія трагічныя выпадкі яго франтавога жыцця ўспрымаюцца Агеевым як папрок яму асабіста, хоць Сямён пра гэта не думае. Аб'ектыўна ж усё, пра што Сямён расказвае, для Агеева — не проста напамінак пра вайну, а яшчэ адзін горкі і павучальны ўрок, урок мужнасці і сумленнасці.

З годнасцю, вартай захаплення і глыбокай павагі, Сямён без скаргі і нараканняў нёс франтавымі, партызанскімі дарогамі цяжар фізічных, душэўных выпрабаванняў, але за доўгія гады вайны ні разу не павёў сябе так, каб асабісты інтарэс паставіць вышэй інтарэсу другіх. І ў пасляваенны час ён жыў, як і належыць сумленнаму чалавеку, хоць чыноўнікі мелі з ім нямала клопату. Нават працяглае знаходжанне на далёкай Поўначы («восем гадоў белых мядзведзяў пасвіў») не зламала Сямёнава, не вынішчыла ў ім веру ў людзей і чалавечую справядлівасць. Вось чаму ўрок, які даў Сямён, быў успрыняты Агеевым усёй душой. Успрыняты чалавекам, які рашуча пераацэньвае сваё мінулае і сам судзіць сябе суровым і бескампрамісным судом.

Ніякавата адчувае сябе Агееў, дазнаўшыся, што Сямён не атрымаў званне Героя, хоць, па ўсім відаць, варты быў гэтай высокай узнагароды. Не атрымаў, бо, пэўна, паўплывала тое, што служыў у паліцыі. Праўда, старшы сяржант гэтага і не ўтойваў. А вось падпіска Агеева аб супрацоўніцтве з паліцыяй, як вынікае са зместу рамана, не адбілася на яго далейшым жыцці і службовай кар'еры: Агееў вучыўся, стаў дацэнтам, выкладчыкам ВНУ. Чаму ж лёс так па-рознаму паставіўся да былых партызанаў, франтавікоў? Віна ж іх, калі тое, што з імі здарылася, можна назваць віною перад законам і чалавечым сумленнем, па сутнасці аднолькавая! Гэта пытанне вельмі выразна гучыць у рамане і патрабуе пэўнага адказу. І такі адказ В. Быкаў дае. Што датычыць Агеева, дык тут яму на дапамогу зноў прыйшла Бараноўская — ганебную ролю агента паліцыі, даносчыка ўзяў на сябе яе загінуўшы сын Алег, іменем якога Павел Агееў і падпісаў сакрэтную паперу аб супрацоўніцтве. Пра лёс Марыі Агееў спрабаваў даведацца пасля вайны, а воблік Бараноўскай і яе сына зусім выпалі з ягонай свядомасці. І ўспомніў ён пра іх толькі праз сорак гадоў, прыехаўшы ў пасёлак. А вось калі б Сямёнаў аказаўся на месцы Агеева, ён ніколі не праявіў бы такой бязі і абыякавасці да высакароднага чалавека! Бараноўская заслугоўвала таго, каб і яе імя было пазначана на абеліску побач з іншымі героямі-патрыётамі. Гэтая думка паступова напаўнялася жывым, канкрэтным зместам адначасова з тым, як Агееў заглыбляўся ў кар'ер — кар'ер сваёй памяці. Усведамленне такой важнай ісціны — непавага да справядлівасці згубна адбіваецца на лёсе чалавека — і абуджала Агеева да новага жыцця.

Тэма будучыні, тэма сувязі мінулага (перадваенны час, вайна), сённяшняга і заўтрашняга, пераемнасць духоўнага, маральнага вопыту пакаленняў — гэта вядучая тэма рамана «Кар'ер», той сэнсавы пачатак, які звязвае ўсе фрагменты твора ў адзінае цэлае, надае яму выразную надзённасць і актуальнае гучанне. Ключавымі вобразамі ў вырашэнні гэтай тэмы, безумоўна, з'яўляюцца вобразы бацькі і сына. А між тым, у некаторых рэцэнзіях пра вобраз Аркадзя нават не ўпамінаецца.

Пісьменнік невыпадкова робіць экскурс у юнацтва Аркадзя, каб больш дакладна акрэсліць вытокі супярэчнасцей, прычыны напружанасці, якая склалася паміж Агеевымі і якая балюча раніла бацькоўскае сэрца. Быкаву ўдалося ўзняць сутыкненні Агеевых, старэйшага і малодшага, — у адпаведнасці з праўдай жыцця — на ўзровень сучаснага канфлікту бацькоў і дзяцей, удалося па-мастацку разгарнуць і абгрунтаваць гэты канфлікт. Калі Агееў адмовіўся выбіваць сыну асобную кватэру, той выбіў яе сам.

«— Ну, што скажаш? — урачыста пытаўся сын, памахваючы перад бацькам свежанькім ордэрам.

— Далёка пойдзеш! — са злым захапленнем сказаў бацька.

— Цудоўна! Калі б не так подла, — кінула нявестка.

— Ну вы даёце! — здзівіўся Аркадзь. — Я вас не пайму». Як бачым, будучы кандыдат навук не можа і не хоча зразумець, што атрымліваць кватэру, злоўжываючы франтавымі заслугамі бацькі, — непрыстойна.

Узнікае пытанне: як у Аркадзя сфарміравалася эгаістычная, спажывецкая мараль, філасофія прагматызму, хто вінаваты ў гэтым? Галоўная прычына драмы, якую перажывае Агееў-бацька, у ім самім, у яго адносінах да жыцця, нарэшце, — і гэта асабліва важна для разумення аўтарскай задумы, сэнсу ідэйна-мастацкай канцэпцыі твора — у яго адносінах да ўласнага мінулага. Логікай развіцця сюжэта, узважаным, прадуманым чаргаваннем успамінаў героя і сцэн сучаснага жыцця, удзельнікам якіх таксама з'яўляецца Агееў, В. Быкаў вытлумачвае, чаму Аркадзь вырас не такім, якім яго хацеў бачыць бацька. Прычына перш за ўсё ў самім Агееве, які доўгі час адганяў ад сябе горкія, невясёлыя ўспаміны пра вайну, баяўся ўсёй праўды, у тым ліку пра самога сябе. Ён не адважваўся, у яго не хапала смеласці прызнацца блізкім — жонцы, сыну — у тым, што фактычна на яго сумленні арышт, а можа, і смерць Марыі. **Сапраўднай шчырасці, адкрытай павагі да праўды ў сям'і Агеевых не было, імкнення да праўды не выхоўвалася. А там, дзе праўда не ў пашане, там не мог вырасці і юнак са здаровымі маральнымі задаткамі.**

Размова Агеевых каля кар'ера — стрыжнявы момант аўтарскай канцэпцыі. І выпісана яна, размова-спрэчка, па-майстэрску. Відаць, не раз і не два пашкадаваў у душы Агееў, што не выхоўваў сына з малых год у атмасферы адкрытасці і праўды, без «жадання падаць сябе лепшым, чым ёсць на самай справе». А не пераадолеўшы эгаістычнага, сябелюбівага жадання выглядаць лепшым, чым ёсць у сапраўднасці, збаяўшыся горкай праўды пра сябе, сваё мінулае, Агееў не знайшоў і сілы патрабаваць ад сына маральнай вышыні, бескампраміснасці, маральнага максімалізму, гатоўнасці ахвяраваць уласнымі інтарэсамі ў імя агульных інтарэсаў. Фактычна, маладое пакаленне, якое тут прадстаўлена Аркадзем, расплачваецца за грахі бацькоў, **а ўвесь твор — праз прызму спрэчкі бацькі і сына — гэта сур'ёзная размова пісьменніка-грамадзяніна пра набалелыя праблемы сучаснага жыцця — пра ўзаемаадносіны пакаленняў, пра тое, што заваяваць трывалы давер моладзі і выхаваць яе ў духу павагі да мінулага можна толькі суровай праўдай.**

Разглядаючы новы твор В. Быкава, мы закранулі толькі некаторыя аспекты яго зместу, вобразнай структуры. Можна не сумнявацца, што раману «Кар'ер» суджана доўгае жыццё, што чытачы і крытыкі здолеюць агульнымі намаганнямі раскрыць глыбінны сэнс гэтага выдатнага, шматпраблемнага твора, у якім па-мастацку пераканаўча ўзноўлена яшчэ адна драматычная старонка народнага жыцця, раскрыты складаныя канфлікты эпохі, выяўлены напружаныя духоўныя пошукі нашага сучасніка.

---

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# ЧАЛАВЕК ВА ЎМОВАХ ПЕРАБУДОВЫ

**«У нашай краіне цяпер усё больш набірае сілу перабудова. Яна актывізавала ўсе сферы жыцця і дзейнасці грамадства. Студзеньскі (1987 г.) Пленум ЦК КПСС даў новы магутны імпульс рэвалюцыйным пераўтварэнням, выразна вызначыў гарантыі незваротнасці гэтага працэсу, паставіў пытанне аб далейшым паглыбленні перабудовы. Як адзначалася на Пленуме, у новай абстаноўцы павінна з асаблівай сілай выявіцца мабілізуючая роля нашай партыі, усіх яе арганізацый, усіх камуністаў. Важна дапамагчы кожнаму працаўніку вызначыць сваё месца ў агульным страі барацьбітоў за перабудову, унесці свой уклад у паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай Радзімы», — так піша ў прадмове да кнігі «Чалавек працы ў стратэгіі паскарэння», выпушчанай выдавецтвам «Беларусь», доктар гістарычных навук С. Лукашоў. Зборнік гэты, складзены І. Карпенкам і А. Церабавым, раскрывае палажэнні новай рэдакцыі Праграмы КПСС аб узмацненні на сучасным этапе ролі чалавечага фактара ў паўсядзённым жыцці, адлюстроўвае змены, што адбыліся ў савецкім грамадстве ў сувязі з яго далейшай дэмакратызацыяй, перабудовай.**

**Аўтарамі кнігі з'яўляюцца вядомыя навуковыя, партыйныя і гаспадарчыя работнікі. Яны разглядаюць важныя накірункі ідэалагічнай работы ва ўмовах паскарэння, гавораць аб эканамічнай і сацыяльнай палітыцы партыі. У прыватнасці, доктар гістарычных навук Р. Платонаў сваё выступленне прысвяціў тэме «Камуністычная партыя — арганізатар творчасці мас», кандыдат юрыдычных навук Ю. Смірноў выступае з артыкулам «Фарміраванне сацыяльна-актыўнай асобы — найпершая ўмова паскоранага развіцця савецкага грамадства». Вопытам работы дзеліцца мадэльшчык Мінскага трактарнага завода імя У. І. Леніна, дэлегат XXVII з'езда КПСС Ю. Вахромін — «Важнейшая сфера творчасці рабочых».**

**Сэрцам успрынялі курс партыі на паскоранае эканамічнае і сацыяльна-культурнае развіццё краіны і беларускія пісьменнікі. Першы сакратар праўлення СП БССР, дэлегат XXX з'езда КПБ Н. Гілевіч у артыкуле «Для чытача, імя якому народ» гаворыць аб дасягненнях беларускай літаратуры апошніх гадоў, засяроджвае ўвагу на нявырашаных праблемах, зазначаючы ў заключэнне: «Галоўны сэнс усёй ідэалагічна-выхаваўчай работы сярод пісьменнікаў бачыцца цяпер у тым, каб паўней мабілізоўваць творчыя намаганні літаратараў на выкананне пастаўленых партыяй задач, каб кожны з нас глыбока адчуў і зразумеў: інакш, чым на поўную сілу і з поўнай самааддачай, сёння працаваць нельга! Чытачам патрэбна слова гарачае, праўдзівае, пераканаўчае, важкае, і пісьменнік — калі толькі ён сапраўды пісьменнік — гэтае слова павінен у сабе знайсці!..».**

**К. СЯМАШКА.**

---

# У «БІБЛІЯТЭЦЫ КІНАДРАМАТУРГІІ»

**Мастацкі фільм А. Адамовіча і Э. Клімава «Ідзі і глядзі» — адна з самых значных стужак, пастаўленых савецкімі кінематаграфістамі ў апошні час, — з поспехам дэманстраваўся на экранах свету, заваяваў прызы і дыпломы на многіх кінафестывалях. Цяпер аматары кіно могуць пазнаёміцца з самім сцэнарыем, напісаным А. Адамовічам і Э. Клімавым, які выдавецтва «Искусство» выпусціла ў серыі «Бібліятэка кінадраматургіі».**

**В. ЗАКРЭУСКІ.**

ПАЭЗІЯ



Васіль ВІТКА

# З новай кнігі

## Бычок

— Бысю, бысю, бысенька,
Беленькая лысінка,
Хто гэта набіў табе
Аж дзве шышкі на ілбе?

— Гэта ж я з Пятром бароўся,
Пабароў Пятро мяне.
З таго часу я зарокся,
Што ўжо больш не буду — не,

Бо калі яшчэ хоць трошкі
Болей саступлю яму, —
Ой, баюся я, што рожкі
Вырастуць і ў Пеці: — м-му!

## Прасвятленне

Захрасла ў гарляку сляза,
Як горкі воцат.
Нацятае душы ляза
Крануўся Моцарт.

І ўсё, што цэлы дзень гняло,
Было няміла,
Як лёгкаю рукой зняло.
І свет панылы

Увачавідкі стаў наноў.
Са мной супольна
Гатоў пакутаваць іэноў
І жыць няўтольна.

## Запаснoe калясо

«Як няўпэўнены — не абганяй!» —
Лезе ў вочы часцей і часцей,
Падбівае спакуса: — Давай,
Ну, чаго валачыся ў хвасце?

Абагнаў адзін раз і другі —
Зноў бясконцай дарогі ласо.
Мільгацяць за кругамі кругі,
А ў запасе — адно калясо.

Запазетнае, толькі адно —
Незаменнае сэрца маё.
Вось сарвецца ў бяздонне яно,
Вось імчыць паміж светлых гаёў,
Па мастку, па лажку, па лужку,
Ледзь трымаючыся на валаску.

Вось абгоніць, абгоніць мяне.
Дых займае — трываю, цярплю
Абмінае, мінае, міне...
Не! Дарогі яму не ўступлю.

І такі абагнаў, абагнаў!
Добры лёс перамогу нясе.
Пераможца я зноў і магнат
Пры адным запасным калясе.

## Арфей і Эол

На арфе маці мая не іграла,
Не дзівіла свет
Ні менуэтамі,
Ні паланезамі,
Ні вальсамі.
Маці мая кросны снавала,
На аснову ніткі перабірала
Шурпатымі, спрацаванымі пальцамі,
Якія не зналі пярсцёнкаў
І вясельнага золата, —

А як спявала
Чыста,
Звонка
І молада!

Мар'і, Рыпіні, Матруны і Марфы,
Пражыўшы жыццё,
За век свой не чулі эолавай арфы,
Як звіняць яе струны
Далікатна,
Прыгожа, —
Мар'і, Рыпіні, Марфы, Матруны
На ліповых апалушках
Перавейвалі збожжа.

Пры лагодным ветрыку
Апалалі,
Арфавалі
На арфе дзівоснай.

Па зярнятку,
Як па нітачцы,
Перабіралі,
Снуючы на новыя вёсны
Засеўкі і кросны.

Дзякуй вам,
Абодвум чараўнікам,
Што заўсёды нам памагалі.

Дзякуй вам,
Арфей і Эол.

Кожны стараўся ў рабоце,
Цягнуў, як вол.
Нездарма нашы песні
Так высока луналі!

*Максіму БАГДАНОВІЧУ*

## Споведзь

Столькі пакут, слёз і болю, і нерваў
У чаканні жаданага мігу.
Пасля смерці паэта шэдэўрам
Назавуць яго кнігу.

Так ад веку было і так будзе,
Ад калыскі да на той свет перавозчыка.
Геніямі не бываюць жывыя людзі,
Геній — прызванне нябожчыка.

## Арол

Дзве мовы — двое крыл
Я маю за плячыма,
А не хапае сіл
Пабачыць зноў айчыну.

Глядзіць арол стары
Вунь на мяне звысоку.
Не ўмее гаварыць,
А як чуцён далёка!

## Вянок

Мова дадзена — не маўчаць.
Мова дадзена — мовіць.
Не кладзіце нябыту пячаць
На паэтаву споведзь.

Не на глум, не на злом,
Не для немачы ў горле,
Ён радзіўся арлом
З крыллем орлім.

А дзе тыя арлы
Ў нас, на Белае Русі? —
Запытаеце вы.
Адказаць сам ён мусіў,

Як глытаў з крымскіх гор
Горкі пах палыновы,
Бачыў родны прастор
І вянок свой цярновы.



Лавіся, рыбка... Фотаэцюд М. ХОМЧЫЦА.

ПРОЗА



Леанід ЛЕБАНОВІЧ

# Гаўрыла і Анісся

АПАВЯДАННЕ

Стары Гаўрыла даставаў з калодзежа ваду. Настылы, выслізганы да бляску шурпатымі мазолістымі далонямі журавель гучна скрыпеў на ўсю іхнюю невялічкую—тузін двароў—вёску. Ля калодзежа намерз курганок лёду. Гаўрыла асцярожна падняў вёдры, павярнуўся ісці дамоў. Перад ім нібы вырасла з-пад зямлі суседка Хрысціна.

— Здароў табе, Міхайлавіч! —гучна павіталася яна, ведаючы, што Гаўрыла трохі тугаваты на вушы.—Прывет табе перадаю. Ад Анісcі...

— Ад каго? Якой Анісcі?

— Што, ужо і Анісcі не помніш? А некалі жаніліся, любіліся...

— Не дуры ты мне галаву. Было, ды быллём парасло. Паўсотня гадоў мінула...

— Яна дык во не забылася. Пісьмо прыслала. Прывет перадае... Мужык ейны памёр. Адна цяперацька. Дзеці разляцеліся.

— Ці ж толькі ў яе так?—сярдзіта сказаў Гаўрыла, зноў узяўся за вёдры і, горбячыся мацней звычайнага, пацягнуўся дамоў.

— Дык што ёй адпісаць? — крыкнула ўслед Хрысціна.—Ты во адзін у хаце...

— Хіба ж я адзінокі? Сірату знайшла,—пакрыўдзіўся Гаўрыла, паставіў вёдры на снег, выпрастаўся, распраміў плечы. — У мяне куча дзяцей. Сямёра. А ўнукаў паўтара дзесятка. Ты ж іх ведаеш. Я, калі хочаш, магу хоць заўтра паехаць да дзяцей у Магілёў, а то і ў Маскву...

●

Па вясне будзе год, як памёрла Матруна, але гаспадарку Гаўрыла пакуль што не зводзіў, хоць сыны і дочкі ў адзін голас гаварылі: прадавай карову, дзе ты з ёй адзін справішся. Бацька слухаў дзяцей, зяцёў і нявестак і думаў сваё: вы гамоніце, але ніхто з вас не адмаўляецца ні ад малака, ні ад масла, ні тым больш ад скваркі. А малодшы Васіль, вясёлы, здаровы хлопец, вышэй за бацьку амаль на дзве галавы, увосень сказаў: «Жаніся, тата. Вазьмі якую ўдаву». —«Ніхто мне пакуль што не патрэбны,—хмура адказаў Гаўрыла.—Ты от скаліш зубы: жаніся, тата. А яшчэ і ўгодкаў па матцы не справілі»...

Гаўрыла набраў бярэмца дроў і панёс у хату. Потым ён сядзеў ля грубкі і задумёна глядзеў на агонь. Сухія, аблетавыя дровы патрэсквалі, гарэлі зырка. Неўзабаве ў калені пачало прыпякаць аж скрозь ватнікі. Гаўрыла адставіў зэдлік далей і зноў сеў.

Што б ён ні рабіў у гэты вечар, не-не ды і ўспаміналася Анісся. А цяпер, гледзячы на агонь, згадаў яе асабліва выразна: маладую, усмешлівую, з доўгай касой. Ён з хлопцамі хадзіў тады гуляць у суседнюю вёску Шарэйкі. Было гэта недалёка, нейкія тры кіламетры. А што гэта значыць для маладых ног у вечаровай цішы і свежасці прасігаць праз хвойнік, перайсці па кладцы ручай?!

Дык вось, моладзь сядзела на лаўцы, дымілася цяпельца, каб адганяць камароў. Дым курыўся, трапляў у вочы, але дзяўчаты весела спявалі, зрэдку каторая і пакашлівала, калі хапала дымку, і слязу выцірала, ды гэта толькі прыбаўляла смеху і весялосці. Гаўрыла даўно прыкмеціў дзяўчыну з касой, ведаў, што завуць яе Анісся, у той вечар яму пашчасціла сесці каля яе. Ён прыціскаўся шчыльней, яна не адсоўвалася. І гэта радавала хлопца, хоць і разумеў, што няма куды ёй адсунуцца—сядзелі ўсе шчыльна. Потым ён цішком паклаў ёй руку на плечы, адчуваючы халаднаватую, мяккую ад вечаровай вільгаці касу.

Зачасціў Гаўрыла ў Шарэйкі. Амаль штодня бачыўся з Аніссяй, яны ўжо і абдымаліся, і цалаваліся, але Аніссіна маці ўсяляк адгаворвала дачку ад замужжа. Але чаму яна так супраць яго, хлопец не мог даўмецца. Неяк яны касілі з бацькам, селі палуднаваць пад кустом, тады бацька і кажа: «Ну што, сынок, упала табе ў вока Анісся з Шарэек? Дзеўка яна відная. Толькі і бацька, і маці яе ўпірацца будуць...»—«А чаму? Анісся хоча замуж. Дык што, яны дачцэ дабра не жадаюць?»

Бацька пільна зірнуў на сына, нахмурыў на пераносці густыя бровы, са злосцю стукнуў варанае яйка аб касcё: «Такая тут закавыка, сынок, выйшла. У калектывізацыю быў я ў камісіі. Я ж пралетар. Бядняцкі элемент. Хоць кузню сваю і займеў акурат перад калгасамі. Шкада было яе, але аддаў. Сказаў, што буду рабіць усё для калгаса. А Кандрат, Аніссін бацька, мужык не лянівы, і ў чарку не заглядваў. Ну, хіба мо ў каляды... Карацей, жыў ён крэпка. Ну, і прыходзіў я да яго са старшыней сельсавета. Старшыня ўсё казаў яму: «Кандрат, не паслухаешся мяне, загрыміш на Салаўкі»... Кандрат слухаў і коса пазіраў то на старшыню, то на мае кулакі... Абкладі яго «цвёрдым налогам»... Усё ён выплаціў. Затое жывы застаўся. Дык вось яны і злуюцца на мяне. І радніцца не хочуць. Так што, сын, калі дужа будуць упірацца, плюнь на іх. У нас дзеўкі не горшыя...»

Але вяселле згулялі. Першую ноч жаніх і нявеста бавілі на сенавале. І першая ноч аказалася апошняй. Прачнуўся Гаўрыла ўранні — цап-лап, а жонкі няма. Падумаў, што памагае матцы гатаваць сняданак. Сонечныя промні прабіваліся ў шчыліны, спявалі пеўні, гаўкалі сабакі, рыпеў калодзежны журавель, гаманілі людзі. Вёска сустракала новы дзень. Злез з сенавала Гаўрыла шчаслівым чалавекам. Радасць перапаўняла ўсю яго істоту, ён расправіў шырокія маладыя плечы, смачна пазяхнуў, пацягнуўся, і хоць спаў усяго дзве-тры гадзіны, ніякай стомы не чуў, гатовы быў касіць цэлы дзень ці махаць молатам у кузні.

Бацька, які паспеў пахмяліцца, стаяў у расшпіленай сарочцы: «Не бядуй, сын, што яна ўцякла... Знойдзем лепшую бабу. Раз уцякае, то з такой кручанай кашы не зварыш...»

А потым прыйшлі бабы з Шарэек і перадалі, што нібыта Аніссіна маці сказала: нагі ейнай дачкі тут не будзе. Вопрамець кінуўся Гаўрыла з хаты, дружкі за ім. Але бацька дагнаў, заступіў дарогу, цяжка дыхаючы, схапіў сына загрудкі: «Сынок, богам цябе прашу, не ідзі. Не прыніжайся перад бабай. Сама прыйдзе. А то дасі папуску, дык яна заўсягды, калі што якое, будзе бегаць матцы жаліцца... Пакажы свой характар. Помні, Кавальчукі — людзі гордыя. Хоць і бедныя...» — «Можа, выдумляюць людзі? Я хачу пабачыць яе. Пусці, тата». — «Праўду кажуць, сынок. Калі б няпраўда, то Анісся была б тут. І з бацькам, і з маткай. З усёю радзінаю. А то ж няма нікога... Ну, гадаўка. Ну, кулацкае адроддзе...» — бацька са злосцю вылаяўся.

І гэта раптоўна ахаладзіла Гаўрылу. Ён павярнуў дамоў. Але на другі дзень цішком пайшоў у Шарэйкі. Сустрэла яго Аніссіна маці. «Дзе Анісся? Хай выйдзе!» — «Няма яе ў дварэ. Ідзі з чым прыйшоў».

А праз колькі дзён дачуўся Гаўрыла, што Анісся паехала на Украіну да сваякоў. Цяпер дайшло да яго, што яна не вернецца. Пабедаваў хлопец і назло ёй ажаніўся з суседскай дзяўчынай Матрунай, здаровай, рахманай, якая мела адну загану — была трохі рабаватая з твару.

●

Дровы даўно дагарэлі, ужо і вугольле пакрылася шаравата-блакітным мохам. Гаўрыла зачыніў юшку, уключыў святло і адразу пацягнуўся да старэнькага люстэрка, што вісела на цвічку. Калі галіўся, то здымаў яго і ставіў на стол. І цяпер ён зняў люстэрка — з мутнаватага, запыленага шкла на яго пазіраў хударлявы чалавек з маршчакаватым, аброслым сівой шчэццю тварам.

— Стары я ўжо зусім, — уздыхнуў Гаўрыла. — Ды і яна ж не маладзіца, — і паставіў люстэрка на стол, каб не забыць заўтра пагаліцца.

Дні большалі ўвачавідкі, зіма павярнулася на другі бок. Сонца свяціла зырка, да рэзі ў вачах. Пачыналася вясна-святла. Гаўрыла старанна галіўся, часцей падмятаў у хаце, нібы нечага чакаў.

Аднойчы раніцой зайшла да яго Хрысціна.

— Што ета ты ляжыш? Захварэў, сусед, ці што? — Хрысціна прыглядалася да яго старымі, падслепаватымі вачамі.

— Ды не. Задрамаў троху. Праходзь, садзіся. Што ты стала ў парозе? — Гаўрыла падняўся з канапы, сеў да стала.

Хрысціна была ў кажушку наапашкі, з-пад тоўстай хусты выглядвала тонкая белая, цёплая зялёная кофта абцягвала пустыя старэчыя грудзі.

— Няма калі сядзець. Прыйшла сказаць... Анісся прыехала.

— Куды прыехала? Да каго?

— Да мяне. Яна ж пасёстра мая. Радня. Хадзі, пасядзім троху.

— Ды я... Чаго мне? — разгубіўся Гаўрыла. — Карова нядоена, парсюка трэба накарміць...

— Ну дык падаі. Кінь ёй сена. Цэла будзе твая карова. І кабан не здохне... Хадзі. А то нам удзвёх сумна, — Хрысціна так умольна глядзела на яго, што Гаўрыла яшчэ болей разгубіўся.

— Ат, што з вамі, з бабамі... Падаю карову і прыйду.

— Толькі ж глядзі, не баўся. Чалавек жа цябе дажыдае, — Хрысціна крутанулася за дзверы.

— Дажыдае... Я болей дажыдаў, — буркнуў Гаўрыла, апранаючы кажух.

На дварэ яшчэ не сцямнела, але вокны Хрысцінінай хаты ўжо ярка свяціліся. Гаўрыла ішоў, стараючыся не горбіцца, нібы баіцца, што за ім нехта сочыць. Дзверы ён адчыніў рашуча, і адразу яму кінулася ў вочы: за сталом на лаве сядзела незнаёмая мажная жанчына ў акулярах.

— Здароўце вам! З прыездам... — імя Аніссі не назваў, чамусьці язык не павярнуўся.

Жанчына ў акулярах даволі лёгка паднялася насустрач.

— Здароў, Міхайлавіч, — і падала яму мяккую белую руку.

Гаўрыла далікатна паціснуў Аніссіну пульхную далонь. Анісся затрымала яго руку, доўга разглядала яго праз шкельцы акуляраў.

— Во ты які... Каб на вуліцы стрэла, не пазнала б ні за што.

— Столькі гадоў мінула. І я не пазнаў бы...

Ён прыглядаўся да Аніссі і нічога не знаходзіў ад той маладой, танклявай, прыгожай. У гэтай была круглая, бы качан капусты, галава на караткай шыі, кароткія валасы, праўда, яшчэ даволі густыя і амаль без сівізны. Анісся шырока ўсміхалася, паказваючы роўныя ўстаўныя зубы. Такія ж «чужыя» зубы красаваліся і ў ягоным роце.

— Ну, сядайце, госцікі, дарагея, — прашапялявіла Хрысціна.

Анісся лёгка павярнулася і падалася да лаўкі, села далей, нібы запрашаючы Гаўрылу сесці побач. Ён неяк сумеўся, убачыў ля печы зэдлік, прыставіў яго да стала. Гаспадыня падсунула яму чарку віна.

— Ды я... праўду кажучы, не ўжываю апошнім часам, — пачаў адмаўляцца Гаўрыла.

— Што ета ты хвардабычышся? Няма чаго прыкідвацца. І слухаць не хачу. За прыезд госці дарагой, пасёстры маёй. Можаш выпіць, — настойлівала Хрысціна. — Ну, бярыцеся...

— Дык ты ўжо і віна не п'еш? — здзівілася Анісся, калі Гаўрыла адставіў недапітую чарку. — Выбраў норму, ці здароўе не дазваляе?

— Якое ўжо тут здароўе? Стаптаўся. Клапаны грукаюць. Таму і ў чарку не заглядваю, — Гаўрыла ўзяў скрылёк куплёнай каўбасы. Паволі жаваў, не чуючы смаку.

— Крэпкі ён яшчэ мужык. І косіць, і дровы возіць. Карову даглядае. Еткую гаспадарку трымае, — размахваючы відэльцам, гаварыла гаспадыня. Яна падпіла ўжо, схуднелы бяззубы твар яе злёгку расчырванеўся.

— Мой муж, нябожчык, як рабіў на шахце, трымаўся. Ну, у святы, выхадныя — не без таго. А як на пенсію вышаў, дык і распіўся на сабачую пугу. Чаго не рабіла... Не памагло. Во, тры гадочкі, як няма яго. — Анісся дастала хусцінку, высмаркалася, цярнула вочы, зняўшы акуляры. І тут Гаўрыла пазнаў абрысы даўняй маладой Аніссі: трошкі кірпаты нос, высокія надброўныя дугі і той няўлоўны выраз, які ўласцівы бадай што кожнаму чалавеку, прыдаючы яму адметнасць і непаўторнасць.

Анісся схавала хусцінку, неяк адразу супакоілася, пачала апавядаць пра сваіх дзяцей, якія яны добрыя, вучоныя, як іх на рабоце паважаюць — у яе дзве дачкі і сын, мае пяцёра ўнукаў. Гаворачы пра дзяцей, заўсміхалася, павесялела, пахвалілася кватэрай, у якой жыве разам з малодшай дачкой і зяцем, чалавекам вельмі добрым, уважлівым і гаспадарлівым.

Гаўрыла слухаў яе і нечакана адчуў, што пачынае злавацца: навошта яна так хваліцца, хіба ў яго дзеці горшыя? Гэта, мусіць, адчула і Хрысціна, бо рашуча перапыніла госцю:

— А ў Гаўрылы яшчэ большая сямейка. Чатыры сыны. Ды хлопцы, як дубы. І дзеўкі тры...

— Дзеўкі! — хмыкнуў Гаўрыла. — Даўно ўсе замужам. У мяне ўжо шаснаццаць унукаў.

— Усе тваё дзеці рабацяшчыя, — падхапіла гаспадыня. — А мне бог не даў сыночка. Тры дачкі... Праўда, унукі ёсць. Ужо і праўнук паявіўся... Мой жа Пракоп не прыйшоў з вайны... — Хрысціна памаўчала. — Цяпер во жыць можна. Усё ёсць. А здароўя няма. Ведама, восьмы дзесятак...

Анісся моўчкі слухала, мабыць, яна падумала пра свае гады, — а ёй ужо нямала. Гаўрылу таксама не хацелася гаварыць пра ўзрост, пра сваю старасць. От каб расказаць што вясёлае, але не ўмеў ён жартаваць і гаварыць.

— Не думай, пасёстра, пра свае гады. Нашы гады — наша багацце, — як у той песні пяецца, — весела сказала Анісся.

— Можа, целявізар уключыць? — падхапілася Хрысціна.

— Ой, столькі не бачыліся — лепей пагаворым. Ці вы не нагледзеліся тэлевізара? Кожны вечар седзяце ля яго.

— Ета праўда, — уздыхнуў Гаўрыла. — Я дык з катом, з каровай гавару. Зімой. Улетку весела. Унукі панаедуць, дзеці, бывае, збяруцца.

— Цяперашнія дзеці не такія... як мы былі некалі, — Анісся зірнула на Гаўрылу, усміхнулася. — Ты ў маладосці быў такі маўчун. Такі маўмыра. Адно рукамі дзейнічаў. — Анісся выцерла вочы хусцінкай, папраўіла акуляры, цень смутку, нібы аблачынка, набег на твар. — Як ты ўсё-такі жывеш адзін?

— Як жыву? А вось пойдзем у хату. Пагледзіш. Кажуць жа добрыя людзі: лепш адзін раз пабачыць, чымся сто разоў пачуць...

●

На вуліцы Анісся ўзяла яго пад руку, і ён адчуў сябе няёмка, бо ніколі ў жыцці не хадзіў так. Увайшлі ў хату. Анісся хуткім паглядам акінула першы пакой, увайшла ў другі, патупала сюды-туды, і ўсё аглядвалася, нібы збіралася купляць хату. Выдыхнула — пара ледзь прыкметным слупком растала ў паветры.

— Холадна ў цябе, гаспадар, — сцепанула яна плячамі, не здымаючы зімовае паліто з лісою на каўняры.

— Печ цёплая. А ў грубцы яшчэ не палена. Дровы ўжо тут, толькі падпаліць, — Гаўрыла хуценька адкрыў юшку, сунуў у грубку смалячок і кавалак газеціны — і дровы загарэліся.

— Прынясу яшчэ дроў, — ён шуснуў за парог.

Нейкае дзіўнае хваляванне ахапіла Гаўрылу, у яго трэсліся рукі, дробненька, бы ад холаду, клацалі зубы. Ён пастаяў пад паветкай, паглядзеў на асветленыя вокны першае паловы хаты — шыбіны тонкім узорам распісаў мароз, але праз іх усё было відно, а паўцёмныя вокны другога пакоя адсвечвалі барвовымі водблiскамі. Ён, як злодзей, падкраўся да акна — Анісся цёмнай глыбай горбілася на зэдліку ля грубкі. Гаўрыла хуценька набраў бярэма дроў і важка, па-гаспадарску тупаючы, пайшоў у хату.

Гаворка ніяк не ладзілася. Гаспадар моўчкі сядзеў на канапе з рыпучымі спружынамі, а госця каля грубкі. Гаўрылу карцела, шчымела, як даўняя, застарэлая рана, спытаць, чаму тады яна не вярнулася, але не мог адважыцца. Ды і ці трэба? Нічога не перайначыш, жыццё пражыта. Інакшым сваё жыццё — без Матруны, без сваіх сыноў і дачок, без унукаў — уявіць не мог. І ўсё ж — чаму?..

— Слухай, Гаўрыла, скажы папраўдзе... Як на споведзі... Ты на мяне злуешся? — глухаватым голасам спытала Анісся.

— За што?

— Ну, што ўцякла я тады...

— Перагарэла ета ўсё. Дужа даўно было, — уздыхнуў Гаўрыла. — Я добра жыў з Матрунаю... Злосці на цябе няма... А ўсё ж чаму? Інцярэсна ўсё-ткі, чаму збегла? Што не панравілася?

— Напужалася я вельмі... Дурная была, не ведала нічагуткі... А ты, як той каршун, наляцеў. Ці як воўк галодны... Пасля дужа хацелася быць з табою. А матка ў адну душу: Кавальчукі — п'яніцы, разбойнікі, злыдзеі. Едзь, дачушка, у Данбас да дзядзькі. Ну, і паехала. Там і знайшла свайго... І я пражыла жыццё. Усяго было. І радасці, і гора. Чалавек мой неблагі быў, грэх лішняе казаць... Ой, прыпякае. Угрэлася. Можна, я паліто здыму? — і не чакаючы адказу, паднялася, выйшла ў першую хату.

Гаўрыла патупаў за ёй услед, каб уключыць там святло. Яна прыстоіла за парогам, і ён з разгону стукнуўся ёй у плячо.

— Не трэба святла. А то Хрысціна прыбяжыць. І пагаманіць не дасць, — прыцішана, як змоўшчыца, сказала Анісся, вярнулася да грубкі — грэлася, расшпіліла кофту. — Бачыш, саўсім не таўстая, — узялася рукі ў бакі, зірнула на яго.

— На нашы гады, дык нармальна. Бацька мой казаў: пакуль тоўсты сохне, дык худы здохне... — ён падышоў да акна, завесіў фіранку.

— Во, во, завесь. А то яшчэ хто падглядзіць. Скажа, выкручваецца, як маладая. Ты, можа, тут палюбоўніцу завёў, га? — усміхнулася Анісся.

— Адкуль тут яе возьмеш? Дый стары я ўжо. Скора семдзесят.

— Дык і мне ўжо нямала. Я ж на два гады толькі маладзейшая. А ўсё роўна. Жывому — пра жывое. Нешта ты як госць у сваёй хаце?

— Я от думаю... Чым і пачаставаць цябе? Гарэлкі няма.

— Як гэта ты ад гарэлкі адвучыўся?

— Жысць адвучыла.

— Малака вып'ю, калі ёсць. А то ў роце смажыць.

— Чаму ж няма? Увечары падаіў. Свежанькае.

Гаўрыла прынёс карэц малака.

— Можа, хлеба з варэннем?

— Не трэба. Я так, — Анісся, смакуючы, выпіла поўны карэц. — От дзякуй. Найлепшае віно, — яна выцерла рот тыльным бокам далоні, неяк гарэзліва зірнула на Гаўрылу і абшчапіла яго аберуч за шыю.

Страдаўні латунны карэц глуха стукнуўся аб падлогу...

●

Яны ляжалі на печы, на цёплай чарэні. Гаварылі і не маглі нагаварыцца. Гаўрыла расказваў пра вайну. Анісся абмацала шрамы ад раненняў на ягоным плячы.

— Шчаслівчык. А маглі ж скубануць ніжэй... Крэпкі ты яшчэ мужык, Гаўрылка. Не сцягаўся, збярогся..

— Ніяк я не бярогся. Сорак гадоў адрабіў. І ў кузні, і на трактары. Вунь у шафе цэлы пук грамат. І пахвальных, і ганаровых. Ад работы ніколі не хаваўся. Парода наша моцная. Кавальчукі... — ён падняўся, пасунуўся з печы. — Выйду на двор.

Ноч была зорная, ціхая, ноздры аж зліпаліся ад марозу. І раптам ён уздрыгнуў: гучна залопаў крыллем певень.

«Першыя пеўні, мабыць. Яшчэ рана, — і з радасцю адзначыў, што ён даўно так выразна не чуў пеўня ў хляве. — Ці ў мяне ад вушэй адлягло? Ці я маладзею? — і ён патупаў па чыстым рыпучым снезе. — Чорт пабірай, не такі я стары! На днях унучак яшчэ адзін радзіўся. Яшчэ адзін Кавальчук, — Гаўрыла зірнуў на неба і нечакана ўбачыў бліскучы чырвоны агеньчык, які мігаў, пульсіраваў, як святлафор, і плыў угары. — Самалёт, відаць. А мо касманаўты паляцелі? Во, не спяць людзі... Э-хе-хе, толькі б вайны не было», — востра апякла яго трывожная думка.

Зноў закукарэкаў певень. Гаўрыла ўспомніў, што сёння стрэчанне, вясна будзе змагацца з зімой, а певень павінен напіцца вады са страхі, што скора вясна, можна лічыць, перазімаваў.

Ён вярнуўся ў хату і пасунуўся ў другі пакой, вобмацкам пачаў разбіраць ложак.

— Што ты тут робіш? — басанож тэпала да яго Анісся.

— Ложак разбіраю. Я, можа, тут лягу. Ці ты кладзіся. З дарогі..

— Хіба на печы кепска? Мне падалося лепей, чым на пярыне. І я не стамілася... Пагрэлася на печы, дык неяк палягчэла. Нібы сем пудоў з плячэй звалілася, — Анісся прыхінулася да грубкі. — Падлога, як лёд, а грубка такая цёплая.

— Вазьмі мае атопкі, — ён падсунуў ёй абрэзаныя валёнкі, сам сеў на ложак. — Грубка хутка грэецца. Пасля вайны з бацькам склалі. Ён усё ўмеў рабіць...

— Я пасядзела ля грубачкі, дык проста душою адагрэлася... Дурныя людзі. Пішчом лезуць у горад, у каменіцы, у клеткі. А тут такая вольніца... І паветра чыстае, і снег белы...

— Затое ж у горадзе лягчэй жыць. Дровы не трэба. Сена не трэба. Прыйшоў з работы, дый на бакавую... Вунь Хрысціна спрацавалася...

— Ты ёй памагай хоць трохі, — ціха сказала Анісся.

— Памагаю. От заставайся... Будзем болей памагаць...

Анісся доўга маўчала, падышла да яго, паклала рукі на плечы.

— Ты праўда хочаш, каб я засталася?

— Праўда, Анісся... Заставайся. Тады ў нас не атрымалася... Жыццё прайшло паасобку. Давай хоць дажываць разам...

— Дарагі ты мой чалавек... Ты не ведаў. Не здагадваўся. І падумаць не мог... А я ўсё жыццё цябе ўспамінала... Мой і спіўся ад таго, што не любіла... — Анісся зашморгала носам, уткнулася галавой яму ў плячо.

Шурпатай далонню Гаўрыла правёў па яе твары, мокрым ад гарачых слёз. Яму таксама хацелася плакаць, нейкае шчымлівае пачуццё непараўнанай віны захліснула ўсю яго істоту.

Ціхая марозная ноч стаяла над маленькім паселішчам. Глыбокім чыстым снегам была ўхутана зямля. Зрэдку на Бесядзі гулка трэскаўся лёд, быццам рыхтаваўся да вясновага крыгаходу.

# Ад вытокаў да сучаснасці

**Да выдання «Гісторыі беларускага тэатра» ў 3-х тамах**

Тэатразнаўчая навука рэспублікі ўзбагацілася важкім здабыткам — выйшаў у свет трэці, апошні том «Гісторыі беларускага тэатра». Завершана фундаментальная шматгадовая праца калектыву супрацоўнікаў аддзела тэатра Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

Настойліва і мэтанакіравана ішлі да гэтага абагульняючага выніку вучоныя рэспублікі. Апошнім часам з'явіліся кнігі, прысвечаныя асобным аспектам тэатральнага жыцця Беларусі дакастрычніцкага перыяду (Ю. Пашкін), розным праблемам сучаснага развіцця беларускага тэатра (Р. Смольскі, Т. Гаробчанка, А. Сабалеўскі, Ю. Сохар, Т. Арлова), створаны падручнік для студэнтаў ВНУ мастацкага профілю (У. Няфёд), манаграфіі пра асобных дзеячаў тэатра (К. Кузняцова). Усё гэта былі прыступкі да якасна новага, больш высокага ўзлёту даследчыцкай думкі, да паглыбленага аналізу з'яў сцэнічнага мастацтва, яго сувязі з гістарычнымі, сацыяльна-культурнымі праявамі часу.

Мабыць, у гэтым галоўная каштоўнасць выдання. Тэатральны працэс разглядаецца ва ўсіх тамах «Гісторыі беларускага тэатра» як мастацкае адлюстраванне тэндэнцый пэўных гістарычных перыядаў, як асэнсаванне месца тэатра ў агульнай плыні грамадскага развіцця. Гісторыка-храналагічны прынцып вызначае і кампазіцыю даследавання. У першым яго томе паказаны шлях ад фарміравання першых народна-фальклорных форм сцэнічнай творчасці да стварэння прафесійнага тэатра. Значную цікавасць уяўляюць старонкі, дзе паслядоўна і доказна раскрываецца нацыянальная спецыфіка тэатральна-фальклорных паказаў — карагодаў, абрадаў, батлеечных і скамарошых прадстаўленняў. Прычым, што таксама важна для сучаснага разумення, станаўленне і трансфармацыя традыцыйных форм відовішчаў паказана на фоне развіцця славянскіх культур, іх еднасці і нацыянальных адметнасцей, у параўнаўчым аналізе. Аўтар раздзела пра вытокі беларускага тэатра М. Каладзінскі не толькі сістэматызаваў матэрыял, дапоўніў яго новымі фактамі, але і рэканструяваў пэўныя народныя абрады з пункту гледжання іх тэатралізацыі, што дае больш жывое ўяўленне пра эвалюцыю народных тэатральных жанраў у часавым вымярэнні.

Шматлікі аўтарскі калектыў тэатразнаўцаў пад кіраўніцтвам У. Няфёда пашыраны ў гэтым выданні літаратуразнаўцамі—А. Мальдзісам, Я. Усікавым, А. Семяновічам.

Разам з тым, нельга не сказаць і пра пэўныя страты, што выявіліся «на стыку» двух сцяжын—літаратуразнаўчага і тэатразнаўчага. Гісторыкі літаратуры аналізуюць перш за ўсё тэксты драматычных твораў і не заўсёды спалучаюць літаратурны працэс са з'явамі ўласна тэатральнымі. Узнікае пэўная ізаляванасць у разглядзе твораў, напрыклад, Сімяона Полацкага, а затым і К. Каганца, Я. Купалы, Л. Родзевіча ад сцэнічнай практыкі адпаведных гістарычных перыядаў. А такая сувязь існавала, і яе трэба было б падкрэсліць.

Гаворачы пра першы том «Гісторыі...», нельга не адзначыць грунтоўнасць матэрыялаў пра прыгонны тэатр на Беларусі (Г. Барышаў), творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча (А. Сабалеўскі) і дзейнасць Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага (У. Няфёд).

Другі том выдання ахоплівае перыяд з 1917 па 1945 гады і падзяляецца на пяць падраздзелаў: «Тэатр у перыяд Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, замежнай інтэрвенцыі і Грамадзянскай вайны (1917 — 1920)», «Тэатр у перыяд аднаўлення народнай гаспадаркі (1921 — 1925)», «Тэатр у перыяд пабудовы фундамента сацыялізма (1926—1932)», «Тэатр у перыяд перамогі сацыялізма ў СССР (1933—1941)», «Тэатр у гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1945)». Я знарок пералічваў назвы ўсіх гэтых частак, каб падкрэсліць груваздкасць такой кампазіцыі і нават залішнюю сацыялагізацыю культурнага працэсу. Зразумела, што мастацтва заўсёды звязана з палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыяй у грамадстве. Звязана, але не адэкватна! Гэтую думку падкрэсліваў Ф. Энгельс у сваёй рабоце «Анты-Дзюрынг», дзе сказана, што культура і мастацтва заўсёды валодалі «адноснай самастойнасцю развіцця». Гэты тэзіс развіў У. І. Ленін у «Філасофскіх сшытках», дзе ён, крытыкуючы кнігу В. Шулятнікава аб развіцці заходнееўрапейскай філасофіі, гаварыў пра недапушчальнасць простага вывядзення развіцця духоўнай культуры з існуючых у грамадстве сацыяльна-эканамічных, палітычных умоў. Унутраныя законы літаратуры і мастацтва вызначаюцца не толькі сацыяльнымі, але і эстэтычнымі тэндэнцыямі.

Том змястоўны, насычаны аналізам спектакляў, а таксама уводзіць у навуковы ўжытак малавядомыя раней факты і з'явы. Дэталёва разглядаецца дзейнасць рускіх тэатраў на Беларусі як часткі шматнацыянальнай культуры (К. Кузняцова, Р. Смольскі), даецца цікавая інфармацыя пра шляхі развіцця тэатральнай самадзейнасці (С. Пятровіч, Ю. Сохар), пра тэатральную адукацыю (Ю. Сохар), аналізуецца тэатральная крытыка (Т. Гаробчанка) і міжнацыянальныя тэатральныя сувязі (Ю. Пашкін), разглядаецца творчасць тэатраў лялек (М. Каладзінскі), дзейнасць тэатральных брыгад на фронце і ў тыле (У. Няфёд), калгасна-саўгасных тэатраў (К. Кузняцова).

Галоўная ўвага ў томе, натуральна, аддадзена творчасці вядучых калектываў рэспублікі — Першага, Другога і Трэцяга беларускіх тэатраў (У. Няфёд, Э. Герасімовіч, С. Пятровіч). Вызначальным крытэрыем ацэнкі іх дзейнасці з'яўляецца, перш за ўсё, сувязь з жыццём, высокае пачуццё грамадзянскай адказнасці, прафесіяналізм. Аўтары адзначаюць выключную ролю заснавальнікаў нацыянальнай сцэны — Ф. Ждановіча, Е. Міровіча, У. Галубка, М. Міцкевіча, К. Саннікава, якія акрэслілі магістральную лінію ў фарміраванні рэпертуару, у станаўленні метаду сацыялістычнага рэалізму на нацыянальнай сцэне. Дадзена характарыстыка лепшых акцёрскіх работ у спектаклях «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «Кар'ера таварыша Брызгаліна» Е. Міровіча (БДТ-1, рэжысёр Е. Міровіч), «Суд», «Бязвінная кроў», «Пісаравы імяніны» У. Галубка (Беларуская трупа пад кіраўніцтвам У. Галубка), «Сон у летнюю ноч» У. Шэкспіра, «Цар Максіміліян» у пастаноўцы Другога беларускага дзяржаўнага тэатра.

Аналіз сцэнічных твораў першага — складанага і неадназначнага — перыяду тэатральнага жыцця Савецкай Беларусі, калі наш тэатр не без цяжкасцей сцвярджаў сваю мастацкую стылістыку, грунтуецца на дакументальных фактах, выкладзеных з улікам сацыяльна-палітычнай сітуацыі. З гэтай мэтай кожнаму падраздзелу папярэднічае кароткі ўступ, а затым высновы, дзе даецца кароткая анатацыя грамадскіх умоў, у якіх развіваўся тэатр (аўтар У. Няфёд).

Сярэдзіна і другая палавіна трыццатых гадоў — час найбольш плённага развіцця беларускай тэатральнай культуры. Менавіта ў гэты час у драматургію прыходзяць Я. Колас, К. Крапіва, К. Чорны, З. Бядуля, Э. Самуйлёнак, М. Клімковіч, В. Вольскі, адкрываецца дарога на нацыянальную сцэну творам рускай класікі — А. Астроўскага, М. Горкага, рускай савецкай драматургіі, дасягае значных вышынь акцёрская творчасць У. Крыловіча, Б. Платонава, П. Малчанава, І. Ждановіч, У. Дзядзюшкі, У. Уладамірскага, Л. Ржэцкай. Шкада толькі, што на старонках кнігі гэтыя факты толькі канстатуюцца, а не асэнсоўваюцца дыялектычна.

Завяршае другі том «Гісторыі беларускага тэатра» раздзел, прысвечаны дзейнасці тэатра ў гады Вялікай Айчыннай вайны, напісаны У. Няфёдам з добрым веданнем справы, выкарыстаннем архіўных матэрыялаў, успамінаў артыстаў — сведкаў драматычных падзей ваеннага часу. Хвалююць чытача жывыя замалёўкі творчасці «лясных» акцёраў і рэжысёраў, гераічныя старонкі іх жыцця і творчасці.

Найбольш складаная і адказная задача паўстала перад аўтарскім калектывам трэцяга, заключнага тома выдання. Цяжкасць нумар адзін—неабходнасць асэнсавання вялікага гістарычнага матэрыялу: па колькасці спектакляў, ідэйна-мастацкіх вартасцях сцэнічных твораў, няроўнасці іх значэння ў агульнай плыні развіцця тэатральнай культуры рэспублікі. Лагічнай і пераканаўчай уяўляецца кампазіцыйная структура тома, які складаецца з дзвюх асноўных частак: «Тэатр у гады аднаўлення народнай гаспадаркі і далейшага развіцця сацыялістычнага грамадства (1945—1961)» і «Тэатр ва ўмовах удасканалення сацыялістычнага грамадства (1962—1984)».

У рамках гэтай кампазіцыі і раскрываюцца творчыя працэсы, што адбываліся ў тэатрах Беларусі. Храналагічна-паслядоўна, грунтоўна і аргументавана аналізуюцца спектаклі тэатраў імя Янкі Купалы, Якуба Коласа, ТЮГа, абласных, рускага тэатраў Беларусі, тэатраў лялек. Асаблівая ўвага надаецца такім выдатным, этапным работам, як «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «З народам» К. Крапівы, «Цытадэль славы» К. Губарэвіча (рэжысёр К. Саннікаў), «Гэта было ў Мінску» А. Кучара (рэжысёр Л. Літвінаў). Разглядаюцца пастаноўкі паводле п'ес рускай і зарубежнай класікі, сучаснай савецкай драматургіі. Аналізуючы спектаклі вядучых тэатраў, аўтар раздзела Т. Гаробчанка не толькі дае ім аб'ектыўную ацэнку, але і выказвае шэраг крытычных заўваг. Так з'яўляецца магчымасць прасачыць пэўныя тэндэнцыі развіцця рэжысёрскага і акцёрскага мастацтва, дасягненні і хібы ў рэалізацыі творчых задум.

Нельга не згадзіцца, напрыклад, са сцвярджэннем (праўда, гэта спасылка на шэкспіразнаўцу М. Марозава), што ў ролі Рамэа Б. Платонаву не ўдалося ў поўную меру раскрыць лірычную сутнасць персанажа. Ён акцэнтаваў драматычны пачатак сцэнічнага існа-

ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ

# Што за чаго вышэй?

З цікавасцю прачытаў артыкул М. Шэляговіча «Абумоўлена намі, залежыць ад нас» («ЛіМ» за 13 сакавіка г. г.). Шмат якія аўтарскія высновы здзіўляюць і патрабуюць разгляду, бо артыкул нібыта маштабны, з паглядам у перспектывы развіцця беларускай літаратуры і нават з ужо гатовымі рэцэптамі ў яе «змаганні за выжыванне».

Сапраўды, праблема непапулярнасці, нечытэльнасці беларускай літаратуры ёсць, але зводзіць яе толькі да «якаснага тварэння» — спрашчэнне сітуацыі, што склалася на сённяшні дзень. Ці можна назваць няякаснай, «непадлягаючай дзяржпрыёмцы», кажучы словамі М. Шэляговіча, аповесць В. Быкава «Знак бяды», якую пераклалі ўжо на іншыя мовы? А можа, вершы нядаўна адкрытага для нас У. Жылкі, якія ўражваюць сваёй вытанчанасцю і інтэлектуальнасцю, ці тыя ж самыя пераклады Экзюперы, Камю? Усё гэта выдадзена даволі невялікімі тыражамі, але стаіць на паліцах кнігарань ужо не год.

Даводзіцца канстатаваць: у беларускай інтэлектуальнай і высокамастацкай літаратуры няма свайго шырокага інтэлігентнага чытача. Адкуль яму ўзяцца? Выхаванне і навучанне ў нас пастаўлена так, што губляецца сувязь з роднай мовай, літаратурай, культурай. Ці не таму ў нас няма як жанру навуковай фантастыкі, што «тэхнакраты», людзі найбольш дасведчаныя, стаяць наводдаль ад нацыянальнай культуры? Беларускае ж «друонства і гюгоўства», на якое скептычна паглядае М. Шэляговіч, прадстаўленае ў нас у пэўным, вядома, сэнсе, творамі Караткевіча і ўжо зараз творамі Л. Дайнекі, У. Арлова, ці не адзін з самых дзейсных шляхоў павароту нашага згубленага чытача да беларускай літаратуры ўвогуле?

Без выхавання ў моладзі адпаведных духоўных пачаткаў, «нацыянальнай свядомасці, любові да роднай мовы і гісторыі» казаць аб вырашэнні праблемы папулярнасці нашай хай сабе і найвыдатнай літаратуры не мае сэнсу. Беспадстаўным уяўляецца закід у бок беларускай літаратуры, якая быццам не выдала пісьменнікаў сусветнага ўзроўню. Па-першае, «апраўданні ў нашай беднасці» сапраўды ёсць, і яны самым шчыльным чынам звязаны з драматычнай гісторыяй беларускага народа. Дастаткова паглядзець, хто з пісьменнікаў памёр не сваёй смерцю, ужо не кажучы пра ўмовы творчасці і г. д. Па-другое, насуперак усяму, пісьменнікі сусветнага ўзроўню ў нас ёсць, ды зноў жа з-за недахопу агульнанацыянальнага выхавання мы іх не цэнім, не заўважаем, не чытаем. Да прыкладу, творчасць М. Гарэцкага — хіба гэта не сусветны ўзровень? У культурна-палітычным штотыднёвіку ГДР «Sonntag» пад рубрыкаю «Міжнародная рэцэнзія» Т. Н. Баран адзначыў нататкі-аповесць М. Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне» як адну з лепшых кніг пра першую сусветную вайну. Але «На заходнім фронце без змен» Рэмарка была выдадзена ў нас тыражом у некалькі соцень тысяч, у той час як тыраж 4-томніка М. Гарэцкага — усяго толькі 8 тысяч. Выдатныя творы, што склалі б гонар кожнай нацыі, ёсць у Я. Купалы і Я. Коласа, М. Багдановіча і А. Гаруна, У. Жылкі і К. Чорнага, В. Быкава і І. Мележа, У. Караткевіча... І гэта далёка не ўсё. Іх трэба выдаваць, іх трэба прапагандаваць.

Мне падабаюцца тургенеўскія «Бацькі і дзеці», але ж іх ставілі і яшчэ не раз могуць паставіць студыі Масквы, Ленінграда, Ялты. А вось ці паставяць на нашай кінастудыі тую ж самую «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага, я не ўпэўнены. А гэта ж наш абавязак—данесці да беларускага чытача і гледача тое, што мы маем! Дык ці можна казаць, што арыенціры на выхаванне любові да роднай гісторыі, культуры — арыенціры «заніжаныя», не духоўныя? Іншая справа, што, як бы сказаць, «сярэдняя» літаратура вось гэтых арыенціраў не мае і мець не хоча. Мабыць, ёй добра і так.

У чым жа бачыць духоўнасць М. Шэляговіч? Дзе, на яго думку, ляжыць шлях далейшага развіцця беларускай літаратуры? Аказваецца, не ў звароце да гісторыі і культуры народа, не ў выпрацоўцы нацыянальнага светапогляду, не ў актыўнай пазіцыі ў адносінах да грамадскіх працэсаў. Гэта не мэта, гэта ніжэйшая прыступка, так сказаць, «пачуцці». «Вышэй за іх — думкі, ідэі. А яшчэ вышэй — дух, духоўнасць». Да ведама М. Шэляговіча, усе гэтыя ягоныя тры ка-

вання свайго героя за кошт юначага запалу і жывой непасрэднасці закаханага. Пераконваюць тлумачэнні прычын рэжысёрскай няўдачы Л. Літвінава ў пастаноўцы «Талентаў і паклоннікаў» і поспеху спектакля «Даходнае месца» А. Астроўскага, пастаўленага Л. Мазалеўскай у купалаўскім тэатры.

Спектакль «Выбачайце, калі ласка» А. Макаёнка быў значнай з'явай не толькі для тэатраў імя Я. Купалы і Я. Коласа, але і наогул для савецкага сцэнічнага мастацтва. І невыпадкова, што разгляду гэтага твора, асабліва яго акцёрскім работам, аддаецца вялікая ўвага. Але не вельмі зразумела, чаму аўтар так лёгка аддае прыярытэт аналізу рэжысёру Б. Равенскіх. Пры ўсёй павазе да аўтарытэту гэтага майстра сцэны складваецца ўражанне пэўнай навуковай нясмеласці, спробы падмяніць свае думкі і высновы цытаваннем. Магчыма, даследчык не бачыла спектакля (дарэчы, гэтая заўвага ў поўнай меры адносіцца і да аналізу «Рамэа і Джульеты»), але ж майстэрства тэатразнаўцы заключаецца і ў тым, наколькі ён умее рэканструяваць спектакль на аснове дакументаў і фактаў. Цытатай жа можна падмацоўваць думку, погляд, але не замяняць іх.

Цікавасць да тэатральнага працэсу 70-х — пачатку 80-х гадоў і яго асвятленне на старонках «Гісторыі беларускага тэатра» выклікана не толькі тым, што гэтыя падзеі адбываліся ў нас на вачах, а яшчэ і тым, што ў гэты час праходзіла змена рэжысёрскіх пакаленняў і, натуральна, сцвярджаліся новыя сцэнічныя канцэпцыі. Найбольш наглядна яны выявіліся ў трох беларускіх тэатрах — імя Янкі Купалы і Якуба Коласа і Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. У тэатразнаўстве і крытыцы гэтыя працэсы не маглі не быць адлюстраваны.

Нельга не згадзіцца з аўтарам нарысаў пра нашы акадэмічныя тэатры Т. Гаробчанка, якая піша: «Станоўчым у творчасці маладых рэжысёраў з'явілася тое, што яны працягвалі адну з лепшых традыцый нацыянальнага сцэнічнага мастацтва — зварот да беларускай драматургіі. Так, у тэатры імя Я. Купалы былі пастаўлены творы Я. Купалы, К. Крапівы, А. Макаёнка, В. Быкава, А. Петрашкевіча, І. Шамякіна, І. Чыгрынава, А. Дударава і інш.». Дададзім, што коласаўцы адкрылі як драматурга У. Караткевіча.

Моцным бокам аналізу гэтага перыяду трэба лічыць комплексны разгляд канкрэтных работ калектываў у спалучэнні з агульнымі, часам супярэчлівымі працэсамі, што адбываліся ў савецкім сцэнічным мастацтве, спрэчкамі пра .так званы рэжысёрскі тэатр. Такі праблемна-тэарэтычны падыход асабліва выявіўся ў разглядзе пастановак «Трыбунал», «Зацюканы апостал», «Таблетку пад язык» А. Макаёнка, «Брама неўміручасці» К. Крапівы, «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Радавыя» і «Парог» А. Дударава на купалаўскай сцэне, «Снежныя зімы» І. Шамякіна, «Амністыя» М. Матукоўскага, «Трывога» А. Петрашкевіча, «Званы Віцебска» і «Кастусь Каліноўскі» У. Караткевіча, «Сымон-музыка» паводле Я. Коласа, «Парог» і «Вечар» А. Дударава ў коласаўцаў.

З інтанацыяй асабістай зацікаўленасці і заклапочанасці перспектывай развіцця тэатра для юнацтва напісаны В. Ракіцкім раздзел пра ТЮГ.

Спектаклі, спектаклі, спектаклі... Іх шмат — добрых і розных, запамінальных і забытых, зафіксаваных у друку і захаваных толькі ва ўспамінах гледачоў. Аўтарамі «Гісторыі беларускага тэатра» праведзена скрупулёзная работа па іх класіфікацыі, адборы, зверцы і ўдакладненні фактаў, пошуку невядомага ці малавядомага. Завершанасць выданню надаюць паказальнікі імён і твораў, якія ўпамінаюцца ў кожным томе (выканаўцы В. Іваноўскі, В. Козел, Л. Ляонава, В. Навуменка, А. Савіцкая, Г. Сяўковіч). Яны даюць магчымасць чытачу лёгка арыентавацца ў матэрыяле, знаходзіць тую ці іншую даведку.

Трохтомнік багата ілюстраваны, даводзіцца толькі шкадаваць, што якасць ілюстрацый далёкая ад дасканаласці.

Фундаментальнае акадэмічнае выданне «Гісторыі беларускага тэатра» выходзіць за рамкі вузкаспецыяльнай кнігі. Гэта агульнакультурная з'ява, дзе з'яднаны гісторыя і сучаснасць, павага да мінулага спалучаецца з грамадзянскай зацікаўленасцю сённяшнім днём беларускага тэатра, усведамляецца яго выключная роля ў фарміраванні духоўнага свету чалавека, яго эстэтычнай культуры.

**А. ЛАБОВІЧ.**

РЭПАРТАЖ У НУМАР




Вёска Літавец — адна з соцень беларускіх вёсак, што зведалі лёс Хатыні. Трагедыя адбылася 14 студзеня 1943 года — раней нават, чым хатынская. 42 спаленыя котлішчы, 196 жыхароў — старых, жанчын, дзяцей — вось вынік акцыі гітлераўцаў па навядзенні ганебна вядомага «новага парадку» ў акупіраванай Беларусі.

Колькі гадоў назад на месцы вёскі, у Дзяржынскім раёне, было вырашана зрабіць мемарыяльны знак. Ініцыятарамі выступілі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі рэспублікі. Разам са скульптарам С. Гарбуновай, архітэктарамі В. Яўсеевым і В. Здасюком задуму ажыццявілі паэт Р. Барадулін і мастацтвазнавец У. Пракапцоў. Ідэю творчай групы падтрымалі партыйныя, савецкія і камсамольскія органы Дзяржынскага раёна, Мінскі абком ЛКСМБ. Ужо стварыўся не проста мемарыяльны знак, а мемарыяльны ансамбль «Літавец». Творчая група працавала на грамадскіх пачатках, у рабоце па стварэнні ансамбля актыўны ўдзел прынялі камсамольцы Дзяржыншчыны.

...Здалёк, ледзь толькі расступіліся лясныя шаты, бачыцца ўязны знак. Бэлькі, узнятыя над зямлёю, сімвалізуюць рэшткі хаты, знішчанай ворагамі. На адной з бэлек — назва вёскі, на другой — расказ аб трагедыі Літаўца. «Вуліца» ж вядзе наперад, да манументальнага рэльефу.

Святлана Гарбунова, працуючы над увасабленнем задумы, вырашыла расказаць аб мірным жыцці вёскі. Будзённы, ніякі не гераічны эпізод: стары, седзячы на печы, моўчкі пляце кош. Маці гуляе з дзіцем, хлопчык, радасна ўсміхаючыся сонцу, птушкам, робіць свае першыя крокі. У цэнтральнай частцы рэльефу таксама дзеці, яны грэюцца на чарэні печы.

Усё гаворыць аб звыкласці вясковага ладу жыцця, яго вечнасці, несупыннасці, і адначасова ўносіць матывы трагедыйнасці. Побач з рэльефам — разбітыя вароты. Жыццё вось-вось абарвецца. Каваны бот фашыста ступіў сюды, дзе былі шчасце і радасць. Неўміручасць жа жыцця падкрэсліваюць дэкаратыўныя кусты ля спаленых хат, дрэвы. Напамінкам аб незваротнасці таго, што здарылася, — буслянка на дрэве ў цэнтры вёскі без птушак.

Арганічна ўпісваюцца ў агульную задуму радкі Рыгора Барадуліна. На рэльефе яны нясуць значную эмацыянальна-сэнсавую нагрузку, падкрэсліваючы і боль перажытага, і вечнасць чалавечай памяці аб ахвярах фашызму:

**Ні жудасць не астудзіць, ні мароз**
**Зямлю, дзе крык жывы травой прарос.**
**Агонь у напаміне, ва ўспаміне.**
**Прыйдзі адчуць, што прысак тут не стыне.**

Праз колькі часу адбудзецца ўрачыстае адкрыццё мемарыяла «Літавец». Пакуль што з ім пазнаёміліся першыя наведвальнікі. Сярод іх быў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Яму слова:

**— Мінулае народа жыве ў ягонай памяці, адлюстроўваецца ў мастацтве. Ахвяры вайны абавязваюць жывых свята шанаваць іх памяць, зрабіць у мірны час тое, што яны не паспелі зрабіць у час бязлітаснай барацьбы. Стварэнне мемарыяла ахвярам вёскі Літавец — наша даніна іх памяці. Яна неабходна жывым, тым, што прыйдуць пасля і будуць ушаноўваць подзвіг продкаў, зберагаючы мірнае шчаслівае жыццё і памятаючы гісторыю роднага краю.**

**На нашай шматпакутнай зямлі нямала святынь, да якіх прыходзяць людзі, на маральнай сіле якіх выхоўваюцца пакаленні. У гэтым жалобным спісе з'явілася яшчэ адна назва — хай жа яна жыве вечна, як і незабыўная памяць аб гэтай непрыкметнай вёсачцы і яе гаротніках — людзях.**

...Над галавою — блакіт мірнага неба, шчодра буяе вакол былых сядзіб лета, а тут быццам сам час супыніўся: «прысак тут не стыне».

**А. ВІШНЕЎСКІ.**

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

**«Паэт бацькоўскага краю» — *так называўся вечар, прысвечаны 75-годдзю Анатоля Іверса, у Слонімскім раённым Доме культуры. Адкрыў і вёў вечар малады паэт С. Чыгрын. Пра жыццёвы і творчы шлях А. Іверса гаварылі сакратар Гродзенскага аддзялення СП—БССР А. Карпюк, А. Лойка, М. Арочка, Д. Бічэль-Загнетава, А. Руцкая, А. Пяткевіч.***

**На вечары гучалі вершы, рускія і беларускія мелодыі і песні ў выкананні самадзейных артыстаў. Юбіляр прачытаў свае новыя творы, адказаў на пытанні прысутных.**

**І. БЕГЛІК.**

**Эдзі Агняцвет сустрэлася з вучнямі дзіцячай музычнай школы № 12 г. Мінска. Ініцыятарамі і ўдзельнікамі гэтай сустрэчы былі дзеці, якія займаюцца кампазіцыяй пад кіраўніцтвам маладога кампазітара Валянціны Сярых. Яны выконвалі свае творы, чыталі вершы, а выпускніца школы Аня Дуброўская пазнаёміла са сваёй песняй «Музыка лесу» на вершы Э. Агняцвет.**

**Прагучала і новая песня В. Сярых «Бацькаўшчына» для дзіцячага хору і саліста.**

**Э. Агняцвет прачытала школьнікам новыя вершы, расказала пра сваю творчасць.**

**І. УЛАДЗІМІРАВА.**



Выступае У. Паўлаў. Злева направа — М. Кусянкоў і Л. Арабей.

**Клуб «Субяседнік», які працуе пры кніжным магазіне № 46 Салігорска, добра знаёмы гарадскім аматарам кнігі. Ён шмат увагі ўдзяляе прапагандзе беларускай кнігі. Частыя госці клуба вядомыя пісьменнікі. У альбоме «Субяседніка» аўтографы Максіма Лужаніна і Ніла Гілевіча, Артура Вольскага і Міхаіла Герчыка, Мікалая Кругавых і Васіля Якавенкі.**

**Нядаўна ў «Субяседніку» адбылася чарговая сустрэча. Загадчыца кнігарні Таццяна Старавойт расказала аб рабоце з грамадскімі распаўсюджвальнікамі літаратуры.**

**Намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Мікола Кусянкоў пазнаёміў прысутных з тэматычным планам выпуску літаратуры на 1988 год.**

**Лідзія Арабей гаварыла пра герояў сваёй новай кнігі «Пошукі кахання», аб маральнай іх чысціні, якая ў цяжкія гады выпрабаванняў змагла процістаяць сіле зброі і смерці.**

**Уладзімір Паўлаў прачытаў свае вершы.**

**Ф. ГУРЫНОВІЧ,**
**старшыня савета клуба.**

Фота В. ХУДАЎЦА.

**Госцем студэнтаў філалагічнага факультэта Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага быў Станіслаў Шушкевіч. Пра яго творчасць расказала дацэнт кафедры беларускай літаратуры М. Шаўлоўская. С. Шушкевіч прачытаў вершы, адказаў на пытанні.**

**А. БІТАВА,**
**студэнтка II курса.**

●

**Пры бібліятэцы Беларускага політэхнічнага інстытута створаны клуб аматараў беларускай кнігі «Сустрэча». Першымі гасцямі клуба былі Ала Канапелька, Валянціна Аколава, Вольга Гурская.**

**В. ГАЛЯК,**
**супрацоўніца бібліятэкі.**

тэгорыі «ўзыходжання» ў літаратуры вельмі натуральна дапасуюцца да прыметніка «нацыянальны», а спроба «абтрэсці са сваіх ног» нацыянальны фермент на ўзроўні пачуццяў, а далей ужо сягаць «чыстай, незаплямленай» думкаю — звычайны касмапалітызм. Узнікае пытанне: ці можа быць касмапалітызм духоўным? У дакладных навуках — магчыма. Але не ў літаратуры. У такім выпадку куды ж нас кліча аўтар артыкула?

Свае тэарэтычныя меркаванні М. Шэляговіч падмацоўвае разглядам творчасці А. Разанава (гл. «Знамя юности» за 13 сакавіка 1987 г.). Ён падзяляе творчасць паэта на два перыяды. Першы — калі А. Разанаў быў «паэтам нацыянальнага светаадчування». Гэты «недахоп» апраўдваецца тым, што паэт з «дзяцінства чуў беларускую мову». Але потым, калі А. Разанаў вывучыў некалькі іншых моў, «лесвіца эвалюцыі свядомасці» ўзняла яго да такой ступені, што «зараз аб А. Разанаве можна казаць толькі так: паэт, які піша па-беларуску, а не беларускі паэт. Яго паэзія, яго творчасць значна вышэй нацыянальнага ўзроўню». М. Шэляговіч свята перакананы ў тым, што «а хіба можа быць інакш, духоўнасць, мудрасць нават нямыслімы як нешта чыста «нацыянальнае». Катэгарычна, але бяздоказна. Па Шэляговічу атрымліваецца, што нацыянальны пісьменнік той, хто праз сказ ужывае словы «Беларусь», «народ». А можа, той, у каго народны светапогляд? Дастаткова згадаць філасофскія доследы А. Разанава ў вершах — высвятленне нацыянальнай сутнасці, здавалася б, агульнаславянскіх слоў «хлеб», «гліна», «камень», каб паставіць пад сумненне тую касмапалітычную схему, куды хоча ўціснуць творчасць паэта М. Шэляговіч.

Вырашэнне «нявырашаных пытанняў» нашай літаратуры бачыцца нам толькі ў комплексе з такімі пытаннямі, як — аб'ектыўная ацэнка культурнага, гістарычнага, літаратурнага набытку, актыўнага выкарыстання яго ва ўсіх сферах нашага жыцця.

**Алесь БЯЛЯЦКІ,**
**аспірант Інстытута літаратуры АН БССР.**

# ЮБІЛЕЙНЫ СЕАНС

У маскоўскім кінатэатры «Піянер» адбыўся ўрачысты сеанс, прысвечаны 25-годдзю кінафільма «Вуліца малодшага сына».

Карціна, якая пастаўлена на кінастудыі «Беларусьфільм» творчай групай рэжысёра Л. *Голуба па сцэнарыі Л. Касіля* і М. Паляноўскага і расказвае пра подзвіг піянера Валодзі Дубініна ў гады Вялікай Айчыннай вайны, была прынята прысутнымі ў зале юнымі гледачамі *таксама цёпла*, як і іх бацькамі ў дні прэм'еры чвэрць стагоддзя назад.

**А. КНАЦЬКО.**

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

# Праблемы розныя— мэты агульныя

**Утворана Музычнае таварыства Беларускай ССР**

Не толькі музыканты цікавіліся: ці апраўдае сябе яшчэ адна грамадская арганізацыя? каго аб'яднае гэты добраахвотны саюз і чым ён будзе займацца — задачы, мэты?... Пытанняў не паменшала і тады, калі мы надрукавалі праект статута будучага таварыства («ЛіМ» за 15 мая г. г.), і нават пасля 5 чэрвеня, калі дэлегаты ўстаноўчай канферэнцыі МТ БССР абралі яго кіруючыя органы. Яно і не дзіўна: усё новае і нязведанае заўсёды выклікае пытанні.

**Паўтараць ужо вядомыя радкі статута, думаю, зараз не варта. Тым больш, што гаворка, якую вялі ўдзельнікі канферэнцыі, базавалася на яго асноўных палажэннях. (Канферэнцыя праходзіла ў Доме літаратара, у зале прысутнічалі каля 400 дэлегатаў ад музычных устаноў, творчых саюзаў, а таксама госці). З тых агульных мэт і задач супольнасці прафесійных музыкантаў, работнікаў культуры, аматараў музыкі, што акрэслены ў статуце, вынікалі канкрэтныя меркаванні і прапановы, пазначаныя ў дакладзе. Тэма гэтага даклада, зробленага старшынёй праўлення Саюза кампазітараў БССР І. Лучанком, — «Аб задачах МТ БССР у святле рашэнняў XXVII з'езда КПСС».**

Час абнаўлення адкрывае шырокія магчымасці для таго, каб выявіць здольнасці людзей, зрабіць наша жыццё духоўна багатым, шматгранным. Сёння асабліва відавочна, што прагрэс у эканоміцы неадлучны ад прагрэсу ў духоўным жыцці народа, ад уздыму культуры, яе развіцця і распаўсюджвання. Летась у Маскве было ўтворана Усесаюзнае музычнае таварыства, якое мае на мэце каардынаваць наша шматстайнае музычнае жыццё, паляпшаць прапаганду музычнага мастацтва, усебакова садзейнічаць узбагачэнню духоўнага свету братніх народаў. Дакладчык зазначыў набыткі ў розных сферах беларускай музычнай культуры як неад'емнай часткі шматнацыянальнай савецкай культуры, назваў нямала імёнаў кампазітараў і салістаў, вядомыя выканаўчыя калектывы.

**Аднак інфармацыя пра дасягненні кампазітараў і выканаўцаў гучыць больш трывожна, чым радасна — на фоне паўсюднай і далёка не новай праблемы: страта слухача. Вось і прамоўца вылучыў гэту праблему як актуальную. Нагадаўшы формы прапаганды музычнага мастацтва і прыцягнення слухацкай аўдыторыі ў канцэртныя залы (у тым ліку традыцыйныя фестывалі «Беларуская музычная восень», «Мінская вясна», «Гомельская вясна»), ён вызначыў стан музычнай прапаганды ў рэспубліцы ўвогуле як нездавальняючы. За апошнія гады, гаварыў І. Лучанок, мы практычна страцілі большую частку маладзёжнай аўдыторыі. У выніку няправільнага падыходу да эстэтычнага выхавання мы не навучылі пакаленне, што ідзе нам на змену, уласнаму, абгрунтаванаму ведамі стаўленню да з'яў культуры, да духоўных каштоўнасцей, не далі навыкаў адрозніваць сапраўды вартае ўвагі і захаплення ад павярхоўна-безаблічнага, недаўгавечнага.**

**Трывожныя пытанні нашай музычнай рэальнасці ўзнікаюць па многіх прычынах. Тут і заштампаванасць канцэртных праграм, здатных выклікаць толькі прыкры сум, і кепскі стан музычных інструментаў (нават у сталіцы рэспублікі), і маруднае абнаўленне форм работы са слухачом, асабліва — пасіўнасць у адносінах да моладзі...**

**А хіба адсутнасць планамернай, прадуманай музычна-асветніцкай работы — не адна з галоўных прычын нізкага ўзроўню музычнай культуры? Дакладчык прывёў такі факт. У 1918 годзе ў Смольны прыйшла дэлегацыя рабочых-пуцілаўцаў з просьбай стварыць мастацкую студыю для дзяцей. Ініцыятыву горача падтрымаў Ленін: гаворка ж ішла пра будучыя пакаленні адукаваных, культурных людзей! Сёння асабліва востра паўстала гэтае пытанне: нашы дзеці павінны быць культурнымі людзьмі. Іграць на музычных інстументах, гожа танцаваць, маляваць, пісаць вершы. Асновы мастацтваў павінны стаць важнай часткай школьнай праграмы.**

**Дарэчы, пад час з'езда настаўнікаў Беларусі гаварылася пра нізкі ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі выпускнікоў культасветвучылішчаў, пра адсутнасць кваліфікаванага мастацкага кіраўніка ў школе. Чаму — прагучала ў дакладзе І. Лучанка пытанне — выпускнікі розных ВНУ ідуць працаваць у школы, а выхаванцы нашай кансерваторыі — не? Плён працы спецыялістаў па эстэтычным выхаванні вызначыў бы музычныя густы цэлага пакалення!**

Складанасць выхаваўча-прапагандысцкіх задач вымагае зладжаных, супольных рашэнняў многіх ведамстваў і арганізацый. Невыпадкова распрацавана праграма сумеснай дзейнасці Міністэрства культуры, Дзяржтэлерадыё і Саюза кампазітараў БССР па паляпшэнні прапаганды дасягненняў кампазітараў, выканаўцаў. Ды, на жаль, у фарміраванні музычных густаў фактычна не ўдзельнічае штодзённы друк, асабліва маладзёжныя газеты. А наяўнасць аналітычных, крытычных, няхай нават спрэчных публікацый спрыяла б, на думку дакладчыка, не толькі фарміраванню густаў слухача, але і далейшаму развіццю беларускай музыкі. І яшчэ: прыкметная схільнасць моладзі да чыста пацяшальных жанраў узнікла на фоне амаль бездапаможнасці музычнай крытыкі, адсутнасці сацыялагічнага і прафесійнага тэарэтычнага асэнсавання працэсаў развіцця музычнага асяроддзя, абгрунтаванай і пераканальнай крытыкі сучасных апалагетаў буржуазнай масавай культуры.

●

У публікацыях «ЛіМа» нярэдкія спасылкі на вядомую пастанову ЦК КПСС і СМ СССР «Аб мерах па далейшым паляпшэнні канцэртнай дзейнасці ў краіне і ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы канцэртных арганізацый». Пастанова скіроўвае ўвагу на паляпшэнне музычна-эстэтычнага абслугоўвання насельніцтва, на пераадоленне шматгадовага застою ў развіцці сеткі канцэртных арганізацый і мастацкіх калектываў. Дакладчык паведаміў, што робіцца ў рэспубліцы ў адпаведнасці з гэтым важным дакументам (адкрыты філармоніі ў Брэсце, Гродне, створаны Дзяржаўны эстрадны аркестр, напярэдадні адкрыццё Віцебскай і Магілёўскай абласных філармоній, Дзяржаўнага духавога аркестра, Камернага хору).

Зарука развіцця канцэртнай справы, музычнай культуры ў цэлым — моцная матэрыяльна-тэхнічная база. Ды лічбы, прыведзеныя ў дакладзе, не радуюць. Беларускія канцэртныя арганізацыі даюць у 2-3 разы больш канцэртаў, чым філармоніі Грузіі, Азербайджана, Арменіі, Літвы, Малдавіі (паасобку). Прытым датацыя канцэртных калектываў Беларусі значна меншая, чым у Малдавіі, у Літве, амаль удвая меншая, чым у Грузіі. Толькі 25 працэнтаў клубаў у нас маюць фартэпіяна, якія, у асноўным, вымагаюць рамонту, дагляду. А ў Літве 90 працэнтаў, у Латвіі — 83, у Эстоніі 94 працэнты клубаў маюць раялі і піяніна.

**У нашу рэспубліку на працягу некалькіх гадоў не паступае шэраг ударных інструментаў, менш чым на трэць задавальняюцца патрэбы ў духавых інструментах, у гукаўзмацняльнай і святлотэхнічнай апаратуры. Праблема добрага інструментарыя ёсць нават у Сімфанічным аркестры Дзяржтэлерадыё. А гэты ж калектыў пад кіраўніцтвам Б. Райскага, самаадданага прапагандыста і творчага паплечніка нашых кампазітараў,— падкрэсліў прамоўца, — перайграў і запісаў у фонд радыё літаральна ўсю беларускую музыку!**

**Дасюль няма ў Беларусі майстэрні народных музычных інструментаў. Іх вырабам прафесійна займаецца энтузіяст сваёй справы, майстар-рэстаўратар У. Пузыня ды яшчэ некалькі ўмельцаў-саматужнікаў. Трэба пашыраць і вытворчасць сцэнічных касцюмаў для народных выканаўцаў і для артыстаў эстрады.**

І. Лучанок закрануў набалелыя праблемы эстрады (гаворка пра іх была нядаўна ў «ЛіМе» — гл. артыкул У. Рылаткі ў нумары за 22 мая г. г.). Тут трэба паклапаціцца пра прыток свежых сіл, пра павышэнне якасці і выканаўчага майстэрства, і рэпертуару. І хіба можна заплюшчваць вочы на тое, што тэхнічны прагрэс крочыць наперад, а мы безнадзейна адстаём? Прафесійнай эстрадзе патрэбна высакакласная апаратура, якая ёсць сёння толькі ў камісійных магазінах. Калі адпаведныя інстанцыі рэспублікі, падкрэсліў І. Лучанок, улічаць наша тэхнічнае адставанне ад музыкантаў сусветнага і ўсесаюзнага ўзроўню, яны могуць прыняць рашэнне — забяспечваць беларускую савецкую эстраду належнай апаратурай праз камісійныя магазіны. Той апаратурай, якая сёння трапляе ў прыватнае карыстанне. Такое рашэнне будзе прынцыповай, вельмі важнай справай.

Між іншым, заўважыў І. Лучанок, не хацелася б, каб матэрыяльныя цяжкасці зведала само Музычнае таварыства: на сённяшні дзень для яго нават не вызначана памяшканне.

●

Вялікая роля ў фарміраванні эстэтычных густаў і духоўных запатрабаванняў народа належыць вакальнай, харавой, інструментальнай музыцы, харэаграфіі, што атрымалі сталую прапіску ў гарадскіх і вясковых клубах. У розныя гады артысты-аматары дастойна прадстаўлялі духоўныя набыткі беларускага народа на ўсесаюзных дэкадах і фестывалях, за мяжой. Багаты абсяг сёлетняга Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Нядаўнія рэспубліканскія святы — духавой музыкі ў Мінску і народнай музыкі «Звіняць цымбалы» ў Віцебску — паказалі плённую творчую еднасць самадзейных і прафесійных выканаўцаў.

Ды за поспехамі, гаварыў І. Лучанок, нельга не бачыць наяўных праблем. У сувязі з міграцыяй вяскоўцаў у гарады памяншаецца колькасць сельскіх музычна-харэаграфічных калектываў. Стрымлівае рост духавых і народных аркестраў недастатковае іх забеспячэнне камплектамі інструментаў. Вострая праблема рэпертуару самадзейных калектываў, асабліва фальклорных музычных, харэаграфічных, дзіцячых, маладзёжных, вакальна-інструментальных. Самадзейным выканаўцам неабходны клопат з боку дзеячаў прафесійнага мастацтва. Неабходна шырока распаўсюдзіць традыцыі шэфства, творчага ўзаемаўзбагачэння. (Так, напрыклад, сёння Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР імя Г. Цітовіча і народны хор калгаса «Рассвет» Кіраўскага раёна практыкуюць творчыя сустрэчы, супольныя канцэртныя выступленні, абмен рэпертуарам; група кампазітараў праводзіць прафесійныя кансультацыі і асветніцкую работу ў абласцях рэспублікі).

**Самадзейныя калектывы працуюць пераважна ў клубах, дамах, палацах культуры. Аднак, зазначыў дакладчык, клуб як асяродак культуры і адпачынку не мае сёння належнага аўтарытэту ў насельніцтва, асабліва ў моладзі. Сацыёлагі ўстанавілі, што большая частка ўсіх маладзёжных сустрэч адбываецца ў хатніх умовах ці на вуліцы, толькі 15-20 працэнтаў—ва ўстановах культуры, 5 працэнтаў вольнага часу моладзь праводзіць у клубах.**

**Сённяшняя моладзь не тая, якой была ў 40-я, нават у 60-я гады, а формы і метады работы з ёю засталіся пераважна старыя, іх змест адстае ад узроўню свядомасці і адукаванасці маладых. З'явіліся, напрыклад, новыя плыні ў музыцы, у танцы, а мы — не гатовыя, каб разабрацца, узначаліць і правільна скіраваць гэтыя захапленні. Аматары «рока», брэйка, суперданса прадастаўлены самім сабе. Можа, выказаў спадзяванне дакладчык, паклапоціцца пра іх Музычнае таварыства.**

Адна з асноўных яго задач — каардынацыя намаганняў прафесіяналаў і аматараў на агульнай ніве прапаганды музычнага мастацтва і эстэтычнага выхавання, асабліва падрастаючага пакалення. МТ БССР павінна не толькі аб'яднаць прадстаўнікоў розных прафесій, але стаць саюзам людзей рознага ўзросту — гэта, падкрэслена ў дакладзе,— вельмі важна ў сацыяльным плане. Ні ў якім разе не павінна таварыства замыкацца ў нейкія пэўныя жанравыя рамкі. Тут неабходны саюз усіх відаў і жанраў музычнага і харэаграфічнага мастацтва.

●

З трыбуны канферэнцыі прагучала нямала агульных і... даволі стракатых выказванняў. Відаць, некаторыя набалелыя пытанні варта вырашаць усё ж у рабочым парадку, а не абмяркоўваць на першым сходзе толькі-толькі арганізаванага таварыства. На фоне вялікага «веча» нават важнае падаецца нярэдка прыватнымі дэталямі жыцця таго ці іншага калектыву, установы...

Каб не займаць увагу чытача надоўга, дадамо яшчэ колькі заключных радкоў.

Пра неабходнасць удасканалення працэсу музычнай адукацыі гаварыў рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі М. Казінец. Ён прапанаваў больш дакладна акрэсліць статус ДМШ з улікам задач падрыхтоўкі будучых спецыялістаў, асновы ж музычнай адукацыі даваць у сярэдніх школах, дзе вывучэнне нот было б асновай пісьменнасці — як вывучэнне літар і лічбаў. І ці не адкрыць у БДК музычна-педагагічны факультэт (замест такога факультэта ў Мінскім педінстытуце), які рыхтаваў бы высокакваліфікаваных настаўнікаў музыкі і спеваў для агульнаадукацыйных школ?

**Загадчык сектара музыкі ІМЭФ АН БССР Г. Куляшова спынілася на праблемах выхавання аматараў оперы. Прафесар БДК В. Пархоменка заклікала шукаць і выхоўваць добрых адміністратараў — тактоўных і дасведчаных, адданых музыцы «праваднікоў» паміж артыстам і слухачом (пакуль жа арганізатары канцэртаў дбаюць адно толькі пра рэалізацыю білетаў, іх не турбуе наяўнасць публікі ў зале і настрой артыста). Пра непаразуменні, якія ўзнікаюць у сувязі з адсутнасцю бюро прапаганды маладзёжнай музыкі, ад негатоўнасці кваліфікавана пракаменціраваць новыя музычныя з'явы,— гаварыў дырэктар Палаца культуры МАЗа М. Капшай.**

**Мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР М. Дрынеўскі падкрэсліў, што МТ БССР павінна ўнесці ўклад у развіццё вакальна-харавой і харэаграфічнай культуры, засяродзіцца на вырашэнні праблем самадзейнасці, аўтэнтычнага мастацтва і прафесійнай музыкі. А выхаванне музыкай трэба пачынаць з самых маленькіх, і займацца з імі павінны добрыя спецыялісты.**

У дыскусіі ўдзельнічаў таксама галоўны дырыжор ДАВТа БССР Г. Праватораў.

Свае спадзяванні, звязаныя са стварэннем МТ, выказалі дырэктар Крупіцкага сельскага клуба, кіраўнік ансамбля «Крупіцкія музыкі» У. Гром, дырэктар гомельскай МШ № 1 У. Курылін, самадзейны кампазітар з Гродна А. Шыдлоўскі, мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ю. Гільдзюк, загадчык аддзела культуры ЦК ЛКСМБ М. Масюкоў. Госць канферэнцыі, намеснік старшыні Цэнтральнага праўлення музычнага таварыства В. Маісееў расказаў пра зробленае Усесаюзным МТ за год яго працы.

●

Ці не атрымаецца так: «рокеры», харавікі-народнікі, танцавальныя ансамблі, сімфаністы, музыканты-імправізатары застануцца кожны пры сваіх інтарэсах? А слухачы — пры сваіх? Ці не стане таварыства бюракратычнай прыступкай паміж творцам, выканаўцам і слухачом?

Сапраўды, праблемы ва ўсіх розныя. Мэты ж — агульныя: аднавіць кантакты паміж кампазітарам, выканаўцам, слухачом; стварыць атмасферу зацікаўленага абмеркавання і вырашэння праблем нашай музычнай культуры. Садзейнічаць больш поўнаму і глыбокаму засваенню духоўнай культуры, фарміраванню гарманічна развітой асобы, патрыятычнаму, інтэрнацыянальнаму, маральнаму, эстэтычнаму выхаванню нашых людзей, арганізацыі іх вольнага часу. Садзейнічаць развіццю музычнага мастацтва, яго прапагандзе, далучэнню шырокіх мас аматараў музыкі за справы ўздыму савецкай музычнай культуры. Такія маштабныя мэты ў новага таварыства.

Ну а лёс яго, зразумела, залежыць ад нефармальнага, жывога і дружнага падыходу да справы.

**Справаздачу падрыхтавала**
**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

# ДЗІЎНЫЯ ЛЮДЗІ ПАЭТЫ

Алесь Асіпенка

ПАГЛЯДЗЕЎ па тэлевізары перадачу пра Еўдакію Лось, паслухаў яе вершы ў выкананні непаўторнай Марыі Захарэвіч, а назаўтра званок ад паэткавай сястры Марыі Якаўлеўны і пытанне: ці напісаў дакляраваныя некалі ўспаміны?

Не, не напісаў...

Спачатку не мог! Проста не мог! Было такое адчуванне, што і хвароба яе, і смерць, і пахаванне, і жалобны стол — усё кашмарны сон, а яна, жывая і вечна непаседлівая паэтэса, недзе затрымалася ў камандзіроўцы. Потым, калі думка сцярпелася з незваротнасцю страты, а ў памяці, як рапідныя здымкі, запаволена сталі ўзнікаць нейкія эпізоды мімалётных, а часцей выпадковых сустрэч з паэтэсай, я раптам захварэў, надоўга злёг, а яшчэ надаўжэй, як кажуць, выйшаў са строю. І вось цяпер, калі слухаў успаміны пра паэтэсу знакамітых людзей, падумаў, што кніга пра Еўдакію Лось няйначай здадзена ў друк і, можа, мне ці варта ўжо ў адзінокай адлучанасці прыгадваць напэўна ж не самае важнае і значнае.

Аж не! Яшчэ ёсць магчымасць далучыць сваю лепту ў скарбонку памяці аб выдатнай паэтэсе, якая ў самым росквіце творчых сіл, з такой трагічнай заўчаснасцю пакінула зямное жыццё, што так любіла і шанавала.

Божа літасцівы, як нястрымна бяжыць час! Пэўна, таму, што ён касмічны і хуткасці ў ім таксама касмічныя.

А, здаецца, зусім нядаўна, на вялікае і радаснае наша свята — дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў,—якое прыходзіцца на цудоўную пару года, самы пік лета, трэцяга ліпеня, Еўдакія Якаўлеўна запрасіла да сябе Тамару Фёдараўну Залатухіну, шаноўную супрацоўніцу шаноўнай «Литературной газеты», добрага і шчырага сябра нашай беларускай літаратуры, і мяне.

Усе трое мы сустрэліся зусім выпадкова. Якраз прайшоў палетняму цёплы дождж. Упрыгожаныя чыстыя вуліцы аж ззялі ад шчодрага сонца, мокрага асфальту і кветак. А яшчэ ад шчаслівых, радасных усмешак людзей. Перамовіўшыся колькімі словамі, таксама святочнымі і ўзнёслымі, мы неяк дружна замоўклі, тады Еўдакія Якаўлеўна раптам і прапанавала:

— Давайце паглядзім горад... Гэта ж такое хараство!..

Я знайшоў нейкую машыну, схлусіўшы шафёру, што хачу паказаць нашым дзвюм госцям святочны Мінск. Толькі гэтым і купіў яго. Шафёр аказаўся мінчанінам-мінчуком, як сказаў ён,— да таго ж чалавекам з душой паэта. Ён старанна павазіў нас па мінскіх вуліцах, па праспекце, давёз аж да мікраёна. Можа, завёз бы і яшчэ куды, ды Еўдакія Якаўлеўна раптам выдала мяне з галавой, сказаўшы:

— А цяпер да мяне, на Берасцянскую...

Па шафёравым позірку я заўважыў, што ён у думках абазваў мяне манюкай. Давялося тлумачыць, што схлусіў я напалову — адна госця ўсё-такі была з Масквы. Гэтым і заслужыў адпушчэнне грахоў.

Сын Еўдакіі Якаўлеўны Дзіма тады быў зусім дзіця. Памятаю, ён усё наравіў выбягаць на вуліцу не праз дзверы, а праз балкон. Еўдакія Якаўлеўна сварылася, а калі ён выбягаў, весела смяялася:

— Праз балкон больш рамантыкі...

Цяпер Дзіма ўжо нават не юнак — мужчына...

Гэта адносна часу — «быстро бегущих дней».

А тады мы да позняга вечара заседзеліся за бутэлькай сухога віна, якую Еўдакія Якаўлеўна прывезла аднекуль ці то з Каўказа, ці то з Крыма. Вядома ж, гаварылі пра літаратуру, але найбольш у тым застольна-святочным тоне, калі не хочацца варушыць пякучыя, сур'ёзныя праблемы. Было весела, хораша, а галоўнае, неяк бесклапотна-радасна.

Ды раптам Еўдакія Якаўлеўна нечага замаркоцілася, адлучылася ад бяседы і, ужо зусім неспадзявана, сказала:

— Вы тут пасядзіце... Я зараз,— і выйшла.

Ці мала ў гаспадыні спраў, калі ў доме госці. Мы не звярнулі на гэта ніякай увагі, прадаўжалі абмяркоўваць і сённяшняе свята, і нядаўняе ўрачыстае пасяджэнне. Але хвілін праз дзесяць спахапіліся: а дзе ж гаспадыня? Пайшла і няма...

Я адправіўся на пошукі. Зразумела, на кухню. Дзе ж яшчэ шукаць гаспадыню?..

На кухні яе не было. Што за дзіва?! Я зазірнуў у залу. Яна сядзела, прыгнуўшыся да каленяў, закрыўшы твар рукамі, і ціха, няўцешна рыдала.

Прызнацца, я збянтэжыўся і спалохаўся. Хацеў паклікаць Залатухіну. Еўдакія Якаўлеўна спыніла мяне. Яна адняла рукі ад твару. Ён быў мокры ад слёз.

— Не трэба псаваць Тамары святочны настрой, — сказала яна. — Я зараз вярнуся...

Да Залатухінай я вярнуўся крыху разгублены. Яна, мусіць, заўважыла гэта, насцярожана спытала:

— А дзе Дуся?..

— Зараз будзе...

Яшчэ хвіліны праз тры прыйшла і яна. На твары ўжо не было слядоў слёз.

Яна наліла бакалы, прапанавала выпіць за тых, хто не вярнуўся з вайны, крывёю сваёй акрапіўшы і нашу перамогу, і нашу магчымасць шчасліва жыць на зямлі.

Потым ужо, тужліва памаўчаўшы, нагадала нам старадаўні, можа, з язычаскіх часоў абрад: на вялікія святы жанчыны ранічкай адпраўляліся на могілкі, каб пагаласіць над прахам родных і блізкіх. Быў у гэтым глыбокі сэнс: у дні ўсеагульнай весялосці і радасці памяццю сваёй звяртацца да продкаў — шчаслівы, не забывай, хто дараваў табе жыццё і права на шчасце!

Яна не забывалася. Яе паэзія прасякнута вось гэтай балючай памяццю пра тых, хто з «крывавых не вярнуліся палёў». Жаночай, да скону дзён памяццю...

У яе быў упарты, незгаворлівы характар. І пры гэтым чуллівае сэрца. Сваёй гэтай чуллівасці яна ці то саромелася, ці то не хацела яе паказваць людзям. Можа, падабалася выглядаць яршыстай. Своеасаблівая абарона пры жаночай безабароннасці. Але дзе ты схаваеш яе, гэтую жаночую чуллівасць?..

Неяк у доме творчасці «Каралішчавічы» яна запрасіла да сябе ў пакой.

«Будзе чытаць вершы»,— падумалася мне. Настрою для гэтага не было. Можа, каму і выдумаў бы адгаворку. Ёй — не мог. З Еўдакіяй Якаўлеўнай мы заўсёды гаварылі шчыра, без дыпламатыі і хітрыкаў. Спрачаліся таксама...

Пісьмовы стол пры акне быў завалены паперамі. З-пад іх Еўдакія Якаўлеўна выцягнула канверт, падала мне.

Хто толькі не піша пісьменнікам, асабліва паэтам! І адкуль толькі не прыходзяць лісты! І чаго толькі не пішуць у іх!

Ліст, што падала мне Еўдакія Якаўлеўна, быў з нейкага лагера зняволення строгага рэжыму. Аўтар яго яўна валодаў эпісталярным стылем, крыху старамодным, перасыпаным жаргоннымі слоўцамі, але ўзвышаным і рамантычным. З ліста я зразумеў, што гэта было не першае пасланне «адтуль». Мусіць, і Еўдакія Якаўлеўна пасылала «туды» лісты. Тады чаму яна занепакоілася цяпер?

— Ці шчыры ён чалавек?— спыталася яна.

— Па-мойму, ён і сам не ведае гэтага.

Яна задумалася. Хвілін колькі мы сядзелі моўчкі.

— Ён вельмі адзінокі,— парушыла яна маўчанне.— У гэтым я не сумняваюся. Гэта шчыра...

— Ну, і што?..

— Трэба ведаць, адчуваць, як страшна быць адзінокім... Тады захочацца і паспагадаць...

Яна сказала гэта з такім болем, што аж зрабілася вусцішна. Так, бывае, гаворыць чалавек, які і сам зведаў адзіноту.

Што ж датычыць таго адрасата, дык у апошняй прыжыццёвай кніжцы паэтэсы ёсць такі верш:

**Пісьмо... А ў ім такія словы!**
**Ах, каб ля дому, дзе язмін,**
**раздолле і заход ружовы, —**
**сказаць бы ціха:**
**«Ты адзін...**
**Адзін у сэрцы ўсхваляваным,**
**табе—язміну белы цвет!..»**
**І нёс бы вечар закаханы**
**абодвух у дзівосны свет...**
**А тут — зусім другая доля:**
**і даль, і дрот перасцярог...**
**Мой друг, каханню трэба**
**воля —**
**чаму ж ты волю не ўбярог?!**

Дзіўныя людзі паэты! Во ўжо сапраўды: яны моўчкі марацъ, а ўвесь свет ведае іхнія мары...

Яна любіла волю і вольнасць нейкай непаседлівай, неразважлівай любоўю. Пагартайце яе зборнікі — колькі ў іх дарог, кароткіх і блізкіх, якіх ёй усё адно не хапала. Тады яна наракала на лёс, вінавaціла ўсіх агулам ад саюзаўскага начальства, якое не хацела ўключаць яе ў нейкія там вандроўныя брыгады, да сяброў-землякоў, якія не могуць падзейнічаць на тое начальства.

Неяк з Уладзімірам Корбанам мы доўга ўгаворвалі яе, пакрыўджаную тым, што нехта зноў не ўключыў яе ў нейкую творчую брыгаду. І не толькі ўгаворвалі, ушчувалі. Ну, што ты, маўляў, усё кідаешся, усё ў руху, у камандзіроўках, у паездках па белым свеце? Ці не час спыніцца, азірнуцца, спакойна паразважаць?

Яна нахмурана агрызалася, папікала: землякі называецца! Заміж таго, каб прыйсці на дапамогу, дык яшчэ ўдвох напалі на безабаронную жанчыну. Павучыцеся ў гомельскіх! Тыя адно аднаго не даюць у крыўду.

Слова за словам—і мы добра такі паспрачаліся, а кончылася наша спрэчка, як найчасцей і бывала: Еўдакія Якаўлеўна раптам весела зарагатала, ад нядаўняй нахмуранасці не засталося і следу.

— Ой, дзяды, смяхоцце з вамі. Вас, як тыя яловыя пні, не выкарчуеш з цёплай печкі. Заляглі на ёй ды пакрэктваюць ад задаволенасці. І мяне на тую печку клічуць. А я не магу! Мне, як той птушцы, прастора патрэбна. Інакш крылы аслабнуць...

З ёй не было магчымасці спрачацца. І злосці доўгай не ўмела трымаць. Паспрачаецца, а назаўтра сустрэне і добразычліва ўсміхаецца, быццам ніякай спрэчкі і не было.

Еўдакія Якаўлеўна належала да тых сумленных, адкрытых натур, якія не ўмеюць крывадушнічаць, гаварыць у вочы адно, а за вочы другое. У яе, як кажуць у народзе, што наўме, тое і на языку. Такой яна заставалася не толькі ў побыце, у адносінах з сябрамі і не сябрамі, але і ў творчасці, у паэзіі. Па яе вершах можна прасачыць ці не кожны пражыты ёю дзень, усе яе радасці, згрызоты, спадзяванні і расчараванні. Яна была здольна на такія прызнанні, на такую споведзь, на якія не адважыўся б паэт-мужчына. І ўсё гэта без позы, без старання ўразіць, а як нешта звычайнае, што шчыра, мімаволі вырвалася з душы.

Аднаго разу яна сказала:

— Няволя — гэта калі хлусіш, прытвараешся і пішаш ананімкі...

Сапраўды, вольны, незалежны чалавек ніколі не будзе хлусіць, прытварацца, пісаць ананімкі. Шкада, што некаторыя не хочуць гэта зразумець і застаюцца рабамі саміх сябе і абставін. А яшчэ больш шкада, што сярод такіх рабоў ёсць і паэты. А паэт мусіць быць вольны.

Еўдакія Якаўлеўна належала да вольных. Адсюль і шчырасць яе паэзіі.

За ўпарты характар я некалі жартам назваў яе княгіняй Рагнедай.

— Якая там Рагнеда,— адмахнулася яна, а, памаўчаўшы, гарэзліва дадала:— А што, княгіня Еўдакія, якая сама ўсё робіць.

Яна і праўда ўсё рабіла сама, а найперш пракладала свой, адметны ў паэзіі шлях, пазначаны і выдатным талентам і не менш выдатнай працаздольнасцю.

Магу прысягнуць, што паэтэс у нас менш за паэтаў не таму, што жанчыны не схільны да паэтычнага мыслення. Наадварот. Але паэзія — гэтая дужа капрызлівая асоба — патрабуе ад чалавека ўсіх яго духоўных і фізічных сіл. Колькі—і ўжо на маім вяку — маладзенькіх дзяўчат пачыналі сваю звонкую песню і замаўкалі: замужжа, дзеці, праца, сям'я, быт, клопаты і трывогі непрыкметна асушылі паэтычную крынічку.

У Еўдакіі Якаўлеўны хапіла і характару, і мужнасці, і таленту на тое, каб перамагчы быт, каб самую звычайную прозу жыцця пераплаўляць у высокую паэзію і пры тым не страціць жаноцкасці ў паэзіі... у жыцці таксама.

Прыгадваецца адзін пацешны выпадак.

У «Маладосці» ішла яе падборка вершаў. Звычайна, з другой карэктуры мы падпісвалі часопіс да друку, і таму ніякіх змен у гэтую другую карэктуру не дапускалася. Гэта быў закон.

Нумар быў падпісаны да друку, калі ў рэдакцыі паявілася Еўдакія Якаўлеўна і настойліва папрасіла, каб замянілі яе фотаздымак на другі, бо гэты ёй не падабаецца, бо на гэтым здымку яна не ў тым плацці, бо тут у яе непрыгожая прычоска...

Я спрабаваў растлумачыць, што замяніць фота зусім немагчыма, што гэта затрымае часопіс, парушыць графік, выкліча нараканні. Я прыводзіў самыя пераканальныя довады. Але што такое мужчынская логіка ў параўнанні з жаночай?..

— А мне гэта фота не падабаецца... Лепей здыміце падборку,— адказала яна.

Звярнуліся да Пімена Панчанкі. Я дык спадзяваўся, што ён падтрымае мяне. Усё ж інтарэсы справы!.. А ён, зірнуўшы на нас блакітнымі, як майскае неба, вачамі, раптам стаў на бок паэтэсы.

Карэктуру затрымалі.

— І дзеля чаго толькі,— абураўся я.

Пімен Емяльянавіч хітравата ўсміхаўся.

— Ды зразумей ты,—сказаў ён,— жанчына дзеля аднаго чалавека гатова праседзець цэлы дзень у цырульні, пайсці на самыя неверагодныя пакуты. А тут адразу трэба паказацца дзесяці тысячам падпісчыкаў. Дык мы рыцары ці не рыцары? Некалі адзін вельмі паважаны дзеяч кур'ерскі цягнік спыніў дзеля жанчыны, а ты пра графік...

Я быў пасаромлены.

І прыгадаў я гэты выпадак таму, што Еўдакія Лось была настойлівай і напорыстай не толькі ў вялікім, але ў малым, нават дробязным. Мусіць, гэтая рыса характару памагла ёй, маладзенькай, з ушацкай глухамані дзяўчыне, без належнай матэрыяльнай і маральнай падтрымкі ўпэўнена прыйсці да сваёй мэты, стаць слыннай паэтэсай нашага часу.

І тут прыгадваецца яшчэ адзін выпадак.

Пасля вайны адказным рэдактарам газеты «Чырвоная змена» працаваў Іван Аляксандравіч Матыль, пра якога яшчэ і зараз газетчыкі расказваюць легенды.

У першыя пасляваенныя гады газетчыкаў не хапала, і ў рэдакцыях заўсёды меліся вакансіі. Але і пры тым недахопе супрацоўнікаў Іван Аляксандравіч быў вельмі спасцярожлівы, калі браў каго на работу. Асабліва прыглядаўся ён да дзяўчат — выйдуць замуж, пойдуць дзеці, які ўжо з яе работнік,— і ўжо вельмі асцерагаўся паэтаў—будуць пісаць вершы, а артыкула ад іх не дачакаешся. Старыя газетчыкі з гэтага выпадку жартавалі: лепей вярблюду пралезці ў іголкавае вушка, чым маладой дзяўчыне або паэту трапіць на працу ў «Чырвоную змену».

Дык вось, аднаго разу па рэдакцыі пракацілася неверагодная чутка: Матыль бярэ на працу маладзенькую дзяўчынку ды яшчэ і паэтэсу.

Я пайшоў у рэдактарскі кабінет, каб на свае вочы пераканацца, што гэта сапраўды так. Справа ад увахода, на канапцы, сядзела бялявенькая, здалося, аж нейкая празрыстая дзяўчына ў светлай сукенцы, у беленькіх шкарпэтках і белых басаножках.

— Знаёмся,— буркнуў Матыль.

— Дуня,— назвалася дзяўчына.

Шчыра кажучы, я сумеўся. Матыль, калі і браў на працу дзяўчат, дык абавязкова баявых, задзірыстых, з характарам

і вострым языком. Такіх ён цаніў. Ціхенькіх, спакойненькіх не цярпеў. А Дуня, якая сядзела на канапе, выглядала шчуплай, ціхмянай, баязлівай.

Я і сказаў пра гэта Матылю, калі Дуня пайшла.

— Гэта толькі здаецца,— адказаў Матыль.— Яна баявая дзеўка. З яе толк будзе. Паглядзіш. У мяне нюх...

Нюх у Матыля сапраўды быў. І ўсё ж, прыгадваючы той дужа даўні выпадак, я ўпэўнена думаю: яна і тады валодала якойсьці прыцягальнай сілай і магутным зарадам энергіі і тым самым заваёўвала прыхільнасць да сябе людзей.

На прыканцы сакавіка семдзесят сёмага года яна зайшла да мяне з новай кнігай вершаў «Лірыка ліпеня». Прысеўшы да стала, размашыста напісала на тытульным лісце: «Алесю Асіпенку — на сяброўства шчырае і нязменнае» і тут жа паскардзілася, што ў кнізе дапушчана прыкрая памылка. Яе, такую патрабавальную нават у дробязях, памылка гэтая вельмі кранала, хоць іншы і не звярнуў бы на яе ўвагу. Я пастараўся адцягнуць яе ўвагу ад гэтай памылкі, загаварыў пра падтэкст, які чуваць у назве зборніка. Ліпень — пара спеласці, росквіту і красы. Яна ж адгукнулася на гэта вельмі своеасабліва: паскардзілася, што беларуская проза апошнім часам заглушыла паэзію. У дакладах, аглядных артыкулах і наогул у друку паэтаў разглядаюць чохам, а вось пра раманы, нават калі яны зусім слабыя, гавораць памногу і доўга.

— Пераходзь на прозу,— сказаў я.

Мне падабалася яе проза. У празаічных творах Еўдакіі Лось было нешта вельмі кранальнае, віцебскае, жаночае, сагрэтае пачуццём любві і да свайго краю, і да яго людзей. Таму пераходзіць на прозу я параіў абсалютна шчыра. А яна абурылася.

— Гэта — як здрада, — сказала яна.

— Далібог, зараз пасварымся,— адказаў я.

— І пасварымся,— пагадзілася яна,— калі ў «ЛіМе» не будзе сур'ёзных артыкулаў па паэзіі...

Тое, што я толькі шосты месяц працаваў галоўным рэдактарам штотыднёвіка, яна не хацела прымаць пад увагу. Ёй падавай усё і адразу. Яна заўсёды спяшалася. Быццам адчувала такі блізкі ўжо канец жыцця. Гэта здагадка — адгадка ў тым, што Еўдакія Лось жыла ў рытме нашага часу, як і належыць дачцэ свайго часу.

У сярэдзіне мая на Віцебшчыну паехала пісьменніцкая брыгада. Былі цікавыя сустрэчы, выступленні, застоліцы на майскім, яшчэ халаднаватым, але вельмі духмяным паветры. Вяртаючыся ў Мінск, мы паспрачаліся з ёю. Яшчэ дзён праз колькі я сустрэў яе на Омскім завулку, непадалёк ад Саюза пісьменнікаў.

Яна была як ніколі панурая. Я падумаў, што гэта з-за нашай спрэчкі. Аж стала брыдка, і я папрасіў прабачэння. Еўдакія Якаўлеўна неяк няўцямна паглядзела на мяне, быццам не магла зразумець, пра што я кажу?

— Баюся, што не абыдзецца без аперацыі,— раптам сказала яна.

Я не стаў распытваць — і без таго ёй было цяжка.

Трэцяе ліпеня ў той год прыходзілася на нядзелю. Канец чэрвеня і пачатак ліпеня быў дажджлівы. На свята таксама ішоў дождж. Я сядзеў дома. Недзе пасля адзінаццаці пазваніла Раіса Баравікова.

— Памерла Дуся, — сказала яна. — Пасля Цёткі памірае першая паэтэса... І якая паэтэса!..

Вось табе і лірыка ліпеня, якая стала жальбай і болем.

Паэтэса памерла ў самым росквіце творчых сіл, у самую прыгожую пару года — самы пік лета.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ

**Завершаны аб'яўлены Міністэрствам культуры БССР рэспубліканскі конкурс на лепшы эстрадны маналог, сольную і харавую песню, прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Журы разгледзела звыш 70 твораў і вызначыла лепшыя. Сярод удзельнікаў — кампазітары, паэты, члены Усесаюзнага аб'яднання эстрадных драматургаў, маладыя літаратары і журналісты.**

**Лепшымі сольнымі песнямі названы: «Край мой крынічны» (музыка В. Кандрасюка, вершы П. Ламана), «Ваенныя парады» (муз. У. Прохарава, вершы А. Лягчылава), «Кастрычніцкія маршы» (муз. Л. Захлеўнага, вершы М. Ясеня). Першую і трэцюю прэміі за песні для аднароднага і змешанага хораў вырашана не прысуджаць. Другая прэмія прысуджана песні Л. Захлеўнага і А. Вольскага «Аўрорай завецца зара».**

**Сярод літаратурных твораў першая прэмія за эстрадны маналог яркага публіцыстычнага гучання «Ліст да сына ад Маці-Зямлі» прысуджаны члену аб'яднання эстрадных драматургаў пры Белдзяржфілармоніі Л. Катранжы. Журналіст В. Найдзін за маналог «Не бярыце да галавы», які сацыяльна востра раскрывае маральныя праблемы выхавання падрастаючага пакалення, атрымаў другую прэмію, а трэцюю падзялілі два творы: маналог Я. Бароўскага і В. Бескаравайнага «Запрашаем на вяселле» і фельетон Г. Церахава «Хвалюючыя пытанні».**

**Творы-пераможцы конкурсу будуць уключаны ў рэпертуар мастацкіх калектываў, артыстаў эстрады і выконваўца ў канцэртах, прысвечаных знамянальнаму юбілею.**

**В. ДАПКЮНАС.**

### ЗА ПЕРАКЛАД ТВОРАЎ ПУШКІНА

**На пушкінскіх урачыстасцях у Міхайлаўскім сёлета ўпершыню ўручаны памятныя дыпломы і прэміі «За шчодрае і душэўнае прадстаўленне свайму народу творчасці расійскага генія Пушкіна Аляксандра Сяргеевіча». Старшыня праўлення Літаратурнага фонду СССР М. Гарбачоў шчыра павіншаваў пераможцаў гэтага творчага спаборніцтва Г. Врбову (ЧССР), А. Фодара (Венгрыя), Х. Ф. Санчаса (Іспанія), І. Ганчарэнку (Украіна).**

**Высокай узнагароды за перастварэнне твораў А. Пушкіна па-беларуску ўдастоены Рыгор Барадулін.**

### НА ПАРАДКУ ДНЯ—ДЭТЭКТЫЎ

**«Дэтэктыў — учора, сёння, заўтра» — так можна сфармуляваць тэму размовы на Усесаюзнай нарадзе па маральна-духоўных і прававых праблемах у мастацкай літаратуры, што адбылася ў Кішынёве. Яе арганізатары — МУС СССР і Саюз пісьменнікаў краіны. Больш за 200 літаратараў і работнікаў органаў унутраных спраў з усіх саюзных рэспублік сабраліся на гэтую сустрэчу. Нашу рэспубліку прадстаўлялі пісьменнікі А. Капусцін, К. Тарасаў і У. Шыцік, намеснік начальніка палітаддзела МУС БССР І. Чарнамазаў, супрацоўнік крымінальнага вышуку Р. Аўраменка, журналіст Г. Круглоў.**

**Г. ЯУГЕНЕНКА.**

### *ЗАПРАШАЕ БАЛГАРЫЯ*

**Ні з чым не параўнальная прыгажосць балгарскіх краявідаў, знакамітых мясцін братняй краіны, дзе так цесна суседнічаюць між сабой далёкае мінулае і дзень сённяшні. Ці не таму гэтак ахвотна едуць у сонечную краіну госці з усяго свету?! Штогод 9-мільённая Балгарыя прымае 7 мільёнаў турыстаў, сярод якіх — больш за чвэрць мільёна падарожнікаў з Савецкага Саюза.**

**Аб'яднанне «Балкантурыст» прапануе ім больш за 60 маршрутаў, у тым ліку горных і марскіх. Яны даюць магчымасць і культурна адпачыць, і пашырыць свой кругагляд.**

**У гэтыя ж дні мінчане маюць магчымасць зрабіць завочнае падарожжа па Балгарыі. Для гэтага варта толькі завітаць у кінатэатр «Масква», дзе разгорнута выстаўка «Балгарыя — краіна турызму, краіна сяброў».**

**Ю. ГУСЕЎ.**

### У ГАСЦЯХ ВА «УНУКАЎ»

**Адбылася творчая сустрэча студэнтаў аддзялення харэаграфіі і фальклорнага ансамбля танца «Унукі» Мінскага інстытута культуры з удзельнікамі аднаго са старэйшых самадзейных калектываў рэспублікі ансамбля песні і танца «Маладосць», нязменным кіраўніком якога на працягу трох дзесяцігоддзяў з'яўляецца заслужаны дзеяч культуры БССР І. Серыкаў.**

**Ансамблем «Маладосць» была паказана шырокая праграма песеннай і танцавальнай творчасці. Вялікую цікавасць у гледачоў выклікалі харэаграфічныя кампазіцыі «Кірмаш» і «Суседзі», беларускія народныя танцы «Крупчанская кадрыля», «Камары», «Лучыначкі», «Прабегліца». Не пакінулі раўнадушнымі гледачоў і беларускія народныя песні ў выкананні харавой групы.**

**Гледачоў падкупіла не толькі віртуознасць выканання тэхнічна складаных рухаў, а і незвычайная эмацыянальнасць у перадачы характару і настрою песень і танцаў, якія выконваліся. І ў гэтым немалая заслуга музычнай групы ансамбля «Маладосць», якая суправаджала ўсе выступленні спевакоў і танцораў. Уразіла віртуозная ігра баяністаў і ўменне многіх музыкантаў валодаць некалькімі інструментамі.**

**У адказ выступілі ўдзельнікі ансамбля «Унукі», паказаўшы танец «Малаточкі», створаны на фальклорным матэрыяле і пастаўлены студэнткай Н. Русакевіч.**

**В. ЛЫСЯНКОВА,**
**В. ШАПАВАЛАВА,**
**выкладчыкі кафедры харэаграфіі.**

### У АБ'ЕКТЫВЕ—ПОЛЬШЧА

**Саюз журналістаў БССР, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і Генеральнае консульства ПНР у Мінску арганізавалі ў мінскіх кінатэатрах «Масква» і «Вільнюс» выстаўкі дакументальнай і мастацкай фатаграфіі аўтараў з Польскай Народнай Рэспублікі. У дзвюх экспазіцыях прадстаўлена больш чым 300 работ, якія знаёмяць мінчан і гасцей сталіцы рэспублікі са шматгранным жыццём братняга народа, расказваюць аб працы, адпачынку палякаў.**

## ПРАЎДА ГІСТОРЫІ І ГІСТОРЫЯ ПРАЎДЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).**

напісана, пра каго нават малодшакласнікі амаль усё ведаюць, чыталі недзе раней (серыя выдаецца чамусьці ў разліку на малодшакласнікаў). Чытач жа, як юны, так і дарослы, прагне адкрыцця. Кніга вабіць яго перш-наперш невядомым, неадкрытым. Палітвыдатаўская серыя «Пламенные революционеры» таму ў вялікай ступені і заваявала аўтарытэт, што пры падрыхтоўцы яе гэта ўлічваецца — прынамсі, у большасці дакументальных раманаў і аповесцей.

### 3.

Не пабаімся праўды і прызнаемся: літаратура наша належным чынам не паказала яшчэ таго, што адбывалася ў Беларусі і **вакол** Беларусі (у палітычным сэнсе слова) у семнаццатым, васемнаццатым, дзевятнаццатым гадах. У гістарычнай паўнаце, драматычнасці, супярэчлівасці лёсавызначальных для народа падзей. Атмасферай, канфліктамі таго часу навеяна процьма апавяданняў — у іх ліку выдатных, слушна занесеных сёння ў разрад класічных. Навеяны аповесці, якімі проза наша паспяхова заваёўвала шырокага чытача. З іх вырасла нямала рознага ўзроўню п'ес — напісаных, як правіла, да святочных дат. Але разгорнутага палатна, у якім вышыня выяўленчых якасцей спалучалася б са шматпланавасцю паказанага, з апорай на скрупулёзна даследаваныя архіўныя сведчанні, з аб'ектыўным падыходам да ўсяго, што мела месца ў сапраўднасці, — такога палатна мы не маем. Былі, вядома, аўтары, што на эпапейнае адпаведнага зместу наважваліся. Крытыка потым круцілася ў шуканні ракурсу, каб і падхваліць іх, і ўсё ж не надта пакрывіць душой перад сумленнем. Толькі чытач, «сапсаваны» «Ціхім Донам» і «Блуканнямі па пакутах», бляклых тых эпапей не прыняў.

Зразумела, перадусім тут прычына, што не знайшлося ў нас сваіх Шолахава ці Аляксея Талстога — паводле маштабу таленту, паводле глыбіні валодання тэмай. Але прычына і тая, што твору, аб адсутнасці якога даводзіцца шкадаваць, цяжка было б з'явіцца ва ўмовах, калі многае трэба было замоўчваць і абыходзіць, падаваць не такім, якім яно ўваходзіла ў гісторыю напраўду. Калі не дазвалялася, скажам, успамінаць слаўных герояў рэвалюцыйнага летапісу, якія пазней сталі ахвярамі паклёпу.

Апроч таго, што пісьменнік, які матэрыялам з названых гадоў загараўся, пры звароце да архіўных крыніц мог патрапіць у сітуацыю, скажам мякка, далікатную, дакладней, двухсэнсоўную, — дык не ўсюды архівісты на яго жаданне і адгукнуліся б, пайшлі яму насустрач. Цяпер нездарма такія частыя нараканні на абмежаванасць доступу да архіўных сховішчаў. Не забуду вінаваты твар дырэктара аднаго з маскоўскіх архіваў, калі ён не меў права самастойна вырашыць, дазваляць ці не дазваляць нашай кінагрупе здымаць падабраныя для фільма дакументы — абавязаны быў накіраваць іх пералік у глаўк.

— Лічымся ўстановай і навукова-даследчай, а толькі і робім, што ставім даследчыкам рагаткі: гэтага нельга, таго нельга, — сарвалася ў яго.

Вось і не дзіўна, што творам нашай прозы, у гісторыка-рэвалюцыйнай яе дзялянцы, адчувальна нестае, дазволю сабе так сказаць, архіўнай аснашчанасці. Маю на ўвазе не цытаванне дакументаў, не спасылкі з пазначэннем шыфраў крыніцы — гаворка не пра навуковыя публікацыі. Маю на ўвазе агульную насычанасць твора часам няўлоўнымі прыкметамі дасведчанасці аўтара ў перыядзе, які паказвае, — у яго фарбах, пахах, псіхалогіі, нюансах. Той дасведчанасці, якая ў рускай гісторыка-рэвалюцыйнай белетрыстыцы нашых дзён зрабіла такімі папулярнымі, напрыклад, кнігі Ю. Давыдава. Там у нас, дзе заглыбляемся ў мінулае далей, — у багацці створанага У. Караткевічам, у аповесці В. Хомчанкі пра Багушэвіча, у напісаным А. Мальдзісам, Э. Ялугіным, К. Тарасавым, — беларускія аўтары ў гэтых адносінах, што называецца, на вышыні. Там жа, дзе спрабуем і прапануем чытачу дыхнуць навальнічным паветрам пярэдадня рэвалюцыі ці дзён саміх рэвалюцыйных падзей, — там пад зробленай спробай надзейнага грунту часта не хапае.

Не робіць нам гонару, што ў багатым на цікавейшыя эпізоды рэвалюцыйным мінулым краі для беларускай літаратуры, для іншых мастацтваў — і дагэтуль шматлікія белыя плямы. Складана асвойваць матэрыял пра нелегальнае выданне ў Мінску часопіса «Черный передел» — часопіса, які чытаў Маркс, — ды ці па-гаспадарску зноў-такі, ці патрыятычна нават, што ні мастацкага, ні публіцыстычна-пазнавальнага пра гэта ў нас нічога няма? Што толькі ў самыя апошнія гады пачалі падступацца мы да тэмы Першага з'езда РСДРП?

Выступаючы нядаўна на нарадзе ў Дзяржтэлерадыё СССР, Я. К. Лігачоў гаварыў і аб неабходнасці «...не падганяць гісторыю пад якую-небудзь канцэпцыю, не прыгладжваць яе, не наводзіць хрэстаматыйны глянец. Яна, гісторыя нашай рэвалюцыі, не мае ў гэтым патрэбы. Яна настолькі гераічная і павучальная, што не мае патрэбы ні ў якой касметыцы...».

Як да гэтай думкі не далучыцца!

САМАДЗЕЙНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

На Валожыншчыне прайшло свята «Рэвалюцыя працягваецца» па праграме II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці. У ім

# Песня над Валожынам

вытворчага аб'яднання «Мінскпрамбуд», народны ансамбль пантамімы «Лік» Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода, тэатр-студыя «Калізей» Беларускага політэхнічнага інстытута і іншыя калектывы.

прынялі ўдзел госці з Мінска і мясцовыя самадзейныя артысты.

Гасцей сустрэлі хлебам-соллю на мяжы Валожынскага раёна. А ў самім Валожыне свята пачалося ўскладаннем кветак да магілы воінаў Вялікай Айчыннай вайны. Потым удзельнікі свята і гледачы накіраваліся на стадыён, дзе адбыўся вялікі канцэрт. Перад валожынцамі выступілі народны ансамбль танца «Лявоніха» Палаца культуры Мінскага трактарнага, народны хор

Добра сустрэлі гледачы вакальную групу ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны (Валожынскі гарадскі Дом культуры).

Свята працягвалася ў калгасах і саўгасах раёна, куды потым накіраваліся групы ўдзельнікаў канцэрта.

П. ВАСІЛЕЎСКІ.


Гледачы на стадыёне.


Кветкі да магілы воінаў Вялікай Айчыннай.


Артысты «Лявоніхі».

Фота Ул. КРУКА.

●

У саўгасе «Юркавічы» Лагойскага раёна прайшло свята народнага мастацтва. Ініцыятарам і арганізатарам яго правядзення была загадчыца клуба Лідзія Лукашова.

У фае клуба была наладжана выстаўка лепшых вырабаў вясковых умельцаў і майстрых — дыванкі, абрусы, макрамэ, сумкі, ручнікі, посцілкі. Тут жа гаспадыні паказвалі сваё ўмельства пячы і смажыць. Школьнікі арганізавалі сваю экспазіцыю — цацкі, карціны, зробленыя метадам выпальвання, казачныя збудаванні з запалак. А на сцэне клуба выступалі аматары песні, танца, мастацкага слова.

На заканчэнне свята пераможцам былі ўручаны падарункі і сувеніры.

Тэкст і фота У. БАСЬКО.

●


Удзельнік свята — саўгасны хор.




22 чэрвеня, 20.10

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА**

Канцэрт харэаграфічнага ансамбля «Росіца» Палаца культуры вытворчага аб'яднання «Шкловалакно» г. Полацка.

23 чэрвеня, 19.50

**ПРЭМ'ЕРА НОВАЙ КНІГІ**

Выхаду ў свет Купалаўскай энцыклапедыі быў прысвечаны ў Доме літаратара вечар, на якім выдаўцы сустрэліся з аматарамі беларускай літаратуры. Пра стварэнне кнігі расказалі І. Шамякін, В. Каваленка, А. Петрашкевіч, М. Грынчык, Б. Сачанка. Вершы чыталі артысты беларускіх тэатраў.

24 чэрвеня, 19.50

**«У СВЯТЛЕ РАМПЫ»**

Дыялог з заслужанай артысткай БССР Т. Мархель вядзе пісьменніца Г. Каржанеўская. Вы ўбачыце сцэны са спектакляў «Вечар», «Стары дом», тэлефільма «Новая зямля».

26 чэрвеня, 19.50

**ПАКАЗВАЕ ВІЦЕБСК**

Літаратурна-мастацкі часопіс «Дзвіна».

27 чэрвеня, 11.15

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ»**

«Тэма тэм» сучаснага мастацтва. Вядучы — мастацтвазнаўца У. Бойка.

27 чэрвеня, 12.20

**«У СЯМ'І АДЗІНАЙ»**

Перадача расказвае пра літаратурныя сувязі Беларусі і Грузіі. У ёй прымуць удзел пісьменнікі В. Ніціфаровіч, А. Разанаў, Н. Гапрындашвілі, А. Баганідзе, А. Нодзія, А. Асанідзе.

Вядучы — паэт-перакладчык У. Сіўчыкаў.

27 чэрвеня, 13.05

**«СЛОВА — ПАЭЗІІ»**

Вершы Ю. Свіркі.

27 чэрвеня, 14.50

**«МУЗЫЧНЫЯ СПЕКТАКЛІ ТЭАТРАЎ КРАІНЫ»**

П. Чайкоўскі. «Чарадзейка». Спектакль Горкаўскага тэатра оперы і балета.

27 чэрвеня, 18.20

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

Перадача раскажа пра пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У традыцыйнай рубрыцы «Літаратурныя дыялогі» выступяць філосаф У. Конан і крытык Я. Лецка.

27 чэрвеня, 23.15

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Музычная праграма з удзелам рок-групы «Адлюстраванне».

28 чэрвеня, 13.05

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ**

В. Лукша. «Калі вяртаюцца буслы». Спектакль народнага тэатра Дома культуры г. Пінска.

28 чэрвеня, 15.35

**«СТАРОНКІ ТВОРЧАСЦІ».**

Мастак М. Селяшчук.

Вядучы У. Бойка.

28 чэрвеня, 17.05

**«ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ»**

Сімпозіум СССР — ГДР па праблемах экранізацыі літаратурных твораў на тэлебачанні і духоўнага стану грамадства.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

В. АДАМЧЫК. І скажа той, хто народзіцца. Раман. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 1 р. 90 к.

Я. БРЫЛЬ. Ад сяўбы да жніва. Апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 2 р. 30 к.

І. ГРАМОВІЧ. Чатыры сантыметры надзеі. Аповесць, апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 90 к.

А. ДЗЯТЛАЎ. Вяртанне. Апавяданні, аповесці. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 1 р. 10 к.

М. ЛУЖАНІН. Вярнуся ветрам. Вершы, сатыра, гумар. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 55 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02191 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.